* * *

Алесь Камароўскі пад час працы ў Коласавым доме (1973–1976 гг.) моцна захапляўся футболам — гуляў, вёў віртуозна са стадыёна рэпартажы. Ды як — на беларускай мове! Зразумела, гэтая непаседлівасць краналася і мяне.

— Ці мог бы ты, Алесь, — пытаюся, — словам адным сказаць «забіць мяч у вароты»?

Не дадумваецца з ходу. Падказваю:

— Загаліць!

* * *

Бывае, моўнае маё «жанглёрства» міжвольна пранікае і ў сферу змрочную, смяротную. Напярэдадні 13 жніўня заўсёды тэлефаную блізкім і знаёмым, клічу на ўскладанне кветак на магілу дзядзькі Якуба. Не абыходжу і адпаведныя арганізацыі, установы. Заканчваю гаворку з чалавекам на другім канцы дроту пажаданнем:

— Да сустрэчы на могілках!

— Добра, добра, — згаджаецца суразмоўца.

Адзін, памятаю, знаёмец улавіў іншасказальнасць фразы:

— Што ты, Іван! Рана яшчэ...

З таго часу пазбягаю такой «сустрэчы».

* * *

Ідзе з нас хто раней часу з работы — іншы раз смехам заўважаем (па-руску): «ушлый (ушлая)» ці «безвременно ушедший (ушедшая)»...

* * *

Напісаў я пра свой музейны лёс аўтаоду «Споведзь літмузейца». Яна была змешчана ў «Літаратуры і мастацтве», калі газету ўзначальваў Анатоль Вярцінскі. Дай Бог яму здароўечка! Ранейшы рэдактар чамусьці заўпарціўся надрукаваць. Пятніца. Дзень выхаду «ЛіМа». Пайшоў я па нейкім музейным заданні ў выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя», да галоўнага рэдактара Івана Шамякіна. Сядзіць гаспадар кабінета над газетай, чытае «мяне».

— Цёзка, ты ж можаш добра пісаць!..

Я, не задумваючыся:

— А хто ж, Іван Пятровіч, ведаў бы пра нейкага Шамякіна, калі б не Курбека?!.

Загнаў народнага пісьменніка ў смех.

Мае пачуцці не размяклі,
І я зрабіў штось на вяку —
Са мной вітаецца Шамякін,
І Танк працягвае руку.

Сустракаю праз некаторы час пісьменніка Георгія Коласа. Пытаецца:

— Іван, як ты рассмяшыў Шамякіна?

— Адкуль Вы, Георгій Данілавіч, ведаеце?

— Мне сам Іван Пятровіч расказваў.

Прыемна, калі твой жарт перадаецца іншым «вушам», да таго ж — самім адрасатам жарту.

* * *

Часам хто-ніхто ў мяне цікавіцца:

— Ты, Ваня, працаваў у музеі Купалы, цяпер — у музеі Коласа... Якое ў цябе стаўленне да песняроў? Каго больш цэніш, любіш?

Адказваю:

— Калі раней у заметцы, артыкуле пісаў «Янка Купала і Якуб Колас увайшлі ў гісторыю...», то цяпер «Якуб Колас і Янка Купала ўвайшлі...»

* * *

Шанавалі мы, музейцы-купалаўцы, свайго дырэктара — Уладзіславу Францаўну, цёцю Уладзю. Стараліся нічым не пакрыўдзіць. Адзін раз не паслухаліся яе, падманулі. Завочна.

Блізіліся пярэбары ў новае, цяперашняе памяшканне музея, што размяшчаецца на месцы Купалавага дому, знішчанага бамбёжкай на трэці дзень фашысцкага нашэсця. А знаходзіліся мы ў падсуседзях у праўлення Саюза пісьменнікаў. У гэтым доме ў Айчынную вайну жыў гаўляйтар Кубэ. Тут жа ён займеў і свой трагічны скон. Будынак стаяў па вуліцы Энгельса, паблізу Купалаўскага тэатра. Калі побач узвысіўся цэкоўскі гмах, быў знесены — «замінаў».

Якраз перад самым пераездам (канец 1959 года) злегла ў бальніцу Уладзіслава Францаўна. Наказвала нам падшукаць

акуратных грузчыкаў (не бярвенне ці каменне перавозім — музейныя экспанаты!). Падумалі, памеркавалі. «Склаўшы ж рукі сядзець не будзем пры грузчыках-наёмніках? Перавязёмся сваімі сіламі!» Кожны з нас знайшоў для ведамасці «выканаўцу» і неўзабаве «павысіў сваё матэрыяльнае становішча».

Вяртаецца з бальніцы цёця Уладзя. Хваліць усіх за спраўныя пярэбары:

— Малайцы! Падзякуйце тым людзям ад мяне. Вы ж самі гэтак не змаглі б...

# З МУЗЕЙНЫХ СВЯТ

## «Пясняр і сёння ў поступе жыцця»[1]

Сустрэчы ў Коласавым доме... Яны ўжо сталі традыцыйнымі. І праз блакітны экран займелі шырокую і ўдзячную аўдыторыю. Сюды прыходзяць людзі, што мелі шчасце бачыць песняра, гутарыць з ім, а то і сябраваць. Прыходзяць і тыя, хто ведае яго толькі па творах, але каму паэтаў вобраз таксама дарагі.

І на гэты раз, як заўсёды, гасцей сустракаў сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч. У рабочы кабінет народнага песняра зайшлі Пімен Панчанка і Іван Шамякін. Вядома ж, адразу ў памяці ўсплылі хвіліны, калі кожнага з іх у свой час тут бацькоўскай ласкаю атуляў дзядзька Якуб.

Неўзабаве ўдзельнікі перадачы згрупаваліся ў гасцінай за невялікім столікам, каб павесці гутарку пра неўміручасць песняра.

«Якуба Коласа я ўпершыню ўбачыў недзе ў сярэдзіне трыццатых гадоў, — успамінае народны паэт Беларусі П. Панчанка. — Уразіла мяне яго самавітая постаць, ціхая паходка, нягучны голас. Але асабліва — высокі лоб і ўвесь твар: вельмі спакойны і, не магу сказаць інакш, мудры. Успамінаю яшчэ адно. Вершы, якія я пішу, — таксама яго бацькоўскае благаславенне. А яно было такое. Калі я вярнуўся з арміі ў снежні 1945 года, быў у гасцях у Канстанціна Міхайлавіча. І ён падараваў тоненькую кніжку на рускай мове «Голос земли», выдадзеную ў Ташкенце ў 1942 годзе, з надпісам: «Дасканаламу, таленавітаму паэту Пімену Панчанку на памяць». Так мне быў выдадзены непамерна багаты аванс...»

---

[1] Газета «Чырвоная змена», 20 снежня 1986 г.

Пра партыйнасць творчасці Якуба Коласа, пра яго высокую грамадзянскую пазіцыю ў жыцці гаварыў народны пісьменнік Беларусі, дэлегат XXVII З'езда КПСС І. Шамякін:

«Перад тым як сесці за гэты столік, я выпадкова разгарнуў 12-ты том Збору твораў Якуба Коласа. І якраз натрапіў на артыкул «Современность и писатель», напісаны Коласам на рускай мове, таму што друкаваўся ў «Правде» ў 1955 годзе напярэдадні Трэцяй усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў. Народны паэт Беларусі звярнуўся да моладзі. Я зачытаю дзве фразы: «Современность — это не только источник, питающий художника жизненными соками. Современность формирует его воззрения и направляет его дерзания». Наколькі па-сучаснаму гучыць гэты, напісаны больш за трыццаць гадоў назад, артыкул! Наколькі ён сугучны тым думкам, якія выказваліся на XXVII З'ездзе нашай партыі!»

Заслужаны дзеяч навукі, вучоны-філолаг Ф. Янкоўскі засярodзіў увагу на велічы мастацкага слова паэта, пацвярджаючы свае развагі радкамі з твораў Якуба Коласа, што сталі афарыстычнымі. «Пахвалімся, — зазначыў ён, — што такой колькасці афарызмаў, як пакінуў Колас, мала хто з сусветна вядомых пісьменнікаў пакінуў». Даследчык называе некаторыя і вытлумачвае іх сэнс. Найперш звяртаецца, як і папярэднія сугутаркоўцы, да неўміручай «Новай зямлі»: «Мой родны кут, як ты мне мілы!» і пашыраны варыянт «Мой родны кут, як ты мне мілы!.. Забыць цябе не маю сілы!»; «Назад не прыйдзе хваля тая, што з быстрай рэчкай уплывае»; «Я печ на рай не памяняю»; «Глядзеце, якая цаца ззяе ў смецці!»; «Адны трымаюць нос высока, другія ў дол спускаюць вока»; «Забілі зайца, не забілі, але ж, брат, гуку нарабілі»; «І спрэчку тым яны канчалі, што гэту скварку разразалі»...

У гаворку ўключаецца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы Васіль Зуёнак:

«Тут, бачыце, мы ўсе ходзім вакол Коласавай «Новай зямлі», як спадарожнікі вакол гэтай Зямлі, вакол гэтага Сонца нашай душы, душы нашага народа. Так, мы без Коласавай «Новай зямлі» не можам і не ўяўляем сябе як прадстаўнікі свайго народа і як творцы. І я зноў жа паўтару (у які ўжо раз!) словы, што тут прагучалі: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..» Паўтару іх, каб яшчэ раз падкрэсліць і засведчыць: вось дзе самае глыбіннае, самае лепшае наватарства! Гэта — традыцыя, пакінутая нам як запавет... Слова народа, яго душа і дзейнасць — вось тая глеба, на якой павінны грунтавацца нашы пошукі і вырастаць новыя творы».

У пацвярджэнне сказанага паэт прачытаў верш «Тры вышыні».

Тры вышыні,
Тры сілы знаю ў лесе:
З камлёў — сталёвая,
Дзе мох бароды звесіў;
Другая —
Цесняй звонкай —
Пасярэдзіне,
Дзе сонца захлынаецца ад медзі;
А ля аблок —
У гойданцы зялёнай —
Жыцця пачаткі
Правяць цуд штодзённы...
З камлёў тугіх
Спрадвек вянцы вязалі,
З балоняў
Звонкія цымбалы выразалі,
Ўзляталі думкай да вяршынь
Паэты —
Пазнаць
Імгнення і жыцця
Сакрэты...
Такім я знаў цябе...
А тут жахнуўся:
Не ўцяміў — дзе я...
І не ўцямлю, мусіць:
Рабрыстыя — ў падсочках,
Нібы здані, —
О сосны,
Хто прыдумаў вам Майданак?!
Хто цвёрдаю рукой падрэзаў жылы,
Жывіцу цягне з вас —
Жывую сілу?..
Знайду!
І перад вашым, сосны, вечам,
На тым судзе —
Лясным і чалавечым —
Спытаю гнеўна —
Хай адказ трымае:
Чаму

Дух смольны з нашых хат знікае
І гніль вянцы бярэ?
І гэтак вяла
І глуха так чаму пяюць цымбалы?
Чаму ў паэтаў паніжэлі думы,
Не вырвуцца ніяк з пустога тлуму?..
І калі ён змаўчыць,
Дык вы — крычыце!
Крычыце, сосны,
Сосны, не маўчыце...

«Я заўсёды сваю паэзію стараюся вывяраць з паэзіяй Коласа, што, кажучы вобразна, для мяне з'яўляецца тым асялком, на якім можна вызначыць вартасць паэтычнага слова, паэтычнага радка», — прызнаецца ў сваім выступленні зямляк вялікага песняра, нараджэнец Мікалаеўшчыны Мікола Маляўка і чытае верш «На вуліцы Коласа мама жыве».

На вуліцы Коласа
Мама жыве.
Нялёгка старэнькай,
Яшчэ — і ўдаве.
Як дзеці,
Не спяць
Успаміны пры ёй.
Паплача, бывае,
Над «Новай зямлёй»:
Пра Ганну чытае,
Нібы пра сябе,
Забытую там —
На жніве,
На касьбе.

Нясмела пытае,
Пра што я пішу.
Кажу:
«Пра любімага краю душу,
Пра тую дзялянку,
Дзе бацька араў,
Дзе спіць пад сасною —
Наводшыбе спраў.
Пішу пра зямельку,
Пішу пра людзей,

Пішу пра звычайных,
Пра зорных —
Радзей».

Наказвае мама:
«Пяром не грашы!»
Наказвае мама:
«Праўдзіва пішы!»
Расказвае мне
Пра Міцкевічаў род,
Пра дзядзьку Якуба —
У росквіце год.
Калыша ўспаміны
Цішэй,
Карацей,
Пакуль уначы
Не прыспіць,
Як дзяцей.

На вуліцы Коласа
З мамай жыву,
Шаную старэнькую
Маму-ўдаву.
За просьбай-наказам
«Праўдзіва пішы!» —
Зярнятка надзеі
Хаваю ў душы:
Нашчадкі сустрэнуцца
З мамай маёй,
Як з Ганнаю мама —
Над «Новай зямлёй».

Гэту змястоўную, памятную сустрэчу свабодна і дасціпна вёў пісьменнік Алесь Савіцкі (дарэчы, у 1950-я гады ён працаваў у Літаратурным музеі Якуба Коласа). Пэўны час быў вядучым тэлечасопіса «Літаратурная Беларусь». Абавязкі «тамады» ў падобных перадачах яму вельмі падыходзяць. Умее А. Савіцкі імправізаваць, лаканічна і моцна «вязаць» выступленцаў, што надае ўсёй сустрэчы ідэйную і тэматычную цэласнасць.

З 1967 года з Коласавага дому вядуцца такія перадачы. «Гегемонам» у першых трох выпусках быў выдатны прамоўца Пятро Глебка. Затым эстафету ўзяў самы коласаўскі коласавец, майстар пісьмовага і вуснага слова Максім Лужанін. Ён і зараз,

калі здаровіцца, самы шаноўны павадыр розных пасяджэнняў, прысвечаных песняру.

Тысячы людзей маюць мажлівасць яшчэ і яшчэ раз дакрануцца да Коласавай неўміручасці дзякуючы тэлевізійнаму памнажэнню сяброўскіх сустрэч, што наладжваюцца ў Доме-музеі народнага паэта.

Напісанае застаецца... А сказанае?.. Хацелася б мець захаванымі падобныя тэлеперадачы не толькі для далейшага слыхавога (музей апошнім часам запісвае на магнітафонную стужку гэтыя сустрэчы), але і для зрокавага выкарыстання.

Тэлеперадача, пра якую ідзе гаворка, называлася «Пясняр і сёння ў поступе жыцця». Па просьбе гледачоў яна была паказана паўторна.

## Сыноўняя вернасць[1]

*Зінаіда Камароўская:*

— Шаноўныя сябры! Вельмі радасна бачыць вось гэтую залу такой паўнюткай. Вельмі радасна, што столькі многа ў нас сяброў, прыхільнікаў музея, людзей, сэрцам і душою адданых Коласу. Мы сабраліся тут дзеля важкай падзеі. 35 гадоў прайшло з тых часоў, калі адчыніў свае дзверы Літаратурны музей Якуба Коласа, і 80 гадоў споўнілася нядаўна стваральніку музея, першаму яго дырэктару, старэйшаму сыну песняра Данілу Канстанцінавічу Міцкевічу.

35 гадоў — гэта не такі ўжо і малы адрэзак часу. І калі паглядзець з вышыні пройдзеных гадоў, то зробленае па ўшанаванні памяці Якуба Коласа музейнымі працаўнікамі выглядае даволі ўнушальна. Да 1980 года Даніла Канстанцінавіч быў дырэктарам музея, гаспадаром клапатлівым, чулым, добрым. Пасля яго рупіўся Георгій Андрэевіч Ткацэвіч, які зараз узначальвае Музей архітэктуры і побыту Беларусі.

За час існавання музея былі створаны тры экспазіцыі ў асноўным музеі ў Мінску, выдатныя філіялы музея на радзіме Якуба Коласа, на Стаўбцоўшчыне — у Смольні, Акінчыцах, Альбуці. Адзіная ў рэспубліцы мемарыяльна-мастацкая кампазіцыя «Шлях Коласа» працуе на радзіме народнага

---

[1] Літаратурна-музычны вечар, прысвечаны 80-годдзю Данілы Міцкевіча і 35-годдзю музея Якуба Коласа. Прайшоў 17 лістапада 1994 года ў Доме літаратара.

паэта. Гэта — кампазіцыя з драўляных фігур (каля 40), якія раскрываюць, ілюструюць творы Якуба Коласа. Ушанаваны мясціны песняра ў Цёмных Лядах, на Прыстаньцы, у Мікалаеўшчыне.

Супрацоўнікі музея праводзяць стаўшыя традыцыйнымі мерапрыемствы — Каласавіны, фестываль юных музыкантаў «Сымон-музыка», святы «Альбуцкая крынічка», «Песняй вітаю я вас!». У музеі праходзяць літаратурныя чацвяргі, дзіцячае свята «Казкі жыцця»...

За гады існавання музея выйшлі альбомы аб жыцці і творчасці Якуба Коласа, зборнікі матэрыялаў пра народнага паэта, розныя буклеты, рэкламная прадукцыя. І ўсё гэта рабілі і робяць энтузіясты. Бо мы ведаем, на якія рублі яны працуюць. Хочацца ўсім, цяперашнім і былым музейцам, выказаць удзячнасць за іх клапотнасць, за іх апантанасць.

Самым коласаўскім коласаўцам у нас з'яўляецца Даніла Канстанцінавіч. І хочацца пажадаць яму яшчэ многа-многа гадоў жыцця. Ён у нас самы галоўны дарадца, ён наш бацька, ён наша хадзячая энцыклапедыя. Да яго з любым пытаннем можна звярнуцца і атрымаць адказ, падтрымку.

*Анатоль Бутэвіч*[1]*:*

— Дарагія сябры! Не, не ўсё ў нас кепска, не, не ўсё блага ў справе нацыянальнага Адраджэння і станаўлення нашай Бацькаўшчыны! Паглядзіце на гэтую залу! Ці часта вы бачылі залы, дзе людзі стаяць на мерапрыемствах, якія прысвячаюцца нашым знакамітым людзям, знамянальным падзеям? Не, не ўсё безнадзейна! Я аптыміст у гэтай справе. І дзякуй Богу, што такіх людзей большае. Прыемна, што добрая палова гэтай залы моладзь. Значыць, справа, якую рабілі і робяць старэйшыя пакаленні, перадаецца ў надзейныя, добрыя рукі. Хацеў бы ва ўсякім разе спадзявацца, што гэта так.

Што ж да юбілею музея, яго слынных супрацоўнікаў, то мне здаецца — гэта і справядліва, і заканамерна, што ўсе мы сабраліся адзначыць дбайную, добрую працу музейшчыкаў. Сёння яна, на жаль, мала ўшанавана фінансава, мала ўшанавана матэрыяльна. Дык як жа нам іх не аддзячыць маральнай падтрымкай? І я думаю, што ў любой справе ўсё трымаецца на людзях, на асобах. Няма, на жаль, таго матэрыяльнага задавальнення, той

---

[1] Анатоль Іванавіч Бутэвіч — пісьменнік, міністр культуры і друку РБ.

фінансавай падтрымкі, якую павінна была б атрымліваць наша слынная, знакамітая беларуская культура. Але ёсць асобы, якія былі, ёсць і будуць у гэтай культуры духоўным апірышчам, той дапамогай, якая была і застанецца нашым спадзяваннем на лепшае, у тым ліку ў справе музейнай.

Так супала, што мы сёння цэлы дзень праводзілі пасяджэнне Калегіі. Мы слухалі пра практычныя музейныя справы. Вы ведаеце, я парадаваўся за людзей, якія працуюць тут. Энтузіясты, адданыя сваёй справе, працуюць за сумленне, за тое, што ў іх ёсць боль, адчуванне патрэбы ў нашай справе. Мне здаецца, што ёсць вялікая недапрацоўка ўсіх нас. Да гэтага часу няма ніводнага Поўнага збору твораў ніводнага з нашых пісьменнікаў. Сёння практычна ідзе такая работа па выданню твораў Максіма Багдановіча. Але ж і Янка Купала, і Якуб Колас чакаюць такой работы. Таму я думаю, што праца музейцаў павінна быць скіравана і ў гэтым напрамку — выяўляць усё, звязанае з імем вялікага паэта, слыннага нашага сына, каб разам з навукоўцамі з Акадэміі стварыць магчымасць для выдання Поўнага збору твораў Якуба Коласа.

І зноў жа гавару: у любой справе галоўнае — людзі, асобы. Я хацеў бы яшчэ раз шчыра, сардэчна павітаць аднаго з выдатнейшых працаўнікоў на ніве беларускай культуры, таго, хто і сваім прыкладам і сваім жыццём паказвае, як трэба адносіцца да справы. Я маю на ўвазе Данілу Канстанцінавіча. Мы ў свой час мелі магчымасць ушанаваць яго нашай граматай, мы маглі яму сказаць некалькі цёплых слоў раней. Тым не менш, я сёння хачу падзякаваць Данілу Канстанцінавічу за вялікую работу, за яго адданасць справе, за апантанасць справай. Калі ёсць людзі не раўнадушныя, тады і іншыя каля іх не могуць быць раўнадушнымі. Дзякуй, Даніла Канстанцінавіч, за зробленае Вамі, дзякуй за Ваш вопыт і за Ваша жаданне працаваць яшчэ і далей на ніве нашай культуры! І хай не крыўдуе сённяшні дырэктар музея — я хацеў бы ўручыць Данілу Канстанцінавічу кветкі ад імя Міністэрства культуры як самаму адданаму працаўніку Вашага музея, Вашага дзецішча...

Няхай шчасціць Вам у гэтым жыцці! Няхай і далей вакол Вас будуць добрыя людзі! Дзякуй Вам!..

*Ніл Гілевіч:*

— Шаноўны, дарагі Даніла Канстанцінавіч! Дарагія супрацоўнікі Дому Коласа і ўся шаноўная грамада! Дзве даты адразу сабралі нас тут. Кожная з іх — дастатковая падстава для свята

культуры. Ну, а калі дзве сумясціліся ў адну, мы бачым, што свята атрымалася асабліва ўрачыстае, светлае, шматлюднае. Вельмі рад, што так.

Я неаднойчы меў магчымасць сказаць коласаўцам добрае слова і ўдзячнасці, і пахвалы, і падтрымкі, таму што Дом Коласа — гэта Дом беларускай культуры, заслугі якога цяжка пераацаніць у нашым сённяшнім духоўным, культурным жыцці. І заўсёды, калі мы гаворым ці звяртаемся ў думках да музея Коласа, канешне ж, мы перш за ўсё адрасуемся да яго заснавальніка і галоўнай постаці ў гісторыі музея — Данілы Канстанцінавіча. Здзіўляе ўсе гэтыя 35 гадоў (відаць, я столькі і ведаю Данілу Канстанцінавіча) яго нястомны клопат пра памяць, імя і аўтарытэт Якуба Коласа, а значыць, і нашай літаратуры. Вядома, нехта можа і падумаць: а што здзіўляцца — ну, гэта ж бацька, як жа не клапаціцца? Так, вядома, — бацька. Але ж не толькі бацька добрых сыноў, добрых дзяцей. Гэта і адзін з бацькоў нашай літаратуры. Хай не крыўдуюць на мяне нашы заслужаныя коласазнаўцы, я аддаю ім належнае і вельмі высока цаню іх працу, але так, як ведае Коласа і як чалавека, і як пісьменніка, і як грамадзяніна, і як ведае спадчыну Коласа Даніла Канстанцінавіч, бадай, ніхто не ведае. І думаю, вось гэта галоўнае, што вяло і вядзе ў працы Данілу Канстанцінавіча Міцкевіча.

Што заўсёды ўражвала і выклікала самыя цёплыя пачуцці і павагі, і ўдзячнасці, і радасці за тое, што побач з намі жыве і працуе такі чалавек, — гэта высокі ўзровень культуры Данілы Канстанцінавіча. Калі думаю, калі бачу Данілу Канстанцінавіча, я ўспамінаю такіх людзей нашай культуры, якія яшчэ зусім нядаўна былі з намі, як акадэмік Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, як паэт і перакладчык Юрый Паўлавіч Гаўрук. Гэта першыя беларускія інтэлігенты, якія падняліся да самага высокага ўзроўню культуры і ўсім, хто з імі ішоў поплеч па дарозе, давалі прыклад.

Пра Данілу Канстанцінавіча можна было б гаварыць вельмі многа. Я хачу яшчэ раз сказаць, што ўсе мы адчуваем, ведаем, разумеем, што вяло і вядзе ў жыцці гэтага сціплага, слаўнага чалавека, — яго любоў да бацькоў, да Бацькаўшчыны, да літаратуры, да культуры нашай і яго вялікая вера, што будзе перамагаць і пераможа наша культура, наша мова, наша слова, найвялікшым прадстаўніком, заступнікам якога, абаронцам і творцам быў Якуб Колас.

*Янка Брыль:*

— Прыгадваюцца празрыстыя, простыя і змястоўныя словы Льва Талстога: «Чтение — это общение с душами прежде живших людей». Радасць гэтага, паўтарыўшы ёмкае рускае слова, «общения» мы ўсе адчуваем над старонкамі твораў Якуба Коласа — прозы яго, паэзіі, якая мае вялікую ўласцівасць трывучасці, бо яна перачытваецца і яшчэ, і яшчэ раз, пачынаючы са школьнага маленства. У музеі адчуваеш тое самае «общение» з душою чалавека. У музеі Коласа, каля яго пісьмовага стала, дзе былі напісаны апошнія словы яго вялікай творчасці... Там згадваеш яго паход да тых, якія прычыняліся да запланаванай згубы беларускага слова, беларускай мовы. Ён хадзіў туды, каб сказаць свае слова сына народа. Гэта было якраз у апошні дзень яго жыцця.

У Акінчыцах каля роднай хаты яго, у Альбуці, дзе прайшло маленства паэта, у той Альбуці, якая так непарыўна звязана з нашым шэдэўрам усенародным — «Новай зямлёй», у іншых коласаўскіх мясцінах — усюды адчуваецца гэтая высокая душа вялікага беларуса.

Мне даводзілася бываць у доме Канстанціна Міхайлавіча, нашага дарагога дзядзькі Якуба, які прымаў нас, маладых. З таго часу, я сказаў бы, пачынаецца маё спачатку знаёмства, пасля сяброўства з Данілам Канстанцінавічам. Гэта таксама вялікая коласаўская душа. Гэта чалавек выдатна выхаваны. Дый не магло быць інакш. Бо ён жа з сям'і Коласа. Гэта чалавек, пра якога можна сказаць, што гэта сапраўдны беларускі інтэлігент. Прычым чалавек, які захаваў вельмі прываблівую і вельмі трывалую рысу нашага нацыянальнага характару — пры вялікай змястоўнасці адпаведна вялікая чалавечая сціпласць. Ён працуе — і дзякуй Богу! Нядаўна была здраджана адна таямніца Данілава. Недзе прачытаў я, што ён працуе над кнігай пра бацьку. Хай жа Бог памагае яму! Ніхто так не зробіць, як ён. І сёння я рад яшчэ і яшчэ раз публічна засведчыць яму сваю глыбокую пашану і сардэчную, брацкую любоў.

*Сяргей Грахоўскі:*

— Дарагія сябры! Мне ўспомнілася, што ў свой час, яшчэ да гамсахурдзіеўска-шаварнадзэўскага крывавага разгрому Грузіі, там жыла традыцыя — маладым у дзень шлюбу дарыць «Віцязя ў тыгравай шкуры». Гэта — як Запавет, як Катэхізіс, гэта як маральны кодэкс для кожнага маладога грузіна і грузінкі. У нас у Беларусі я б увёў традыцыю — каб такім падарункам для

кожнага маладога і для кожнай маладой, каб у кожнай хаце, у кожным доме, у кожнай кватэры былі «Новая зямля» і «Сымон-музыка». «Новая зямля» — гэта сапраўды наша Евангелле, гэта наш маральны кодэкс, гэта летапіс усіх традыцый душы беларускага народа. Гэта твор, які зрабіў людзей майго пакалення адданымі, чыстымі, святымі прыхільнікамі, паслядоўнікамі, барацьбітамі за нашу незалежнасць, за нашу культуру. Іменна на «Новай зямлі», на «Сымоне-музыку», на першых апавяданнях Якуба Коласа ў зборніку «У ціхай вадзе» я выхаваўся і адчуў сябе чалавекам.

Мне давялося жыць па суседству з тым старым домам. За плотам, і асабліва зімою, праходзячы па Шпітальнай вуліцы, я чуў, як цюкае сякерка, як наш вялікі паэт сячэ дровы, стоячы ў кажушку. Я гляджу на Міхася Канстанцінавіча — успамінаю яго вось такім хлапчуком, як яго ўнучка прыкладна. Ён і Канстанцін Міхайлавіч стаялі каля кінатэатра «Пралетарый», і мне пахваліўся Колас: «Вось Міхасю купіў новую шапачку». Гэта вялікая душа простага чалавека.

Тое, што зрабілі работнікі музея, варта ўсякай ухвалы. Колас з кожным днём, з кожным годам бліжэй і бліжэй, даражэй і даражэй нашай душы, нашым традыцыям, нашым нашчадкам. У гэтым пераканала сённяшняя зала. Колькі прыйшло моладзі, колькі прыйшло людзей! А колькі навукоўцаў сталі кандыдатамі, дактарамі навук на творчасці Якуба Коласа! Няхай пры вашым стаpaнні ніколі не пусцеюць, ніколі не зарастаюць Коласавы сцежкі! Няхай яго імя будзе раўназначна таму святому слову, якое мы называем Адраджэннем.

*Мікола Аўрамчык:*

— Сягоннящняе свята для мяне асабліва хвалюючае. Яно наводзіць на многія ўспаміны аб даўнім. Янка Брыль успомніў тут, як Колас некалі запрасіў нас, маладых. А я вось зараз падумаў, Гаварылася тут пра 35-годдзе музея. А з часу нашай сустрэчы прайшло ўжо 45 гадоў. І ўжо нас мала засталося. Дарэчы, з той пары я таксама і ведаю Данілу Канстанцінавіча. Здымкі тыя мне нагадваюць заўсёды. Я вам скажу, што, вандруючы з гэтым чалавекам па нашай Радзіме, я адчуў і блізка ўведаў яго. І, бывала, ці ў Піцеры, ці ў Маскве, ці ў нас — у любой вёсцы, у любым паселішчы на святах, я заўсёды з захапленнем і замілаваннем глядзеў на гэтага чалавека, бо ёсць па кім раўняцца, як сябе паводзіць і як сябе трымаць.

Мне пашчасціла — у гэтым Доме, у Коласавым доме, з Коласавых рук браў я многія-многія рэчы для друкавання. Памятаю, як Канстанцін Міхайлавіч аддаваў мне зварот да моладзі ў «Чырвоную змену» альбо верш у гэтую газету. Пасля, калі я працаваў у «Полымі», вельмі часта бываў тут. Амаль усе раздзелы рамана «На ростанях» я забіраў у Канстанціна Міхайлавіча. Мяне пасылаў Валодзя Карпаў, які загадваў тады аддзелам. І з «Маладосці», калі мы пачалі часопіс, заходзіў да Коласа. У першым пакоі справа Канстанцін Міхайлавіч даваў мне прывітанне да моладзі ў першы нумар «Маладосці». Там Дзітлаў Саша рабіў фотаздымак яго для прывітання. Адным словам, усё звязана ў мяне з гэтым домам. Я прачытаю вам свой верш «У доме Якуба Коласа»:

Здаецца нават,
што дзвярны праём тут павузеў,
калі цяпер
сюды ўваходзіш са двара...
Я не прывыкну ўсё ніяк,
што тут цяпер музей
і што самога
тут няма гаспадара.
А помніце, сябры,
як некалі ў спякотны дзень
сюды
мы ў госці ім запрошаны былі,
як бедаваў тады паэт,
што зноў стаіць сухмень,
што нівы нават ні расінкі не пілі?
Прайшлі дажджы...
З двара чуваць людскія галасы...
Як быццам выйшаў ён
падыхаць водарам сасны,
палюбавацца,
як закрасавалі каласы
ім вырашчанага
гатунку збажыны.
Барометр на стале
прарочыць ясны дзень з начы...
Ліст не дапісан ім...
Я ў сэрцы ўсё збярог,
як той юнак,

якому
жураўліныя ключы
ён уручыў
і жураўлінае пяро.

*Іван Чыгрынаў:*

— Я думаю, што Данілу Канстанцінавічу пашанцавала нарадзіцца ад такога бацькі. Сёння многа гавораць пра Данілу Канстанцінавіча. Гэта вельмі гасцінны чалавек. Добры душой. Мы, маладзейшыя і старэйшыя, хто з намі быў, помнім гэтую гасціннасць.

Я выйшаў да мікрафона, каб павіншаваць і супрацоўнікаў музея, і вас усіх з гадавінай стварэння музея і пакланіцца Данілу Канстанцінавічу.

Калі праўду кажа тая цётка, што Даніла Канстанцінавіч узяўся пісаць кнігу пра бацьку, то гэта будзе вельмі добра, гэта будзе ажыццёўлена гістарычная справядлівасць. Кніга пра Якуба Коласа выйдзе нарэшце добрая, аб'ектыўная і цёплая, бо Даніла Канстанцінавіч паказаў апошнім часам свае ўмельства пісаць па-мастацку. І зноў жа — аб'ектыўна, прыгожа і далікатна. Ён нават спрачаецца вельмі далікатна. Добрага Вам і доўгага жыцця, Даніла Канстанцінавіч! Зноў кланяюся Вам.

*Рыгор Барадулін:*

— Дарагі Даніла Канстанцінавіч! Я хачу павітаць Вас, пажадаць Вам добрага здароўя і падтрымаць добрую вестку, якую сказаў Іван Антонавіч і святлейшы Іван Гаўрылавіч, што Вы пішаце кнігу пра вялікага Якуба. Я магу многа гаварыць пра тую ласку, якую Вы рабілі. Хацеў бы адзначыць тут вялікую дружбу Данілы Канстанцінавіча з нашым вялікім Уладзімірам Караткевічам. Гэта была шчырая дружба двух высакародных людзей. Даніла Канстанцінавіч, я хачу пачытаць Вам экспромт (ён, праўда, запісаны):

### Данілу К. Міцкевічу

Дажджом лугавым
Аблачына радуе.
Пасаг багаты ў багатай скрыні.
Ад яблыні яблык далёка не падае.
І паўтараецца бацька ў сыне.
Сын бацькаву мулкую думку

Пялегуе,
Бядзіць яго бацькаў клопат пякучы.
Бо мусіць знадзеіць
Траву палеглую,
Як вольнакроны думак на кручы.
Лёс на буслова гняздо
Выгне кола сам.
Каравай не таннай славай
Пячэцца.
Слядамі веры
За бацькам Коласам
Ісці нялёгка,
Таму й пачэсна!

*17.11.1994 г. Мінск*

Ідзіце яшчэ доўга-доўга! Будзьце з намі!

*Васіль Зуёнак:*

— Дарагі Даніла Канстанцінавіч! Як па мне, дык хата Коласа, музей Коласа і Вы, Даніла Канстанцінавіч, — адзінства. Я не магу ўявіць сабе, каб прыйсці туды, у музей, і не ўбачыць Вас, такога самавітага, там, на парозе, такога па-сялянску сціплага, мудрага, дастойнага. І ўсё гэта вельмі блізка нам, пісьменнікам. Сапраўды, гэтае духоўнае поле, тая энергія коласаўская — яна недзе вылучаецца, выпраменьваецца Вамі, выпраменьваецца Вашым характарам. Нават Вашымі паглядам і паставай. Паглядзіце на сваю руку. Гэта сялянская рука, якой даспадобы і каса, і плуг. І душа ў Вас такая ж сялянская — шчырая, няхітрая, але мудрая. Ды не толькі духоўнасць гэтая яднае. Я заўсёды адчуваю, калі бяру Вашу руку. Мне здаецца, што я трымаю руку Якуба Коласа, што гэта ён са мной вітаецца. Гэта духоўная еднасць, гэта еднасць, якая перадаецца праз Вас, сыноў Якуба Коласа, праз Вашых дзяцей, унукаў. Гэта ў нашых вачах расце, квітнее, вяснуецца магутнае Коласава дрэва. Хай жа будзе вечным! Хай жа яно разгортвае сваю пышную крону! Хай радуе нас, нашы душы, нашых нашчадкаў! Жывіце, мацуйцеся і ўмацоўвайце, як магутны атожылак, Коласава дрэва!

*Пятро Прыходзька:*

— Я прачытаю верш, прысвечаны дарагому Данілу Канстанцінавічу. Але шчыра прызнаюся, што гэты верш напісаны не сягоння і не ўчора, а напісаны даўнім часам і захоўваўся ў маіх рукапісах (яшчэ нідзе не друкаваўся).

## Бацькоўскі посах

Табе дарыў кастрычнік месяц
Жывыя кветкі з верасоў,
Паклікаў зноў ад родных весніц
Ісці ў прастор палёў, лясоў.

Твой ліставей па-над парогам
Праплыў асенняю парой
І над бясконцаю дарогай
Узняўся новаю зарой.

Вазьмі ж той посах, што прадвеснем
З ядлоўцу бацька твой рабіў, —
Ён дапаможа йсці па лесе,
Дзе лось у рог свой пратрубіў.

Ён майстрам быў адшліфаваны
Так, што ў руках ажно гудзе,
І да людзей у час жаданы
Цябе заўсёды прывядзе.

Табе пакажуць зоркі з неба,
Як нас бацькі ў жыццё вялі,
Як надалей трымацца трэба
Прастораў новае зямлі.

З тым посахам ні ўдзень, ні ўночы
Ты не саб'ешся з шляху ўбок —
Ты нас вадзіў не раз, не двойчы
У Альбуць, Акінчыцы, Ласток.

Паказваў блізкія сцяжыны,
Бацькоўскі родны, мілы кут,
Дзе нараджаліся быліны,
На волю вырваўшыся з пут.

Яны і сёння ў шлях няблізкі
Вядуць нас роднаю зямлёй,
Дзе ты малым яшчэ, з калыскі
Іх чуў ад мацеркі сваёй.

Там, дзе пад ветрам вехі ў полі
Час расстаўляў пры бальшаках, —
Радзіме ўсёй быць у суполлі
Са словам Коласа ў вяках!

*Уладзімір Сянько[1]:*

— Добры вечар, паважаныя сябры, дарагія юбіляры! Я думаю, што вы ўжо ўсё зразумелі. Я сёння меў гонар апынуцца ў такой надзвычайнай, ганаровай кампаніі. Нам, працаўнікам знешнепалітычнай сферы, лягчэй працаваць, калі наша дзяржава магутная сваімі дасягненнямі ў галіне эканомікі. Але сёння мне таксама было вельмі прыемна адчуць, што наш беларускі народ усё больш і больш успамінае пра тое, што было створана раней у сферы культуры, у сферы духоўнага Адраджэння. Я хачу сказаць, што заўсёды любіў Коласа. Ён застаецца тым, кім быў сёння названы — Евангеллем. І з гэтым немагчыма не пагадзіцца. Хацеў бы тут, карыстаючыся нагодай, ад усёй душы пажадаць усяго найлепшага нашчадкам Якуба Коласа — старэйшаму сыну Данілу Канстанцінавічу, кіраўніцтву музея, усім працаўнікам музея з нагоды юбілею. Усяго вам найлепшага!

*Зінаіда Камароўская:*

— Павіншаваць нас прыйшоў народны пісьменнік Беларусі, усімі намі любімы Васіль Быкаў. Я хачу зачытаць радкі з кнігі водгукаў (з Вашага, Васіль Уладзіміравіч, дазволу):

«Дарагі Колас! Я не бачыў цябе ніколі пры жыцці, але ты запаліў ва мне агеньчык хараства, і вечнае табе за гэта дзякуй! Дзякуй табе за маё кніжнае дзяцінства і за твой народны і вельмі чалавечы талент». Гэта запіс першых дзён пасля адкрыцця музея. Дзякуй Вам таксама!

Віншаванне юбіляру прыслаў і родзіч Якуба Коласа Міцкевіч Уладзімір Аляксандравіч.

«Дарагі Даніла Канстанцінавіч! З нагоды Вашага юбілею дазвольце шчыра, сардэчна, ад глыбіні душы павіншаваць Вас, арганізатара музейнай справы ў многіх кутках Беларусі і прапагандыста творчасці вялікага песняра беларускага народа Якуба Коласа». І ён прысвяціў верш Данілу Канстанцінавічу:

Я караб шчасця Вам жадаю.
Што пажадаць яшчэ я маю?
Квітнець жадаю, маладзець,
Душой ніколі не старэць,
Глядзець на жыццё, як на сонца.
Жадаю радасці бясконца,
Каб траў бальзам з усіх лугоў

---

[1] Уладзімір Сянько — міністр замежных спраў РБ (1994–1997).

Пілі з біклагаў і рагоў —
І за бяседаю застольнай
Гучаў Ваш голас песняй вольнай!

*Марыя Міцкевіч:*

— Мне б хацелася ад імя ўнукаў і праўнукаў, а таксама ад майго бацькі, малодшага сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча, пра якога пісаны «Міхасёвы прыгоды», павіншаваць сёння дзядзьку Данілу, дырэкцыю музея і ўсіх супрацоўнікаў за іх штодзённую цяжкую працу па ўшанаванні памяці нашага дзеда і захаванні яго спадчыны.

Ужо 35 гадоў мы жывём у адным двары і амаль кожны дзень бачым, як супрацоўнікі музея спяшаюцца на сваю працу ў той дом, дзе калісьці я нарадзілася, дзе прайшлі першыя гады майго жыцця. Зараз у гэтым доме мы чуем галасы, дзіцячыя галасы наведнікаў музея. І памятаем любоў нашага дзеда да дзяцей, не толькі да сваіх унукаў. Мы памятаем, колькі разоў ён сустракаўся з выхаванцамі дзіцячых дамоў і колькі твораў прысвяціў дзецям. Гэта таксама адбілася і на маім лёсе, бо зараз я ўзначальваю Дзіцячы фонд культуры і духоўнага адраджэння «Сакавік». Віншую супрацоўнікаў музея ад імя нашага фонда. Мы маем вельмі цесныя сувязі з нашай беларускай эміграцыяй, і мне прыемна сказаць, што і там памятаюць нашага дзеда. Пра гэта сведчаць і шматлікія эміграцыйныя выданні. Праводзяцца і вечарыны. Карыстаючыся нагодай, мне б хацелася перадаць Зінаідзе Мікалаеўне, дырэктару нашага музея рукапісы, што я прывезла з Лондана, з бібліятэкі імя Ф. Скарыны, якую ўзначальвае добры сябра нашага фонда айцец Аляксандр Надсан, і таксама кнігу Веры Рыч з перакладамі Коласавых вершаў на ангельскую мову.

*Радзім Гарэцкі[1]:*

— Дазвольце і мне далучыць віншавальны голас ад імя Акадэміі навук і асабліва ад Аддзялення грамадскіх навук і ад Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». Дом Коласа — гэта не толькі вялікі Дом культуры, але гэта і вялікі Дом навукі, таму што Якуб Колас з першага дня заснавання Акадэміі і да апошняга дня свайго жыцця быў яе віцэ-прэзідэнтам. Яго сыны таксама людзі вядомыя ў рэспубліцы, у вучоным свеце. Міхась, доктар

[1] Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі — акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН Беларусі.

навук, у нас працуе. Даніла быў выдатным хімікам. Акадэмік Ахрэм казаў, што гэта быў самы здольны хімік, якіх ён ведаў. У гэтай галіне ў яго былі выключныя дасягненні. Але ж, бачыце, ён ахвяраваў сваім напрамкам і стаў такім надзвычайным навукоўцам — ужо ў коласазнаўстве, у музеязнаўстве. Я думаю, што гэта — подзвіг Данілы Канстанцінавіча, што так разумна і беражліва ахоўвае спадчыну свайго бацькі.

Яшчэ раз віншую нашых юбіляраў. Мне б хацелася адзначыць іх вялікі ўклад у наша нацыянальнае Адраджэнне. І я думаю, што разам з імі дойдзем мы ўсё ж да сапраўднай, незалежнай, квітнеючай Беларусі. Жыве Беларусь!

*Даніла Міцкевіч:*

— Дарагія сябры! Я хачу шчыра і сардэчна падзякаваць усім за тыя цёплыя словы, што былі сказаныя і ў адрас майго бацькі, і ў адрас музея, і ў мой адрас. Вельмі прыемна, што тут сабралася многа харошых людзей. Прыемна мець такую вялікую колькасць сапраўдных сяброў, якія нас так уважліва слухалі. Мне хацелася б многае сказаць тут у адказ. Хочацца прыгадаць самым цёплым словам музейцаў нашых, работнікаў Міністэрства культуры, навукоўцаў Акадэміі навук Беларусі, работнікаў дзяржаўнага апарату — рэспубліканскага, абласнога і раённага, супрацоўнікаў міністэрстваў і ведамстваў, дзесяткі будаўнічых аб'яднанняў і ўстаноў за тую вялікую работу, якая была праведзена пры стварэнні музея і яго філіялаў.

Хочацца сардэчна падзякаваць нашым пісьменнікам, якія многа зрабілі і зробяць у нашай справе.

Дзякуй усім!

## Два юбілеі ў Коласавым доме[1]

Чарговы літаратурны чацвер у Коласавым доме прысвячаўся адразу двум юбілярам — паэтам-«пяцідзесятнікам», землякам народнага песняра Яўгену Хвалею і Алесю Камароўскаму. Абодва скончылі Мікалаеўшчынскую сярэднюю школу, затым філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працуюць на ніве выхавання маладога пакалення: першы з'яўляецца старшым рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», другі — адказным сакратаром часопіса «Маладосць».

---

[1] Газета «Чырвоная змена», 16 красавіка 1997 г.

Шаноўных гасцей Коласавага дома павіншавала і ўручыла дарункі дырэктар музея народнага песняра Зінаіда Камароўская. Словы прыязнасці юбілярам выказалі ўнучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч, пісьменнік Уладзімір Мархель, пляменнік песняра Сымон Белы, які жыве ў Радашковічах і прыехаў не з пустымі рукамі — прывёз віноўнікам урачыстасці падарункі мясцовага, вядомага на ўсю Беларусь, завода керамічных вырабаў.

Весела рэагавалі прысутныя на выступленне лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова Казіміра Камейшы, які працуе намеснікам галоўнага рэдактара «Маладосці». Свайму калегу Алесю Камароўскаму ён прачытаў гумарыстычны вершвіншаванне, падмацаваны дасціпным шаржам. Гучалі вершы і саміх юбіляраў.

Бадзёры настрой слухачоў падтрымаў старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека. Ён прыгадаў некаторыя моманты з самабытнага жыцця-быцця Коласавага дома, калі навукоўцам тут служыў Алесь.

Пранікнёна, па-сяброўску вечарыну вёў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Генрых Далідовіч.

Хораша, непаўторна свята аздобілі песнямі, прыпеўкамі і прымаўкамі калектывы мастацкай самадзейнасці з радзімы юбіляраў — «Коласавы землякі» і «Гарэзы».

Сын народнага паэта Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч павіншаваў «пяцідзесятнікаў» невялікім вершам, які заканчваўся радкамі:

Дык пажадаем ім
спартыўнай злосці —
Як у «Юнацтве»,
так і ў «Маладосці»!

*Казімір Камейша*

**Алесю Камароўскаму ў дзень яго 50-годдзя!**

Ідзеш між першых, не ў абозе.
І што сказаць табе, Алесь?
Ты ж у сваёй жыццёвай прозе
Адразу і відаць увесь.

І будаўнік ты адмысловы,
У лесе свой і на градзе.

І за народным трапным словам
Не лазіў у кішэнь нідзе.

Каўбас, не нейкіх там разынак,
Ты ведаў смак яшчэ малым.
І ў Мінску самы слаўны рынак
Назвалі прозвішчам тваім.

Не меў раўні ты і ў застоллі.
І хай зайздросцяць таўкачы,
Такія на футбольным полі
Ганяў шалёныя мячы —

Прамком, крыўком і з развароту,
Ажно займала іншым дых.
Біў гэтак па чужых варотах,
Ажно баяліся ў сваіх.

Паэт з-пад Нёмна, і ў футболе
Ты тон заўсёды задаваў,
Ды і ў жыцці нідзе, ніколі,
Як і на тым футбольным полі,
Ніколі ты не пудлаваў.

Слыў камэнтатарам найшчырым.
Ажно слухач здзіўляўся наш,
Як словам родным у эфіры
Ты вёў свой першы рэпартаж.

Не толькі мяч каціў у сетку,
Свой спрыт ніколі не хаваў,
Ты не адну яшчэ паэтку
Сваім стылом рэдагаваў.

Няўжо, няўжо табе паўвеку?
Табе і сорак не дасі.
Дый ты ніякіх смешных лекаў
Яшчэ ў аптэках не прасіў.

Дык хай жа свеціць зорка тая,
Што шлях твой зорыць у хадзе.
А хто ідзе там, як спытаюць,
Скажыце, што Алесь ідзе!

*Маладосцеўцы*

## «І песня водгулле спаткае...»

Гэтым паэтычным радком з паэмы Якуба Коласа «На шляхах волі» называлася вечарына, што 26 лістапада 1997 года прайшла ў Доме літаратара. Прысвячалася яна 115-й гадавіне з дня нараджэння народнага песняра.

Урачыстая зала. Належным чынам аформлена сцэна. За нявялікім столікам тры крэслы. З партрэта на святкоўцаў глядзіць лагодны і мудры дзядзька Якуб. Ён нібы выказвае падзячнасць добраму люду за пашану, за прыхільнае стаўленне да ягонай асобы.

Пакуль насельнікі залы канчаткова «акрэсліваюцца», іх душы прыемна вярэдзіць «магнітафонны» «Мой родны кут» у мілым выкананні непаўторнага Данчыка. Змаўкае любімец публікі. На сцэне гучаць цымбалы. Беларускія мелодыі іграюць навучэнкі Мінскай музычнай вучэльні імя Глінкі Іра Даўгалевіч і Даша Мяцеж. На гэтай музыцы народная артыстка рэспублікі Марыя Захарэвіч задушэўна чытае ўступ да паэмы «Сымон-музыка».

На сцэну выходзіць вядучы вечарыны народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Ён запрашае да сябе «для падмогі і смялейшага пачування» сына Якуба Коласа Міхася Міцкевіча і дырэктара Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея народнага песняра Зінаіду Камароўскую. Затым гаворыць пра неўміручасць творчасці незабыўнага дзядзькі Якуба:

«Давайце будзем прыходзіць перш за ўсё да вялікіх, каб вучыцца, і вучыцца не толькі духоўнасці, паэзіі, мастацтву, але і грамадзянскай мужнасці. Не трэба спяшацца судзіць тых, што ішлі паперадзе. Спачатку трэба даць сабе клопат пачытаць належным чынам і вывучыць біяграфію, жыццёвы шлях. Ад чаго мы сёння пакутуем, грамадства наша? Цяжка ўсё пералічыць. І я гэта не стану рабіць. Ну, возьмем толькі некалькі аспектаў. Адносіны сённяшняга чалавека, сённяшняга грамадства да прыроды, да зямлі, на якой жывём, варварскія, вандальскія, дзікія. Мы знішчаем зямлю, па якой ходзім, мы знішчаем усё, што нам забяспечвае здароўе. Адносіны да працы, адносіны ў сям'і. Што такое сёння «сям'я»? Кожны другі шлюб распадаецца. Вось тут і трэба чытаць, чытаць і перачытваць і на сон, і пасля сну «Новую зямлю» Якуба Коласа і іншыя яго кнігі, каб зразумець: дык як жа трэба ўсё-такі жыць і як мы думаем жыць? Не абыдземся мы без гэтага.

Возьмем у гістарычным плане. Махаюць рукой, адмаўляюць у вартасцях некаторым кнігам. Ну, скажам, аб грамадзян-

скай вайне ці перыяду грамадзянскай вайны. Ну, скажам, ужо «Дрыгва» не выдатная кніга для некаторых. Можна падумаць, што тое, чаму прысвечана гэта кніга, — гэта была нейкая дробязь, нешта нязначнае ў нашай гісторыі. Можна падумаць, што 300 гадоў польскага панавання на нашай зямлі нічога не зрабілі. І тое, што народ тады, у 1919 годзе, падняўся супроць новай інтэрвенцыі з Захаду, — як быццам бы гэта для лёсу народа нічога не значыць. Калі для нас гэта нічога не значыць, тады і ўсё іншае не будзе для нас нічога значыць. Гісторыю трэба ведаць і шанаваць».

Гаворыць старэйшы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа Сяргей Грахоўскі:

«Мы з вамі адзначаем 115-ю гадавіну з дня нараджэння класіка не толькі беларускай, а ўсіх славянскіх літаратур Якуба Коласа. І калі я ўпершыню адкрыў гэтага тытана паэзіі, прозы, я не думаў, што мне давядзецца сустрэцца з ім, паціснуць яго руку, пабыць у яго доме. А я памятаю той час, калі Коласаў домік стаяў там, дзе цяпер парк Горкага. Я кожную раніцу (а жыў непадалёку) праходзіў і бачыў, як ён калоў дровы на дрывотні. Гэта была падзея. Я бачыў Коласа жывога! Я быў пад уражаннем яго твораў. «Сымон-музыка» мяне зачараваў, «Новая зямля», апавяданні «У ціхай вадзе...» Я жыў гэтай паэзіяй, жыў тымі вобразамі. Я хадзіў, нібыта гаварыў з імі.

Цяпер, у гэтую гадавіну, у Коласавым доме праходзіла вялікая навуковая канферэнцыя, прысвечаная гадавіне з дня яго нараджэння. Мне пашанцавала быць на гэтай сустрэчы. Было 59 прамоўцаў, запланаваных, — дакладчыкаў і садакладчыкаў. І 36 тэм. Усё гэта вельмі цікава было. Творчасць Коласа даследавалася ва ўсіх аспектах, ва ўсіх кірунках. Паэзія, проза, драматургія, публіцыстыка, яго грамадская дзейнасць, яго навуковая дзейнасць. Слоўнік Якуба Коласа. Якое гэта багацце! Які гэта «кладезь» скарбаў нашай культуры, нашай мовы, нашай душы, нарэшце! Мне б хацелася прапанаваць, каб з тых 36 дакладаў выбраць самае цікавае, самае новае, самае дасканалае і выдаць асобнаю кнігай. Гэта быў бы самы найлепшы дапаможнік і студэнтам, і вучням, і ўсім прыхільнікам і аматарам творчасці Якуба Коласа».

Шмат сустрэч з народным песняром было ў вядомага беларускага паэта лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Міколы Аўрамчыка:

«З Коласам я сустракаўся вельмі часта. Нават па службовых справах. Мне пашэнціла, першакурсніку, што Колас і Купала

блаславілі мяне ў актавай зале Мінскага педінстытута. Блаславілі перад тысячнай аўдыторыяй. Ды яшчэ й назаўтра ўсе газеты надрукавалі пра гэта. Канешне, шчыра вам прызнаюся, каб не бласлаўленне іх абодвух, можа, я і не быў бы літаратарам нават.

Пасля вайны Канстанцін Міхайлавіч аднойчы запрасіў нас, групу маладых пісьменнікаў, у госці да сябе. Гэта было ў тым доме драўляным, на месцы якога цяпер знаходзіцца музей Коласа. Частаваў нас Канстанцін Міхайлавіч у доме гэтым. Потым паказваў у садзе жыта (новы гатунак), якое ён вырасціў сам. Расказваў пра гаспадарчыя справы. А пазней у гэты дом хадзіў я вельмі часта. Па-першае, амаль усе рэчы Коласа, якія друкаваліся ў «Полымі», я забіраў у яго. Ён званіў у рэдакцыю. Толькі адзін ці два разы Лужанін прыносіў чарговую рату «На ростанях». Чаму я хадзіў? Быў маладзейшы за ўсіх у рэдакцыі. Уладзімір Карпаў быў вельмі заняты справамі. Ён быў рэдактарам аддзелаў і прозы, і драматургіі. Прасіў мяне: «Коля, не ў службу, а ў дружбу, ідзі ты забяры. Толькі што званіў Канстанцін Міхайлавіч».

Пасля, у «Маладосці» працуючы, я хадзіў па той вядомы ліст, які Колас напісаў для 1-га нумара часопіса. Хадзіў браць урыўкі з паэмы “На шляхах волі”...»

Народны артыст Рэспублікі Беларусь Павел Дубашынскі даў жыццё героям твораў Коласа на радыё і тэлебачанні:

«Мне хочацца сказаць, што мне пашчасціла быць першым у пастаноўках многіх твораў Якуба Коласа. Упершыню ў 1958 годзе, на зары нашага тэлебачання, — я быў першым выканаўцам Сымона-музыкі. Пасля быў першым выканаўцам у многіх апавяданнях Якуба Коласа. Пасля быў першым выканаўцам ролі Міхала з «Новай зямлі», таксама на тэлебачанні. На радыё быў першым выканаўцам дзядзькі Антося. Так што цэлая харошая падборка ў маім колішнім рэпертуары па творах Якуба Коласа».

Вядомая пісьменніца Вольга Іпатава падзялілася сваім роздумам:

«Многія філасофскія вучэнні свету гавораць пра тое, што чалавецтва, асабліва ў апошнія стагоддзі, жыве як бы пад прыгнётам чорных хмараў нянавісці, злосці, зайздрасці. Але таленты — гэта тыя людзі, тыя рэдкія шчаслiўчыкі, якія дасягаюць краю аблокаў, для якіх час ад часу — то часцей, то радзей — выблісквае сонца. Геніі ж — гэта тыя ж рэдкія, зноў жа, шчасліўцы, найрадзейшыя, над якімі заўсёды ззяе сонца, заўсёды ззяе вечнае святло сусвету. І толькі зрэдзь чорныя хмары як бы засцілаюць

іх духоўны погляд. Геніі, мабыць, і нараджаюцца для таго, каб простыя людзі маглі цягнуцца за імі да гэтага вечнага святла. І калі людзі не хочуць паднімаць свае вочы туды, дзе свецяць зоры, яны цяжка плацяць за гэта. Асабліва той народ, які не шануе сваіх геніяў. Так плацяць многія народы, знікаючы зусім. Так, мне здаецца, плацім і мы — то ў час вайны, то цяпер, Чарнобылем. І ўсё ж я думаю, што нябесная канцылярыя яшчэ мае надзею, што наш народ выжыве, што наш народ пранясе святло, якое даюць яму геніі, праз вякі. Бог пасылае нам гэта, пасылае нам іх. І вось гэтай падзеі, якая адбылася 115 гадоў назад, я прысвяціла свой невялікі верш:

Ноч ляжала бяззорнаю цяжкаю кучмай
На вільготных хацінах, і спала зямля —
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў, як нягучна
У Акінчыцах плача сабе немаўля.

Лесніковая хата. Чадзее газнічка.
Калаўрот. Залацістыя пасмы ільну.
І дзіця. І над лесам зіхоткая знічка.
І матуля прымружыла вочы ад сну.

І не бачыла, хто дакрануўся да сына, —
Палыхнула святло, адступіла імгла.
І хіснулася хата, нібыта віціна,
І адбіткам на вечнасць удаль паплыла.

Навуковец пасля раскладзе і спазнае:
Напачатку — эпоха, асоба — пасля.
Родзіць генія час. А ўсё проста бывае —
Бог ля Нёмна ішоў і пачуў немаўля...

І голас, гэты голас гучыць ужо цэлае стагоддзе, засягае за стагоддзе, сягне ў наступнае тысячагоддзе. І гэта ўжо наша гісторыя з вамі. Гэта ўжо залежыць ад таго, ці чуем мы гэты голас сёння, ці дадзім мы пачуць яго нашым дзецям і нашым унукам, ці будзем мы нязломныя вось у гэты цяжкі, складаны час. А гэта нязломнасць — ад нашых геніяў. Гэта нязломнасць — ад веры, што Беларусь жыве і будзе жыць!»

Слова — заслужанаму артысту рэспублікі, пісьменніку Анатолю Жуку:

«Кажуць, што ў кожнага народа ёсць свая самая вялікая кніга. На шчасце, ёсць такая кніга і ў нашага народа. І называецца

яна «Новая зямля». Я ўпэўнены, што ўсе, хто сядзіць у гэтай зале, чыталі яе. І таму многа слоў казаць пра яе не даводзіцца. Калі спытаюцца, хто такі беларус, каб доўга не расказваць, дастаткова параіць прачытаць «Новую зямлю». Я думаю, што нічога новага я ў дадзеным выпадку для вас не адкрыў. Але гэта факт. І вось, на вялікае шчасце, гэты факт спраўдзіўся тым, што сапраўды быў зняты ў нас на тэлебачанні відэафільм. Як вам вядома таксама многім, што спроба ўвасобіць «Новую зямлю» была зроблена і на драматычнай сцэне, і нават на опернай сцэне. Звярнуліся да яе і каб паказаць мастацкімі сродкамі кінастужкі. Гэта, бадай што, было ўпершыню. Мне пашчасціла выканаць там, я лічу, адну з лепшых роляў нашай літаратуры — ролю Міхала. Рашэнне гэтага вобраза ў мяне пайшло, вы памятаеце, ад сцэны, калі Міхал палюе на ваўка. Памятаеце, у нейкі час воўк трапляе ў палонку? Гэта яго натура, моцная, трагічная натура, у якой сканцэнтраваўся, мне здаецца, увесь характар беларуса, зацятага, упартага, працалюбівага. Усе гэтыя рысы ў адным толькі Міхалу. І, канешне, перада мной стаяла складаная задача. Гледачы і крытыкі вельмі высока ацанілі гэтую ролю, а таксама ролі маіх сяброў. Антося выконваў Яўген Шыпіла, народны артыст, а Ганну — яго жонка Таццяна Мархель. Гэта было ў 1982 годзе. Здымалі мы ў асноўным на Вілейшчыне, а таксама на радзіме Якуба Коласа. Краявіды, якія там паказаны, дакладна ўзяты з тых дзіцячых гадоў, з якіх выйшаў сам наш вялікі пясняр. І рэжысёр Уладзімір Траццякоў пастараўся ўсё гэта захаваць, каб паказаць блізка асяроддзе, праўду, якія былі на той час».

Новы погляд на асобу народнага песняра выказаў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Якуба Коласа, галоўны рэдактар часопіса «Маладосць» Генрых Далідовіч:

«Многае з напісанага Коласам у паэзіі, у прозе і асабліва ў публіцыстыцы ў 1930–1950-я гады — гэта ягоная вялікая драма, а то і трагедыя, бо ягоныя магутныя творчыя сілы, як паказалі яго лепшыя паэзія, апавяданні, трылогія «На ростанях», маглі б быць выкарыстаны на іншае, на сапраўднае, што пасля Купалавай смерці мог і павінен быў сказаць найперш ён — «апошні з магікан». Ён цярпеў, чакаў, хоць часамі, як здаецца, у 1940-я гады не вытрымліваў: ці я, ці Бэндэ! Гэта быў вокліч, пратэст не проста супраць крытыка-аглабельшчыка, які з іншымі прахвостамі абылгаў, а то і паспрыяў адправіць за краты і ў лагеры дзесяткі, сотні беларускіх пісьменнікаў, гэта быў пратэст супраць існуючых «метадаў сацрэалізму», а то і

больш. І новыя пасляваенныя ўладныя дазіравалі ўсё беларускае, але добра ведалі, што такое Колас — яго ўшаноўвалі, асыпалі ўзнагародамі, куплялі за пабытавыя даброты, але не дапускалі яго блізка да народа, якому ён пачаў служыць з маленства, дзеля якога зрабіў шмат і мог яшчэ зрабіць нямала.

Апошнія гады — можа, самая напружаная Коласава трагедыя. Загінуў на фронце сын, памерла любімая і верная жонка, адышлі многія паплечнікі, былі знішчаны ці чэзлі ў лагерах выдатныя беларускія сілы, родны брат ратаваўся за мяжой, пачалі браць сваё хвароба і старасць, маладзейшыя саратнікі цягнуліся да яго, але многія з іх праследавалі найперш свае мэты, — невыпадкова, скажам, у яго паэзіі апошніх гадоў столькі нараканняў на свой лёс, на сваю абкружаную людзьмі, не бедную і ў той жа час адзінокую і бязрадасную старасць.

Ды Стары, альбо Класік, як і ягоны герой у «Новай зямлі», усё ж не вытрываў, «агрызнуўся» перад панамі: сабраўся з сіламі, напісаў ліст і пайшоў у ЦК. Там прадчувалі, з чым ён прыйшоў, — з крыкам пра зберажэнне, развіццё беларускай мовы і культуры, супраць «слияния языков и культур», што тады пачало бражэць у высокіх кабінетах. Старога, Класіка доўга не дапускаў у свой кабінет уладны партыйны чынуша, хоць дагэтуль проста «обхаживал». Ліст лёг пад сукно, а спакутаванае сэрца яго аўтара не вытрывала... Гэта была трагічная для Беларусі, але і па-народнаму прыгожая смерць Чалавека і Майстра, які ўжо пры жыцці быў адным з тых, хто ўвасабляў сабой Народ і Чалавецтва!»

За жываты браліся вечарынцы, калі з дзядзькам Антосем «варыў клёцкі» вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў Іосіф Гарэцкі. Жыва, артыстычна прачытаў ён вядомы ўсім урывак з «Новай зямлі».

Акадэмік Радзім Гарэцкі расказаў пра дружбу сям'і Коласа з сям'ёй Гарэцкіх. Дарэчы, яго бацька, Гаўрыла Іванавіч, знакаміты геолаг, і народны паэт былі сярод іншых акадэмікамі «першага прызыву» на Беларусі. Радзім Гаўрылавіч — пляменнік славутага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Прамоўца перадаў Коласаўскаму музею сігнальны нумар паэмы «Рыбакова хата» 1947 года з паметамі аўтара, падораны калісьці ягонаму бацьку.

З увагай было праслухана выступленне сына Якуба Коласа Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча. Ён раскрыў некаторыя «таямніцы» хатняга бытавання бацькі, запыніўся на ўжо вядомым лісце ў ЦК, пра што гаварыў Генрых Далідовіч, працытаваў і

пракаментаваў асобныя моманты яго. Доктар тэхнічных навук, Міхась Канстанцінавіч выявіў і добрую дасведчанасць у пытаннях літаратуры, выказаў свае меркаванні наконт выкладання яе ў нацыянальнай школе.

Хораша між прамоўцамі рабілі «песенныя пракладкі» заслужаная артыстка рэспублікі Ніна Бранковіч (з баяністам Сяргеем Баевічам) і артыст Вячаслаў Статкевіч (адзін, без «памагатага»).

Літаратурна-музычная кампазіцыя вечарыны завяршылася ўрыўкам з трылогіі «На ростанях» — «На прастор, на шырокі прастор!» Яго прачытаў пад гукі цымбалаў акцёр Тэатра юнага гледача Мікалай Лявончык. Вельмі ж Коласавы словы сугучныя настроям і сённяшніх людзей! Асабліва заключныя радкі:

«Ласка і гнеў, ціша і бура! Я вітаю вас, калі вы прыходзіце ў сваім часе, калі выконваеце вы адвечную волю жыцця.

На прастор, на шырокі прастор!»

Дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская горача дзякуе і выступоўцам, і «выслухоўцам», запрашае ўсіх прысутных наведаць Коласаў дом у Мінску, а летнім часам пабыць на радзіме песняра, дзе працуюць тры філіялы, прайсціся «Шляхам Коласа» і «Сцяжынай новазямельцаў».

А пасля сцэнай і сэрцамі святкоўцаў валадарылі самадзейныя артысты са Стаўпеччыны — хор Навасвержанскага лесазавода, ансамбль «Гавязнянка», вакальны квартэт «Святлана». Перад пачаткам вечарыны ў фае Дома літаратара іграў аркестр народных інструментаў з саміх Стоўбцаў. Тут жа экспанавалася і выстава «Жыццё і творчасць Якуба Коласа». Усе калектывы маюць высокую годнасць «народны». А ўсяго ў раёне іх налічваецца 19. Тут прыязнае, пахвальнае слова патрэбна сказаць на адрас няўрымслівага, няўтомнага рупліўца на ніве Беларушчыны — загадчыка аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкама А. В. Грэкава. Так трымаць, паважаны Анатоль Васільевіч!

Глядзіць на вечарынцаў з партрэта пясняр і быццам прамаўляе адзін з сваіх запаветаў (ён пададзены ў кнізе Максіма Лужаніна «Колас расказвае пра сябе»):

— Жывіце даўжэй, хлопцы! Дагледзьце на свае вочы ўсё, чаго не давялося мне, і заўсёды помніце: хай кожны дзень ваш сябруе ці з пачаткам, ці з заканчэннем якой-небудзь справы.

# МУЗЕЙ ПАЭТЫЧНЫ

* * *

За час музейнага бытавання напісаў багата я рыфмаваных радкоў сваім калегам і людзям, блізкім да музеяў. Гэтыя прысвячэнні, вядома ж, прыватныя, альбомныя, як звычна падобную прадукцыю называюць. Хай даруе чытач. Не прэтэндую я на нейкую паэзію. Ды адрасатам падабаецца. Даю тут неабходныя тлумачэнні. Ідуць мае «творы» ў храналагічным парадку.

Неяк пад настрой, быўшы маладым музейцам-купалаўцам, «пераліцаваў» я славуты верш песняра «Я не паэта». Атрымаўся гумарыстычны абразок «Я не жанаты». Пабойваўся — што скажа дырэктар, шаноўная Уладзіслава Францаўна?.. Пахвалюся — маё «свавольства» ўспрыняла яна прыязна. Часам прасіла пачытаць перад экскурсантамі.

### Я не жанаты

Я не жанаты, о крый мяне Божа!
Хоць, мала ці многа, пражыў я чвэрць веку.
Часамі жаданне і вырвецца, можа,
Завуся я толькі — Янка Курбека.

Славу жанатых разносяць іх дзеці,
Вянкі ўскладаюць, як трэ чалавеку.
Я ж ціха сяджу, хто ж ціхіх прымеце?
Ат! ведама, з вёскі — Янка Курбека!

Кожны дом мае таго, хто прымае
Над цэлай сям'ёю мужчыны апеку.
А мая ж хата нікога не мае —
Няхай жа хоць будзе Янка Курбека.

З кожным усюды тэй мовай убогай,
За што і завуць яго ўсе недарэкам.
Кпінаў, насмешак церпіць ён многа —
От, ведама, просты Янка Курбека.

Шчасце так рэдка бывае ў хаце.
Што тут параіш, якіх прымеш лекаў?
Каб прыхінуўся калі да дзяўчаці,
А быў бы шчаслівы Янка Курбека!

Так і змарнееш, упадзеш на сіле
І загавееш душою без веку.
Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?
А надпіс пакажа: Янка Курбека.

*1958 г.*

* * *

Мы, «музейныя» мужчыны,
Сакавіцкім слаўным днём
Імянінніцам-жанчынам
Калектыўна salve[1] шлём.

Шчасця, радасці жыццёвай
Зычым вам у добры час —
Мнагаградусныя словы
Адрасуем кожнай з вас.

А найперш да цёці Уладзі
Будзе цёплы наш зварот:
Пражываць Вам з намі ў ладзе
Яшчэ многа доўгіх год!

У музейнай, ціхай хаце
Вы не толькі гаспадар,
А настаўніца і маці,
Сэрцаў нашых валадар.

І таму так словам цесна,
Усяго каб пажадаць.
Хочам з Вамі мы сумесна
Жыць, змагацца, працаваць!

[1] Salve — прывітанне (*лац.*).

У Яніны Прыбытковай
Хлопцы хвацкія растуць —
Быць жа маме іх здаровай!
Ім — шырокі, ясны пуць!

Ёсць Сяргей, ёсць Ігар — тата
І малюсенькі Алег.
Скажам прама — малавата:
Займець Рурыка не грэх!

Ну, і Лілі тое ж скажам
(Гэта думка нас усіх):
З замужэнскім Вашым стажам
Можна жыць і не ўдваіх.

А пакуль там суд ды справа,
Хай квітнее Ваш дуэт!
Дасягайце з Славам славы,
Пазнавайце разам свет!

Аднаго жадаем Ані,
Хоць і скажа яна: «Ай...» —
Каб ва ўласным памяшканні
Сустракала Першы май.

Адзінокую Сабіну
Мы не можам прамінуць —
Трэба, тонкая рабіна,
К дубу стан свой прыхінуць.

Венедзіктаўне таксама
Хочам шчасцейка жадаць —
Каб праз год чытала: «Мама!
З Днём жанчын віншую. Зяць».

Як той Зосі давялося
Жыць з каханым Петрусём —
За такое сукалоссе,
За ідылію іх п'ём.

Не далёка і не блізка
Наш працуе сем'янін —
Ёй паклон таксама нізкі
У дзень жаночых імянін.

У кахальным быць расстанні,
Трэ прызнацца, не ахці —
Мы за ваша уз'яднанне,
За сумеснасць у жыцці.

І нарэшце выпіваем
За спакойную Любоў.
Ёй нямала яшчэ маем
Мы гарачых, шчырых слоў.

Вось на гэтым мы канчаем
Сваё сціплае «ура» —
Вам яшчэ раз пажадаем
Шчасця, радасці, дабра.

*8.03.1959 г.*

## Шаноўная Соф'я Іванаўна![1]

Упершыню завём парадна...
Былі ж Вы Зосяю раней.
А сёння... Сёння скажам: «Ладна.
Хай будзе трошкі узвышней!»

Людзей завуць па імю блізкіх,
І мы звяртаемся ізноў —
Паклон Вам, Зося, найзямністы
І цэлы гарнец цёплых слоў!

Вам дораг быў жывы Купала,
І мо таму, прыйшла пара,
Вы ўклалі сіл сваіх нямала
У памяць, славу песняра.

На варце ўзорнасці, парадку
Вы шмат стаялі і мацней
За свайго бацьку, сваю матку
Любілі Вы яго музей.

---

[1] С. І. Хадасевіч не адзін год працавала ў Купалаўскім музеі прыбіральшчыцай. У сям'і народнага паэта была хатняй работніцай. Верш напісаны ў дзень яе адыходу на заслужаны адпачынак.

Хай папрацуе столькі ўсякі,
Тады шкада не будзе слоў:
Вялікі Вам за працу дзякуй!
І адпачынку — сто гадоў.

*8.03.1963 г.*

* * *

1969 год. Пазванілі з філфака БДУ: М. Жыркевічу — 70. Трэба павіншаваць. Большасць з нас, музейцаў-коласаўцаў, — яго выхаванцы. Паслаць вырашылі мяне. Падпісалі альбом «Якуб Колас. Жыццё і творчасць», распісаліся на чале з дырэктарам Данілам Канстанцінавічам і аддалі мне.

Урачыстасць адбывалася назаўтра. Думаю, скажу колькі слоў, прывітаю ад калектыву, нагадаю, што юбіляр калісьці вучыўся ў Якуба Коласа ва універсітэце, калі той выкладаў там беларускую мову... А што, каб «закругліць» вітанне вершавана?.. Меркаваў 2–4 радкі прыдумаць. Выйшла цэлая «ода». Прачытаў, памятаю, перад паўнюткай актавай залай факультэта. Публіка прыняла ўхвальна. Сам Міхаіл Іванавіч расчуліўся.

Прапаную ўвазе чытачоў той верш-віншаванне.

## Настаўніку

Па Вашых кнігах яшчэ ў школе
Мы пазнавалі сэнс навук,
Крыху пазней па лёсу волі
Мы Вас сустрэлі наяву.

І нейк адразу ўсім здалося,
Што голас Ваш мы чулі век —
У вусны з вуснаў панеслося:
— Які ён людскі чалавек!..

Заўсёды Вы былі ў гуморы
І падымалі нам настрой —
За Вамі мы па калідоры
Снавалі цэлай чарадой.

Прыходзіў лекцыі пачатак —
Мы працавалі разам зноў:
Шукалі суфікс і канчатак
І пранікалі ў сутнасць слоў.

Калі ж умення не ставала
Ці думаў хлопец пра «казла»,
Міхал Іванавіч, бывала,
Уміг знаходзіў корань зла.

Заесць у галаве і — баста!
І хоць бы трошачкі дзе цюк —
У вінавальным склоне часта
Маячыў не адзін дзяцюк.

— Сядай, мудрэц! Скажы ты, братка, —
Звяртаўся да другога ён,
Пакуль не дойдзе да парадку,
Пакуль не ўбачыць творны склон.

Выказнік, дзейнік, дапаўненне —
На ўсё давалі мы адказ.
Набыўшы моўнае ўменне,
Ці ж можам мы забыць пра Вас?!

Мы самі дзейнікамі сталі,
І дапаўненні ёсць у нас.
Хоць розныя жыцця ў нас далі,
Адзіны ў сэрцах нашых сказ:

— Хай у заключным нашым слове
Пачуецца давальны склон —
Усе выказнікі любові
Шлюць Вам сыноўскі свой паклон!

*13.10.1969 г.*

* * *

*Міхасю Пратасевічу*
*ў дзень 40-годдзя*

Пара святочная настала —
Віншуем мы свайго Міхала:
Яму і тосты, і хвала,
І цэнтр музейнага стала.

«Чацвёрка» «тройку» замяніла
І ў свет сталейшы заманіла.

Куды падзенешся, браток! —
Такі гадоў і дзён паток.

Як глянеш са свайго амбону —
Відаць, ужо не да разгону.
Але ж і вешаць нас не трэ —
Жыццё нягоды яператрэ.

Яшчэ ў тваім, Міхал, узросце
Ніхто ў цяпле не грэе косці,
А як на польскі той манер —
Дзяўчыну сватаў кавалер.

Няхай вяршынь ты не дамогся
І ў клапатлівасці знямогся,
Але ніколі не тужыў —
Для справы людскае ты жыў.

Работнік, мусібыць, не ўсякі
Ахвотна прыме сан вучсака[1].
Ты ж ім, Міхал, пакорна стаў,
Магчыма, і не без падстаў...

Ты паміж Сцылай і Харыбдай:
Адзін з пытаннем, другі з крыўдай
На кансультацыю ідзе.
І не схаваешся нідзе!

А трэба ўважна разабрацца,
Бо ўсе свае, калегі-братцы.
І каб не гневаўся Д. К.[2]:
Яго ж ты — правая рука.

Шануй нервовую сістэму,
Паціху, дружа, цісні тэму —
Узрост твой самы-самы раз,
Як чатырохрублёвы «квас»[3].

*1.03.1973 г.*

---

[1] Вучсак — вучоны сакратар.
[2] Д. К. — Даніла Канстанцінавіч.
[3] «Квас» — гарэлка.

## Прывітанне

Сябры! У дзень гэты мы чынна
Хацелі б сябе паказаць
І нашым шаноўным жанчынам
Слоў колькі лагодных сказаць.

Алене Міхайлаўне ўсе мы
Паклон свой прыносім у дар —
Знікаюць хай горычы цені
І радасцю свеціцца твар.

Даўно Вам раднюсенькай хатай
Стаў гэты вячысты музей.
Вы жывяце ў імя брата,
Для мудрай карысці людзей.

Парадак наўкола і ціша,
Дагледжаных дрэў карагод —
Ісці праз жыццё з «дзядзем Мішам»[1]
Багата Вам сонечных год!

Таго ж і Мацвееўне хочам
(Па лёсу падобныя Вы):
Хай будзе заўсёды рабочым
Настрой Ваш і дух баявым.

У Вашым, прызнацца, узросце
Яшчэ адарві ды падай,
А з гэткім мужчынам, як Росця,
Не думаць пра пекла ці рай.

Жыве-пажывае салісткай
Музея асоба адна —
Таксама паклон ёй найнізкі
І чарак асушка да дна.

З выпадку святочнай падзеі
Схіляецца наша братва
Прад той, што ў сценах музея
Працуе не год і не два.

---

[1] Мужа свайго Міхаіла Іванавіча Лойку клікала Коласава сястра чамусьці «дзядзем Мішам».

Людзей сустракае гасцінна,
Лагодзіць іх слова цяплом —
Такі ўжо характар у Зіны,
І тут не патрэбен дыплом.

А скажам, сябры, што і дома
Вядзе яна ўпэўнена рэй —
Сям'я — мужыкі, як вядома:
Жорж-бацька, Сяргей і Андрэй.

І Галя ні ў чым не ўступае
Сяброўцы сваёй — ані-ні,
Ды лепшага шчасця чакае
І лічыць-падлічвае дні.

Усе мы жадаем таксама —
Хай спраўдзяцца мары і сны!
Жывуць няхай з Татам і Мамай
У людскіх умовах сыны!

Пісьменнікаў жонкі ў пашане
Ва ўсіх нас, «музейных» мужчын,
У гэтым мы іх прывітанні
Не хочам пакрыўдзіць ні ў чым.

І Юля, і Люда, і Тома —
Па розуму, лёсу радня —
Апраўдваюць званне і дома,
І тут, на рабмесцы, штодня.

Гадуйце сваіх мілых дзетак
(Яны — Іяфет або Сім),
Мужам засяваць літпалетак
Спрыяйце нястомна ва ўсім.

У новай, заслужанай хаце
Марыся этап пачала.
Дзён светлых Алёнцы і Каці!
Хай будзе дастатак стала!

На гэтым закруглім мы оду
(Ці кожнай патрапілі ў тон?):
Жаночаму, любаму роду —
Яшчэ раз — мужчынскі паклон!

*8.03.1973 г.*

## Ave Maria

*Марыі Тананушцы*
*ў дзень 30-годдзя*

Звон выпівальны кліча ласкава.
З саду, пакояў злева і справа
Гуртам калегі ў розным адзенні
Цягнуцца здзейсніць хаценне.
Тут і старыя, і маладыя —
Ave Maria...

Нат некаторыя з дому
Сюды прывялі па малому —
Тут кожнаму месца хапае;
Традыцыя, мусіць, такая,
Звычкі ў музеі такія —
Ave Maria...

І не пайшлі харчавацца ў сталоўку:
Страўніку будзе нялоўка;
Позіркі ўважныя на юбіляра —
Гавее прад кожным гатовая тара.
Шклянкі напоўніце тыя! —
Ave Maria...

Вы захавайце культуры манеру —
Зажуйце са смакам і ў меру.
І, папрашу, не галганьце!
А за здароўе карміліцы ўстаньце!
Хай шчаснымі будуць дочкі малыя —
Ave Maria...

*21.09.1973 г.*

## Неспакой

*С. С. Крывіцу ў дзень 70-годдзя*

Заслужаным і бывалым
Прыйшлі Вы ў гэты музей.
Жыццё было без прывалу,
Як у лёсу такога людзей.

Сустрэла увагай дзяржава:
Сто шэсцьдзесят дала!
Не ўседзеў характар мужавы
З лыжкай каля стала.

Не звыкся крывіцца —
А ці прапаў, ■ ці пан...
На тое ж і ёсць Крывіца,
Іменем гордым — Сцяпан.

Помнім — Стэфан Баторый,
Сценька, што ў хвалях блукаў.
Патрэбны яшчэ некаторым
Слова і Ваша рука.

Зробіце многа ці мала,
Важна — не стыне працэс.
Мы ўсе гуртоўна, кагалам:
— Слава табе, КСС!

*5.12.1974 г.*

Сцяпан Сымонавіч Крывіца ў музеі працаваў інжынерам, «прарэктарам па гаспадарцы». У мінулым — работнік цэкоўскай сферы. Звычайна, калі пачынаў што ўспамінаць, прамаўляў: «Когда я работал ■ ЦК...» Я стварыў абрэвіятуру: КСС — Крывіца Сцяпан Сымонавіч.

70 гадоў яму адзначалі музейным застоллем. Былі адпаведныя віншаванні. Ад паэтычнай «секты» падняўся я і зачытаў верш. Юбіляр прыемна румяніўся. Калі прагучалі два апошнія радкі: «Мы ўсе гуртоўна, кагалам: — Слава табе, КСС!» — ён падняўся і... «А дзе П?»

## Не бядуй!

*Міколу Базарэвічу*
*ў дзень 40-годдзя*

Не бядуй, што роўна сорак
Пратрымцеў на свеце ты,
Не ўзышоў на славы ўзгорак,
Змарнаваў свае гады.

Не бядуй, што валасоцце
Пакідае галаву,
Не нясеш дадому соцень...
І паскардзішся каму?..

Будзе час, і ўсё мінецца
(Хопіць кланяцца журбе!) —
Зоймеш ты ў грамадстве месца
Ці грамадства — у табе.

Не бядуй, брат, што ў жыцці ты
Не займеў начсакваяж[1]:
Не вялікі, не масціты —
Проста прозвішчам Кірмаш[2].

Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што дужа шкодзіць нам.
Вер, брат, жыцце залатое
Будзе, мусіць, ужо там...

* * *

Хто з нас, сённяшніх старэйшых, не ведаў яе, Ліду Іванаўну Камоцкую! Тэатры, музеі, філармонія, выстаўкі — без іх яна не магла пражыць ні дня. Наведвала ўсе вечарыны, што праходзілі ў Доме літаратара. Пры сабе заўсёды насіла фотаапарат і карысталася ім. Праз пэўны час дарыла плён сваёй дабрачыннасці адпаведным асобам. А яшчэ яна, пенсіянерка (у мінулым — настаўніца роднай мовы і літаратуры), трацілася на выраб уласнымі рукамі сувеніраў для юбіляраў...

## Нястомнасць[3]

Людзей на свеце многа розных,
Кіруе кожным пэўны лёс.
Прыходзіць старасць рана-позна,
Зямны спыняючы іх крос.

Адны пры хаце ды ў пасцелі
Свае дамульваюць гады.

---

[1] Начсакваяж — начальніцкі саквояж.

[2] Міколу Базарэвіча мы скарочана звалі Базар, Адсюль і Кірмаш.

[3] Верш напісаны да 65-годдзя Л. І. Камоцкай.

О, як бы ўсе яны хацелі
Яшчэ ў жыцці адчуць уздым!

Другія (дзе там маладому!)
Нястрымнасць маюць ганчака
(Гэта гіпербала, вядома),
Як Ліда, Ванева дачка.

Куды ні сунешся — напэўна
Наткнешся прама на яе:
Сядзіць, бы тая каралеўна, —
Ірдзее твар, душа пяе.

А ў перапынках вечарыны
Пускае ў ход свой апарат —
Стаіць, як слуп, аб'ект-мужчына,
Пашане гэткай рад не рад.

Або на шыю юбіляру
(Ён званнем нізак ці высок)
Чапляе мілую ахвяру —
Уласнаручны паясок.

Жыццё любіць патрэбна моцна,
Каб прыраўняцца да Камоцкай!

*23.01.1975 г.*

* * *

*Аляксею Слесарэнку*[1]
*ў дзень 60-годдзя*

Пісьменнік.
Артыст.
Філосаф.
Прапагандыст.
Смелы прамоўца.
Аматар і носьбіт
Дасціпнага слоўца.
Не машэннік.
Немашыннік.

---

[1] А. Слесарэнка ў 1962–1974 гадах працаваў у музеі Коласа.

Нядачнік.
Часам няўдачнік.

Як ні лічы,
Ні бяры —
Любяць цябе
Сябры!
Паслухай:
Смела
І ўмела
Ты, Аляксей,
Па-ранейшаму
Праўду ў народзе
Сей!

*7.03.1979 г.*

* * *

У 1980 годзе Аўтатранспартнай канторы Галоўрэмпрамснаба Міністэрства культуры БССР спаўнялася 20. 17 красавіка ў Рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтва адбыўся юбілейны вечар. На ім ад Коласаўскага музея ДК прачытаў радкі:

Віншуем са святам увесь калектыў,
Каб гарт ваш працоўны ніколі не стыў,
Каб спраўна, няспынна круціліся колы,
Каб кожны вадзіцель не ведаў праколаў.

У часе паездкі каб дзе не загруз —
На месца даставіў у цэласці груз.
Найболей жадаем —
у наш скрутны век
Каб смела ў машыне сядзеў чалавек!

* * *

*Міколу Жыгоцкаму*
*ў дзень 50-годдзя*

Дарагі Мікола Рыгоравіч!

Будзь сёння добры і нягорды,
Уважна слухай, не драмі —

Ад нашай дружнае кагорты
Вітанне свойскае прымі.

Ты распачаў тут службу рана
(Пра гэта шэпча кожны куст) —
Табе, музея ветэрану,
Хоць на радзіме пастаў бюст!..

Ты ўжо гісторыя музея,
Яго нязменны «экспанат».
Твой юбілей — для ўсіх падзея,
Адно з шаноўных нашых свят.

Амаль палову свайго веку
(Так пратрываць ці змог бы хто?)
Нясеш клапотную апеку
Над гэтым памятным кутом.

І ведаюць напэўна, дзе ты
Працуеш рупна і даўно,
Усе раённыя газеты
І шматтыражнае звяно.

Табе, нястомны інфарматар[1],
Чыё не тупіцца пяро,
Калісь зайздросціць мог бы Татур[2]
І ўсё ягонае Бюро.

Перамагаеш скруху, стому,
Каб захаваць рабочы стан.
Ты ж, як сяму-таму вядома,
Салдат не просты — капітан[3].

А у цябе ж яшчэ і хатні
Такі няспраўны карабель.
Яго вядзеш ты акуратна,
Каб не ўссунуцца на мель.

---

[1] Мікола Жыгоцкі калісьці вельмі «шпарыў» інфармацыі. Дасылаў у розныя райгазеты.

[2] Мікола Татур не адзін год (1970–1979) быў дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР.

[3] М. Жыгоцкі — капітан запасу.

Куды б ты позірк свой ні кінуў,
На ўсё знаходзіш час, пару, —
Не забываеш на хвіліну
І Безвалосую гару[1].

Напоўнім, людцы, дружна тару
І апетытна ўсе кульнём —
За дарагога юбіляра,
За лічбу мудрую з нулём!

*5.12.1981 г.*

## «Душу аддаеш дзетвары...»

Жыў ціхмяна, працаваў на ніве роднае літаратуры спакойна і някідка дзіцячы пісьменнік Мікола Корзун. Выдаў дзесятак кніг. Некаторыя творы перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы.

Рана страціў ён бацькоў — знішчылі сталіністы. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Закончыў Смілавіцкі сельгастэхнікум, вучыўся ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, у Мінскім педінстытуце (завочна). Працаваў на розных службах. Аддаў даніну ўвагі і пашаны народным песнярам Беларусі. Пэўны час загадваў філіялам музея Янкі Купалы ў Вязынцы, праз два заходы рупіўся на Коласавай сядзібе ў Мінску, клапоцячыся пра свет раслінны гэтага запаведнага кутка сталіцы.

Пад час другога бытавання ў Літаратурным музеі Якуба Коласа Мікола Корзун справіў сваё 50-годдзе. Ад імя музейцаў-коласаўцаў я павіншаваў юбіляра вершам.

Ідуць за падзеяй падзеі,
Бягуць за гадамі гады.
Паціху мы ў гэтым музеі
Губляем свой век малады.

Сталеем, узрост набіраем
(Які тут падможа алей!) —
Глядзіце, мы з сёлетнім Маем
Зноў свяцім адзін юбілей.

---

[1] Безвалосая гара — славутая Лысая гара, пасяленцам на якой быў і застаецца М. Жыгоцкі.

Вітаем калегу Міколу
І горача ціснем руку.
Прайшоў ты нялёгкую школу,
Спазнаўшы ўсяго на вяку.

Дзяцінства цябе абмінула,
Не зведаў ты шчаснай пары.
Таму гэтак шчыра і чула
Душу аддаеш дзетвары.

Напісана многа ці мала —
Ад сэрца ідзецца яно.
Вялікія Колас, Купала
Цябе чаравалі даўно.

І ты песнярам за навуку
(Такое схаваецца дзе ж!)
Сваю галаву, свае рукі
Удзячна і дбайна нясеш.

Каб лепшаю Вязынка стала,
Людзей каб падняць тыражы,
У гонар, у памяць Купалы
Ты некалькі год праслужыў.

Жыцця пакруціліся жорны
(Куды, брат, падзенешся тут!) —
Як даўняга друга, паўторна
Прыняў цябе Коласаў кут.

Прэч зелле з сядзібы, дзядоўнік!
Хай кветкі растуць, дуб і клён!
Табе, паважаны садоўнік, —
Музейцаў святочны паклон!

*1.05.1984 г.*

* * *

*Д. К. Міцкевічу*
*ў дзень 70-годдзя*

Калі заходзіце да нас Вы,
Усе фінансавыя назвы
І лічбавая ўся марока
Куды лагодней тлумяць вока.

І дэбет з крэдытам суладны,
І свет бухгалтарскі прывабным
Для ўсіх становіцца ураз,
Калі заходзіце да нас.

*30.09.1984*
***Ад імя супрацоўніц Цэнтральнай бухгалтэрыі Міністэрства культуры БССР***

* * *

У красавіку 1986 года было ўтворана Аб'яднанне дзяржаўных літаратурных музеяў Беларусі. Першым юбілярам таго часу стаўся сын Петруся Броўкі, дырэктар бацькавага музея. А выкладаў ён яшчэ на юрыдычным факультэце Белдзяржуніверсітэта (і цяпер нясе гэту службу). Павіншаваць пайшлі мы з Міхасём Пратасевічам. Ён сказаў слова празаічнае, я — вершаванае.

## Ю. Броўку — 50

Дарагі Юрый Пятровіч!

Мы рады сённяшняй падзеі —
Ад калектыву літмузеяў,
Што сан займелі аб'яднання,
Прыміце шчырае вітанне.

Вам лёс надарыўся шчаслівы
Быць сынам слыннага паэта —
І шлях жыцця свайго прайшлі Вы,
Адказнасць несучы за гэта.

Гады, як шторм, былі у бацькі,
Прамову фактамі ён рэзаў —
Нёс абавязак свой грамадскі
Ў імя працоўных інтарэсаў.

Служэнне вернае народу,
Гатоўнасць згінуць за Айчыну —
Патрыятычную прыроду
Ён перадаў і Вам як сыну.

Вам да ўсяго таксама справа,
Што ў доме робіцца й за домам, —

Даказваеце праўду права[1]
Вы пакаленню маладому.

Каб у вякі пайшла, у далі
Славутасць бацькі-песняра,
Вы на чале музея сталі,
Калі паклікала пара...

*20.11.1986 г.*

* * *

Вырашана было выпускаць пры аб'яднанні насценную газету. Літаратурныя ж музеі!.. Каго «прышпіліць» да гэтай «самадзейнасці»? Вядома ж, Курбеку. Знайшоўся супольнік — Лёня Шырын, сын пісьменніка Лявона Шырына. Ён прыгожа пісаў літары і маляваў. Удвух мы і задавальнялі патрэбы нашага «сіндыката». Газета выходзіла да важнейшых свят — да Новага года, да 23 лютага, 8 Сакавіка, 1 Мая... Праіснавала яна, бедалага, нешта каля двух гадоў. «Зачэзла» неўпрыкмет, сама па сабе. Не ўсё, але большасць тых рыфмаваных «штучак» захоўваецца ў маім тоўстым сшытку. Празаічныя заметкі падавалі нам і іншыя працаўнікі.

### Зварот пад Новы год

Дарагія літмузейцы,
На культурнай ніве дзейцы!
Рэдкалегія да вас
Невялікі мае сказ.
Год бягучы на зыходзе,
І, як водзіцца ў народзе,
За далейшы творчы рост
Мы святочны кажам тост.
Час абновы, пераломy —
Жыць не можам па-старому!
І таму, як людзі ўсе,
Ломім лёс свой пакрысе.
У эпоху паскарэння —
Больш парыву, больш гарэння!
Ды разумна, брат, гары,

[1] Прафесар Ю. П. Броўка — выкладчык міжнароднага права.

Каб не згаснуў без пары.
Дзеля нейкае надзеі
Згуртаваліся музеі.
Каб развітак мелі ўшыр,
Узначаліў іх
галдыр[1].
Пажадаем Варанкову
Мець службовую падкову.
Хай яму спрыяе й нам
Малады, заўзяты нам.
У кіроўным у Савеце
Чалавек паважны трэці —
Служыць нам не абы-як
Рэгулятар наш, вучсак[2].
Пратасевічу Міхалу
Маем добрых слоў нямала:
У яго ж, сябры, аддзел —
Вельмі ёмісты надзел[3].
Анатоль, сын Мітрафанаў[4],
Правіць службу непагана —
Вырашаць музейны лёс
Ён спусціўся з-пад нябёс.
Прапаганду мы пашырым —
Ёсць на гэта Кучар, Шырын[5]!
Дапаможа «талмудыст» —
Валянціна-галфандыст[6].
Без вялікае прыдзіркі
Вас праслухаць можа Цвірка[7].

---

[1] Галдыр — галоўны дырэктар.

[2] Вучоным сакратаром была Іна Паўлаўна Шарахоўская. Перайшла з музея Якуба Коласа.

[3] М. І. Пратасевіч узначальваў навукова-экспазіцыйны аддзел музея.

[4] Анатоль Мітрафанавіч Ганчароў — намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы (у мінулым — лётчык).

[5] Зіна Кучар і Лёня Шырын працавалі ў прапагандысцкім аддзеле.

[6] Галфандыст — галоўны фондавы работнік (Валянціна Анатольеўна Ціханавецкая).

[7] Ніна Рыгораўна Цвірка (жонка вядомага паэта) — загадчыца метадычнага аддзела.

І нацэліць свой «рагач»[1],
Калі трэба, Саракач.
Быў нядаўна Корзун Коля
На адным толькі прыколе,
А цяпер і тут, і там
Ён — Мічурын-атаман.

Вы ж, асобнікі-музейцы,
У руках трымайце лейцы,
Не спыняйце ўласны бег,
Не турбуйце лішне Верх!

З Новым годам!
З новым ходам!

*29.12.1986 г.*

## З Днём Савецкай Арміі, дарагія таварышы!

Мы віншуем вас, мужчын,
Не зважаючы на чын —
Ні армейскі, ні цывільны.
Хай заўсёды будзе пільным
І нястомным зрок.
Цвёрдым, верным крок
У варунках дзейных —
На франтах музейных!

*Жанчыны-музейкі*
*23.02.1987 г.*

[1] «Рагач» — фотаапарат.

* * *

*Я. Ю. Раманоўскай*
*і Ж. Дапкюнас*[1]

Дала ёй людскі запавет
Няўрымслівая цёця Ўладзя —
Жазло сваё трымаць як след
Пры рознае музея ўладзе.
І Юліянаўна нясе
Святую службу апантана.
Ёй памагае пакрысе,
Калі патрэбна часам, Жана.
Як галава ў музейнай хаце
Дачка не крыўдзіць сваю маці.

* * *

*Г. М. Жардзецкай*[2]*,*
*наглядчыцы музея Я. Коласа*

Прад Вамі голаў у паклоне
Схіліць наведнік ветліва гатоў —
Трымайце ж сэрца на далоні
Ў музеі
шмат яшчэ гадоў!

* * *

*Рэгіне Аліневіч,*
*дворніку музея Я. Коласа*

«Мяцежніца»,
Снежніца,
Вораг брудоты —

---

[1] Ядвіга Юльянаўна Раманоўская — пляменніца Янкі Купалы, дачка Леакадзіі Дамінікаўны. У музеі свайго дзядзькі — з 1960 года. Яе дачка Жана Казіміраўна Дапкюнас — дырэктар музея Я. Купалы.

[2] Ганна Мікалаеўна Жардзецкая — шматгадовая ўзорная наглядчыца ў Коласавым доме. Часта на экскурсіях падмяняла і навуковых супрацоўнікаў, ахвотна і аўтарытэтна суправаджала адзіночных наведнікаў. Памерла 13 лютага 1999 года напярэдадні свайго 76-годдзя.

Працуе,
Глянцуе
Сядзібу
З ахвотай.

* * *

*Купалаўкам Л. Астапкевіч*
*і Л. Вітушцы*

Дзве Ларысы,
Дзве актрысы —
Рыфма з ходу
Просіцца.
Пры нагодзе,
Пры народзе
Хай жа ім
Галосіцца![1]

* * *

*М. Ф. Кліманавай*
*і Н. П. Сіцынскай —*
*наглядчыцы і гардэробшчыцы*
*Купалаўскага музея*

Стаяць сумленна, сціпла, роўна
На вахце Фролаўна з Пятроўнай.
Заўважым, што музейны госць усякі
Ім першым кажа «добры дзень!» і «дзякуй!».

* * *

*Людміле Давідоўскай,*
*супрацоўніцы музея Я. Купалы*

Калі ў здароўі і ў гуморы
Яна вядзе перагаворы —

[1] Хараша дзяўчаты спявалі. Мусіць, і цяпер яшчэ змаглі б слухачоў пацешыць...

Ці ва ўстанове, ці ў канторы,
То верце — будуць дагаворы!

* * *

*Людміле Лабадзе,*
*в. а. загадчыка*
*экскурсійна-масавага аддзела*
*Купалаўскага музея*

На службе, як цвік,
Стаіць масавік.
Каб вечар правесці
Ў музеі ці дзесьці,
Яна ад клапот
Кідаецца ў пот.
Для слоўца
Прамоўца
Не выйшаў. Бяда? —
Заменіць яго
Лабада.

* * *

*І. Бархатковай, супрацоўніцы*
*сектара перасоўных выставак*
*Дзяржаўнага музея гісторыі*
*беларускай літаратуры*

Ірыну Бархаткову
Сюды невыпадкова
Прывёў дзявочы лёс:
Вяршыць сваю работу,
Музейную турботу,
Не можа без калёс.

* * *

Супрацоўніца Музея М. Багдановіча стала мамай. Дзяўчынцы дала імя — Паўлінка. Газета ў шаржавай падборцы адгукнулася на гэту падзею.

Тамары Кароткай

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасце кахання.

*М. Багдановіч*

Уведаўшы навінку,
Тастуем мы Паўлінку.
Няхай на гэтым мары
Не спыняцца ў Тамары!
Хай будзе шчасце з палавін —
Паўлінка і... Паўлін!

* * *

*Супрацоўніцы музея*
*Я. Купалы Л. Амельчанцы*

Не трымаем мы ў сакрэце —
Быць Амельчанцы ў дэкрэце!
Кажа блізкім яна людзям,
Што дачушку, калі будзе,
Назаве не як папала —
Гераіняю Купалы.

* * *

Не абышла «насценка» ўвагай прыход Новага, 1988 года. Аб'яднанне па-ранейшаму існавала няпэўна, не зусім прызнана. Нарэшце — займела свой статус.

Нарадзілася дзіцятка.
— Дзе ж той бацька?
А дзе матка? —
Наваколле загула. —
Ды малое-удалое
Было добрае, не злое —
Выжывала як магло.
Прайшло часу
Небагата —

Стала брыдка
Маме й тату:
І дзіця імя займела
І на свет
Зірнула смела.
Планаў генеральных
Генеральных рашэнняў!
Планаў рэальных,
Без галавакружэння!
Варанкову-гендырэктару —
Цвёрдага, прамога вектара!

Першым дырэктарам аб'яднання быў Юрый Георгіевіч Варанкоў[1]. Прыслалі з Міністэрства культуры. Трагічна загінуў у пачатку 1989 года. Тут ён называецца падвышана — генеральным, па аналогіі з кіраўнікамі розных аб'яднанняў. На яго месца прыйшоў з дырэктара музея М. Багдановіча Леанід Хадкевіч. Гэтак зажадалі радавыя работнікі, «адсунуўшы» іншых прэтэндэнтаў.

* * *

*З. Камароўскай, дырэктару*
*Коласаўскага музея*

У музейнай пірамідзе
Камароўскай Зінаідзе
Месца пэўнае адведзена.
Упраглася ў працу з ходу,
Не прайшло яшчэ і году —
Калі ласка, на агледзіны!
У жыцці так сталася
(Ёй шчаслівa кросіцца) —
Доўгі час «купалася»,
А цяпер «калосіцца»!

На пасаду дырэктара музея Якуба Коласа Зінаіда Мікалаеўна Камароўская прыйшла на пачатку 1987 года. Перад гэтым працавала вучоным сакратаром (каля дзесяці гадоў) у Купалаўскім музеі.

[1] Ю. Г. Варанкоў адначасова з'яўляўся і дырэктарам Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, які тады пачаў ствараццa.

* * *

*Л. Т. Хадкевічу, дырэктару*
*музея М. Багдановіча*

Хадкевічу —
Шпарчэйшае хады!
Папоўніць
Дзейныя рады,
Выходзіць
На людскі экран —
Фінансавы
Выконваць план!

Музей яшчэ не быў адкрыты. Рыхтавалася экспазіцыя. Усім хацелася хутчэй яе пабачыць.

* * *

Музей П. Броўкі ўвесь час быў (дый застаецца) у цяньку. Яго быццам і няма. Наша газета змясціла навагодняе пажаданне:

Шырэй,
Настырней крокі —
Працаўнікі музея Броўкі!
Пятрусь Усцінавіч,
Вядома,
Для ўсенароднага жыў дому.
Ён не цураўся грамады,
Калі і быў немалады.
Чаго ж вы,
Мілыя браўчанкі,
Сядзіце ў хаце,
Як турчанкі?
Часцей завітвайце да нас —
У родны музкалгас.
Вы паспрыяйце ў гэтым ім,
Наш дарагі Рыдзеўскі ІМ!

Ігар Міхайлавіч Рыдзеўскі працаваў у музеі П. Броўкі галоўным захавальнікам. Дый на ім ляжала ўся асноўная служба ўстановы. Дырэктар жа больш дбаў пра сваю выкладчыцкую работу. Ігар Міхайлавіч бываў на пасяджэннях аб'яднання, сяды-тады прысутнічаў і на вечарынах у Коласавым доме. На-

гадаем, што з Юркам Міцкевічам, сынам народнага песняра, ён вучыўся ў адной школе. Ён — брат Броўкавай жонкі Алены Міхайлаўны. Іх бацька, Міхаіл Антонавіч Рыдзеўскі, быў дырэктарам Белпедтэхнікума, калі там Якуб Колас выкладаў методыку роднае мовы.

* * *

*М. Я. Пігараву, старшыні*
*прафкама аб'яднання*

Як класічны Фігара,
Што ўвесь час —
То тут, то там,
Так Мікола Пігараў
Служыць нам.
Сваё ўменне, веды, спрыт
За музейны лепшы быт
Прымяніць гатоў раз-два
Прафсаюзны галава.

* * *

*Л. Вітушцы і Л. Лабадзе*
*з нагоды пераходу ў музей*
*гісторыі літаратуры*

У Вітушкі у Ларысы —
Новай дзейнасці абрысы.
Быць у новай чарадзе
Давялося й Лабадзе.
Не губляйце ж
Нораў палкі,
Перабежчыцы-купалаўкі!

* * *

*Л. Вітушцы ў дзень*
*уступлення ў «сямейны дуэт»*

Новы віток у Вітушкі —
Дзве на пасцелі падушкі.

Хай жа хутчэй як мага
Чуецца ў хаце: «У-а-а!..»

* * *

1988 год быў годам Дракона. Прыкінулі мы з Лёнем Шырыным, хто гэтае страшыдла «ўвасабляе». Музейцаў набралася нямала. Мы іх і павіншавалі.

Рыдзеўскаму Ігару,
Сыну Міхала,
Жадаем здзяйсненняў нямала.
На добрым працоўным уздыме
Наперад ісці з маладымі!
Таксама хай маюць ход гонкі
Астатнія нашы «драконкі»!
Гарон Антаніна,
Як быць і павінна,
Трымаецца з З. Камароўскай
Задумы такоўскай.
Малюшына, Сохар,
Мікута, Мазоўка —
Без іх не адбудзецца,
Мусіць, масоўка.
Узрост самы ходкі.
Усе — аднагодкі.
Да іх прымыкае
Дуэт маладзецкі.
Ён — з І. Барташэвіч
І з І. Дубянецкай.

Радасці і сонца,
Добрыя «драконцы»!

* * *

Пакінем у спакоі насценную газету і пойдзем далей. Зазначу, што ўсе віншаванні, якія ідуць ад імя музея Якуба Коласа, «замацоўваюцца» ў канцы фірмовым подпісам — музейцыколасаўцы. А гэта — адрасы юбілярам, сяброўскія шаржы,

тэлеграмы, надпісы на кнігах. Іншы раз тэкст пішацца вершамі ў прозе.

Часам рыфмы ўзнікаюць з іншых прычын.

Працавала ў нас дзяўчына Каця. Сядзела ў канцылярыі. За дзвярыма — дырэктар, побач — вучоны сакратар. Нікуды не «вільнеш»...

Маладая,
Парыўная.
Ад стала
Неадрыўная.
У начальства
Навідавоку.
Зажадаеш
Свабоду —
Цябе вылавяць
З ходу
Вочы пільныя
Спераду,
Збоку.

А ці ж толькі
У Якубавай хаце
Засядзелкай быць
Каці?..

*1990 г.*

* * *

*Вучонаму сакратару музея*
*Валянціне Курыловіч у дзень*
*уступлення ў шлюб*

З нагоды сённяшняй падзеі
Убок адкінем мы ўсе дзеі —
Спакойна, ціха, без фанфараў
Мы павіншуем нашу пару.
Пры ўсім мы кажам пры народзе:
Жывіце ў пекнасці і ў згодзе!
Ніколі мы і не хавалі —
Хай пералом надыдзе ў Валі!
Яна самотна, без мажору

Сядзела ў звонах. Толькі Жору
Трымала як бы на выпадак.
Цяпер настаў жыцця парадак...

***4.03.1992 г.***

* * *

Пасля Данілы Канстанцінавіча пяць гадоў кіраваў музеем Якуба Коласа Георгій Андрэевіч Ткацэвіч. У 1993 годзе, быўшы дырэктарам музея архітэктуры і побыту Беларусі, адзначаў ён сваё 50-годдзе. Павіншаваць ад коласаўцаў пайшлі мы ўтрох — Даніла Канстанцінавіч, Мікола Мацюх і я. На альбоме надпісалі словы:

Свайму дырэктару былому
Ніводзін з нас не зычыць злому —
Яго натуры цвёрдай, думнай,
Яго хлявам, хацінам, гумнам.
Жыві прывольна, безбалесна
З сваім музеем паднябесным!

* * *

*Ніне Галіноўскай*
*у дзень 60-годдзя*

Ніна Галіноўская —
Свойская, сяброўская,
Дзеткам неабходная,
Блізкая ім, родная,
Сэрцам ім адданая,
Імі апантаная...
Удалася гэткаю —
Для дзяцей паэткаю.

***18.12.1995***

* * *

*Да выхаду ў свет*
*100-га нумара часопіса*
*«Роднае слова»*

Раз ужо соты
Поўняцца соты
Прагнасцю моўнай.
І, безумоўна,
«Роднаму слову» —
Жыць адмыслова!

*Красавік 1996 г.*

* * *

*Леаніду Хадкевічу*[1]
*ў дзень 50-годдзя*

Усё глядзіцца ў часе.
Тарас быў на Парнасе.
А сёння сын ягоны
Парнаскія пагоны
Апраўдвае так чынна
(Сапраўдны ж ён мужчына!).
Кіпучую натуру
На родную культуру
Выкладвае аддана
Дырэктар «аб'яднаны».

*30.08.1996 г.*

* * *

*Ганне Зайцавай у дзень*
*25-годдзя*

Ва ўзросце два-пяць
У шапку не спяць.

---

[1] Леанід Хадкевіч — сын вядомага беларускага пісьменніка Тараса Хадкевіча, які шмат гадоў працаваў у Саюзе пісьменнікаў літкансультантам.

Маленькаму Бору
Патрэбна падпора.
Не будзе, дальбог жа,
Вам крыўды за тое,
Калі пашанцуе
Займець яшчэ з двое.

*16.12.1996 г.*

* * *

*Сяргею Маслоўскаму,
начальніку аддзела музеяў
і выставак Міністэрства
культуры Беларусі, у дзень
50-годдзя*

Што б рабілі ўсе музеі
Без Маслоўскага Сяргея?
Каб вялася спорна праца,
Ён — памочнік і дарадца.
Мудры кіраўнік, лагодны,
І дырэктарам — як родны.
Хай рулюе гэтак гожа
Яшчэ доўга наш Сяпрожа!

*16.01.1997*

* * *

*Міхасю Шавыркіну,
рэдактару часопіса «Роднае
слова», у дзень 50-годдзя*

Віншуем дружна з паўстагоддзем!
Ці то ў мароз, ці то ў разводдзе
Не супыняйцеся ў паходзе —
Культуру сейце ў народзе!

Задору, плёну Міхасю,
Што славіць Коласа ваўсю!

*15.09.1997*

* * *

31 снежня 1997 года. Канец рабочага дня. Тэлефонны званок. Падымаю трубку. Анатоль Васільевіч Грэкаў (стаўбцоўскі «культурнік») віншуе ўсіх нас з Новым годам. Тое ж і я раблю. «Нешта, Іван Сцяпанавіч, забыліся вы пра мяне, — папракае і доўжыць. — Віншуеце розных людзей...» Намёк зразумеў. 1 студзеня застаўся ў кватэры адзін. Сеў дый за пару гадзін зарыфмаваў свае думкі пра яго.

### Наш Грэкаў

На Стаўпеччыне, ля Нёмна,
Сам сабою, не наёмна
Немалую долю веку
Ладзіць культработу Грэкаў.

Ані дня без хвалявання.
Тэмперамент свой дазвання,
Не змыкаючы павекаў,
Аддае няўтомны Грэкаў

Дзеля радасці людское,
Каб жыццё было ў развоі.
І ніяк з культуры здзекаў
Не пацерпіць пільны Грэкаў.

На падбор яго ўсе дзейцы.
І трымае ўмела лейцы,
Каб з іх кожны ўсё кумекаў,
Рэгулятар — строгі Грэкаў.

А гасцям любога свята,
Хоць жывецца й небагата,
У застоллі «моцных лекаў»
Не шкадуе шчодры Грэкаў.

Ён Стаўпеччыну мацуе —
І раён пяе, танцуе.
Як бы хто ні кукарэкаў —
Нам такі патрэбен Грэкаў!

Пайшоў на работу. Першай прачытаў дырэктару — Зінаідзе Мікалаеўне Камароўскай. Яна: «Гэта добра. Але, здаецца, каб напісаць што-небудзь для ўдзельнікаў дзіцячага фестывалю "Сы-

мон-музыка"...» Зноў — «сацыяльны заказ». 7 студзеня сядаю за стол і даволі шпарка пішу тэкст песні. Перадалі А. Грэкаву. Той — самадзейнаму кампазітару, выкладчыку Коласаўскай музычнай школы Яўгену Ціхановічу. Атрымалася песня. Упершыню прагучала ў Ластку на святце юных музыкантаў у тым жа 1998 годзе. Цяпер выконваецца кожны раз у якасці гімна фестывалю.

### Сымонкавы нашчадкі

***Песня юных беларускіх музыкантаў, удзельнікаў фестывалю «Сымон-музыка» на радзіме Якуба Коласа***

З гарадоў, пасёлкаў, сёлаў
У пяснярскі мілы край
На музычны злёт вясёлы
Нас паклікаў цёплы май.

*Прыпеў:*

Сымонкавы нашчадкі,
Гуляем, б'ём у ладкі,
Не паддаемся скрусе —
Расцём для Беларусі!

Нам пяецца лёгка, звонка
І танцуецца не горш —
Пачынаўся тут Сымонка.
Мы прадоўжым спеў яго ж.

*Прыпеў.*

Хоць майстрамі і не станем,
Пойдзем шляхам мы другім —
Не забудзем мы ігранне
Ў гэтым краі дарагім.

*Прыпеў.*

Гэтым днём, пагодным, веснім,
Ладзім мы свой дружны баль —
Родніць музыка нас, песня,
Нас яднае фестываль!

*Прыпеў.*

* * *

*Язэпу Гарэцкаму, майстру
мастацкага чытання, сябру
Коласавага дому, у дзень
60-годдзя*

Шчаслівая часіна тая
(Не падабраць тут нават слоў),
Калі Гарэцкі выступае
І пацяшае слухачоў.

Мы найчасцей яго ўсе просім
(Такі нязменны ў нас парыў),
Каб з дзядзькам-кухарам Антосем
Ён з сокам клёцак навярыў.

Не трэба лепшага напою,
Як слодзіцца такой ігрой.
Глядзіш і бачыш: прад табою —
Новазямельны сам герой.

*26.02.1998 г.*

* * *

*Ігару Лучанку ў дзень
60-годдзя*

Гады хай не будуць Вам грузам,
Хай лучыцца годна і люба
Святлейшая Вашая муза
З паэзіяй дзядзькі Якуба!

*6.08.1998 г.*

* * *

*Анатолю Багатырову ў дзень
85-годдзя*

Анатоля, сына Васіля,
Цэнім мы ўсе зблізку і здаля.
Кажам ад музея песняра:
Хай зямная доўжыцца пара!

Будзьце Вы яшчэ здароў
Дзён багата і гадоў,
Добры наш Багатыроў!

*13.08.1998 г.*

* * *

*Эдзі Агняцвет у дзень*
*85-годдзя*

Марыя Дзмітраўна для Вас
Была за маці ў грозны час.
Ваш паэтычны голас
Ахоўваў дбайны Колас.
Прапагандысты ж песняра
Вам зычаць моцы і дабра.

*11.10.1998 г.*

* * *

*Акадэміку Радзіму Гарэцкаму*
*ў дзень 70-годдзя*

Паважанаму Гарэцкаму Радзіму, што любіць і мацуе Радзіму — розумам «акадэмічным», падыходам да Айчыны гістарычным, стаўленнем да лёсу Бацькаўшчыны энергічным, бытаваннем у народзе сімпатычным —
у дзень 70-годдзя
найлепшыя зычэнні шлюць
музейцы-коласаўцы[1].

*7.12.1998 г.*

* * *

*М. Н. Далідовіч у дзень*
*50-годдзя*

Сябры! Дазвольце мне таксама
Паўстаць прад вамі ў поўны рост —

---

[1] Надпіс на альбоме «Якуб Колас у творчасці мастакоў» пад час правядзення ў музеі юбілейнай вечарыны.

За найшаноўную тут даму
Падняць мужчынскі цёплы тост.

Зірні направа і налева:
Застольцы — людзі ўсе свае,
Ты сёння, Маша, — каралева,
А мы — падданыя твае.

І ўсе гатовы паддавацца,
І не бяром сабе за здзек —
Нам даспадобы гэта праца,
А працай славен чалавек.

Ты паважанне заслужыла
Ці ля святочнага стала? —
Ты службу несла клапатліва,
Дзе б і калі б ты ні была.

Даўно табе раднюткім домам
Стаў гэты мінскі кут святы —
І адыходзяць скруха, стома,
Калі працуеш побач ты.

Сваёй прысутнасцю ў пакоі
Ствараеш людскасці настрой.
Таму адзінства ў нас такое,
Таму жывем, як брат з сястрой.

Не ведае аддзел наш сварак,
Не падымаецца тут гам —
Ты ж падстаўляеш першай карак,
Пасля ўжо часам «мыляць» нам.

Пераадольваеш нямогу,
Вядзеш і ў хаце спраўна рэй —
Сіл на дзяцей кладзеш ты многа,
Каб ім жылося лепш, мудрэй.

Што да самога творцы-мужа —
Ці меў бы ён такі развой?
Ці меў бы статус гэткі мужны,
Калі б свой лёс дзяліў з другой?..

Усё ідзецца у суладдзі.
Сказаць не лішне тут зусім —

Расце на ўцеху бабцы Ўладзік
І Далідовічам усім.

Мацунку, Маша дарагая!
Хай Бог цябе аберагае!

*17.01.1999 г.*
*Ад імя музейцаў-коласаўцаў*
*твой аднапакаёвец-шматгадовец*
*Іван Курбека*

* * *

*Памяці мастака Лявона*
*Баразны ў дзень 70-й гадавіны*
*з дня нараджэння*

У век наш бурны і пануры
Лявон не паддаваўся сну —
На ніве роднае культуры
Праклаў ён дбайна баразну.

*4.02.1999 г.*

* * *

*Гісторыку Анатолю*
*Валахановічу, сябру*
*Коласавага дому, у дзень*
*60-годдзя*

Відаць, натура ўжо такая,
Што ён усюды паспявае.
Калі Валахановіча няма —
Музейны вечар ладзіцца дарма.

*17.04.1999 г.*

* * *

*Артуру Вольскаму ў дзень*
*75-годдзя*

Дай Бог нашаму Артуру
Неспакойную натуру.

Дбайна, люба ён для дзетак
Засявае літпалетак.
Яшчэ доўга працай спорнай
Хай трымае ростань зорнай![1]

*23.09.1999 г.*

* * *

*Інстытуту мовазнаўства*
*імя Я. Коласа Нацыянальнай*
*АН Беларусі з нагоды*
*70-годдзя*

Віншуем з 70-годдзем!
На творчым будзьце
Век узводзе!
Любімымі,
Патрэбнымі ў народзе!
Хай ваш разумны
Навуковы голас
Мацуе неўміручы Колас!

*1999 г.*

* * *

*Міколу Мішчанчуку[2] ў дзень*
*60-годдзя*

Вучоны, педагог, паэт —
Такі зарад, духоўны свет.
Няхай у нашага Міколы
Гадоў багата круцяць колы!

*26.10.1999 г.*

[1] Надпіс на кнізе Я. Коласа «На ростанях» пад час правядзення ў музеі юбілейнай вечарыны.

[2] М. Мішчанчук — прафесар Брэсцкага універсітэта.

* * *

*Івану Цішчанку ў дзень 70-годдзя*

Дарагі мой дружа ЦІК!
Ты даўно не маладзік.
Дык старайся, каб не скіс.
З прывітаннем сябар КІС.

*22.05.2000 г.*

Гэтак віншаваў свайго даўняга друга я з бальніцы, дзе давялося бытаваць той парою. Смяяўся ён на другім канцы тэлефона і выказваў жаданне мець словы мае ў сябе ў пісьмовай выяве. Усё ніяк не ўдавалася сустрэцца. Не прайшло і году, як І. Цішчанкі, пісьменніка, прафесара Дзяржаўнага універсітэта культуры, не стала.

Помню, дзве ці тры медсястры, што чулі маю тэлефанаграму, недаўменна пераглядваліся, а пасля пацікавіліся, што гэта за словы — «цік» і «кіс». Адказаў: ЦІК — Цішчанка Іван Кірылавіч, КІС — Курбека Іван Сцяпанавіч.

* * *

*Дацэнту Белдзяржуніверсітэта Вользе Казловай у дзень 75-годдзя*

Шаноўнай Вользе Васільеўне Казловай, майстру вуснага і пісьмовага слова, заслужанаму педагогу, што моладзь рыхтуе ў дарогу, чалавеку ў грамадстве знанаму, аўтарытэту прызнанаму, лепшаму сябру Дома дзядзькі Якуба, — прыязна і люба ў дзень юбілейны паклон калектыў шле музейны.

Няхай мінаюць Вас напасці,
На службе, дома — нелады.
Жывіце ў дужасці і ў шчасці
Усе далейшыя гады!

*25.05.2000 г.*
*Музейцы-коласаўцы*

* * *

*Стаўбцоўскай раённай газеце*
*«Прамень» з нагоды 60-годдзя*

Дарагія праменьцы!
Святла палоса вузкая —
Газета беларуская,
Раённая, Стаўпецкая,
Заўсёды маладзецкая.
За дабрыню змаганная,
Праціўніца заганнага.
Асветніца народная,
Любімая і родная.
Святла палоса вузкая —
«Прамень» так вызначаецца.
Шырокай плынню, людскаю
Яго дзень адзначаецца.

Настрою прамяністага!
Над вамі — неба чыстага!

*2000 г.*

* * *

*Коласаўскай музычнай школе*
*Стаўбцоўскага раёна з нагоды*
*50-годдзя*

У Стаўпецкім у раёне
Вёска Коласава ёсць.
Тут бывае ў грыбсезонне
Ці адзін сталічны госць?
А яшчэ да гэтай вёскі
Вабяць песенныя ўсплёскі.
Выдаюць лагодна зыкі
Школы тутняй спецмузыкі.
Хай імпэт іх малады
Не згасае праз гады!
Ціхановічу Яўгену[1] —

---

[1] Яўген Ціхановіч — шматгадовы выкладчык гэтай установы, аўтар, як ужо гаварылася, музыкі песні «Сымонкавы нашчадкі».

Гадаваць дастойна змену!
Без супыну, хоць з адхланнем —
У народзе жыць «Святлане»[1]!

*2000 г.*

* * *

*Мінскай абласной бібліятэцы*
*імя А. С. Пушкіна*

Дарагія кнігаўкі!

З юбілеем 100-гадовым!
І прыміце нашы словы:
Захавальніцы мудрасці скарбаў,
Без ныцця на свой лёс і без скаргаў
Вы пачэсную ўносіце лепту
Ў павышэнне людзей інтэлекту.
А што ж ёсць у жыцці даражэйшым,
Як не быць галавою дужэйшым?!
Хай жа свеціцца ў Вашых аконцах
Доўга
рускай паэзіі сонца!

*2000 г.*

* * *

*Дзяржаўнаму акадэмічнаму*
*тэатру імя Якуба Коласа*
*з нагоды 75-годдзя*

Ледзь першы пачуўся ваш голас —
Народзіны правілі вы —
Вас горда вітаў мудры Колас
І дух падымаў баявы.

Вы бралі парыўна, з імпэтам
Ступень за адною адну —
І разам з народным паэтам
Вайне аб'явілі вайну.

---

[1] Школе належыць жаночы вакальны квартэт «Святлана». Яго паслугамі часта карысталіся і мы, праводзячы розныя святы.

Былі вам даступныя пушчы,
Шырокі жыццёвы прасцяг.
А розум цвярозы, відушчы
Усё клікаў і клікаў у шлях.

Мінуліся дні, і так звонка
Паміж прастадзённасцю дзей
Зайграў летуценнік Сымонка,
Лагодзячы душы людзей.

Жыццё несупыннае ў часе.
Здзяйснялася мара здаля —
На сцэну пачэсна ўзнялася
Вялікасць Матуля «Зямля».[1]

Трымайце гэтак лейцы!

*Коласаўцы-музейцы*

* * *

*Міхасю Пазнякову ў дзень 50-годдзя*

Ты змяніў кіроўны вожаг —
Падначаліў сабе «Вожык».
Будзь дасціпным, дружа, колкім —
«Вожыка» вастры іголкі!
Еш, Міхале, мёд чмяліны,
Папівай сок журавінны[2]...

*24.01.2001 г.*

---

[1] Тройчы тэатр цесна дакранаўся да творчасці Якуба Коласа. Да Вялікай Айчыннай вайны, у канцы 1930-х гадоў, на яго сцэне паспяхова ішлі спектаклі «У пушчах Палесся» і «Вайна вайне». Доўгія гады ў рэпертуары тэатра быў спектакль «Сымон-музыка» (пастаўлены ўпершыню ў 1976 годзе), апошнім часам — спектакль «Зямля» (паводле твораў песняра).

[2] Самыя частыя псеўданімы М. Пазнякова — Міхась Журавіна і Кузьма Чмель.

* * *

*Міхасю Мушынскаму ў дзень*
*70-годдзя*

У навуцы ён дока.
І капае глыбока.
Хай жа доўга Міхал
Мае творчы напал!

*24.01.2001 г.*

* * *

*Валянціне Куляшовай,*
*аўтарцы аповесці-эсэ*
*«Лясному рэху праўду*
*раскажу...», у дзень 65-годдзя*

Яна, дачка славутага паэта,
Свой лёс з літаратураю звязала —
Пра бацьку тонка, мудра і з імпэтам
Лясному рэху праўду расказала...

*27.01.2001 г.*

* * *

*Івану Шамякіну ў дзень*
*80-годдзя*

Шаноўны Іван Пятровіч!

Ад дзядзькі Коласа музея
Віншуем Вас мы з юбілеем!
З гадамі аніяк не стыне
Ваш гарт. З глыбокай плыні
У добры час імкнуць крыніцы.
І людзям піць і не напіцца
Лагоды Вашае нязменнай
Натуры добрай і сумленнай.
Вы ў несупыннай літдарозе —
Вам шчасціць нават і ў трывозе.
Заўжды ў чытацкім Вы палоне —
Людскія сэрцы на далоні

Трымаць умееце пяшчотна,
На свой рахунак браць турботна
Чужыя прыкрасці і болі...
І не бывалі аніколі
Ўбаку ад клопатаў краіны,
У Вас апораю махіны —
Атланты і карыятыды!
Свае на будучыню віды
Вы прапануеце эліце.
Знаходзячыся ў зеніце
Усенароднага прызнання,
Вы, не зважаючы на званні,
Размову міла з чытачамі
Пры стрэчах ведзяце гадамі.
Хапае сіл з усім спраўляцца:
Вы ж нездарма — Герой Сацпрацы!
Няўхільна верны свайму доўгу,
Для нас жывіце доўга-доўга!..

*30.01.2001 г.*

* * *

*Міхасю Міцкевічу ў дзень*
*75-годдзя*

Былі у бацькі тры сыны.
І ўсе разумныя яны.
Даўно на фронце за Айчыну
Сярэдні сын яго загінуў.
Няма старэйшага, Данілы.
Цяпер напружваць свае сілы,
За ўсё адказнасць несці ўсю —
Малодшаму з іх, Міхасю.
Да Коласа з людзей найблізкі,
Паклон прыміце нізкі-нізкі.

*31.01.2001 г.*

* * *

*Генадзю Кісялёву ў дзень 70-годдзя*

Дык будзецца ж вока нядрэмным,
Характар удумным і дзёрзкім,
За што і цаніў недарэмна
Ваш талент Вядзьмак-Лысагорскі.

*19.05.2001 г.*

* * *

*Алегу Лойку ў дзень 70-годдзя*

Лойку Алегу
Звечара, зранку —
Творчага бегу
Ў розных напрамках!
Жыць не ў сумоце,
Быць на ўзлёце!

*1.05.2001 г.*

* * *

*Васілю Жураўлёву ў дзень 70-годдзя*

Каб навучыцца ад халтуры
Адрозніць твор літаратуры,
Разгледзець мудра, дэталёва,
Часцей чытайце Жураўлёва.

*27.05.2001 г.*

* * *

*Інстытуту літаратуры
імя Янкі Купалы
НАН Беларусі з нагоды
70-годдзя*

Працуйце плённа і нястомна
І выдавайцеся шматтомна!
Хай будуць вашыя аралы
Дастойнымі імя Купалы!

*2001 г.*

* * *

*Марыі Міцкевіч у дзень
50-годдзя*

Сёння свята ў хаце нашай:
Мы віншуем нашу Машу.
Неразлучныя навекі
Камароўскія, Курбекі
З ёй, унучкай песняровай,
Паважанай, ганаровай,
Што ў любую у хвіліну
Дзеду слыннаму даніну
Аддае прыязна, чыста,
Хоць не гучна, ды ўрачыста...
Пажаданні адны нашы —
Хай жыве ў здароўі Маша!
І Міцкевічаў нашчадкі —
Машаняты й машаняткі!

*13.08.2001 г.*

* * *

*Фатографу Алесю*
*Федарэнчыку, былому*
*супрацоўніку музея Якуба*
*Коласа, у дзень 65-годдзя*

Федарэнчык Алесь
У музеі увесь.
Хоць даўно ўжо не наш,
Здымкаў поўніць багаж.
Быць фіксатарам рад
Вечароў нашых, свят.
Федарэнчык Алесь
Для музея увесь!

*9.09.2001 г.*

* * *

*Народнаму паэту Беларусі*
*Нілу Гілевічу ў дзень 70-годдзя*

О, знакаміты Ніл-зямлянін!
Вам Бог паслаў вялікі дар —
Паэт, вучоны, грамадзянін,
Слухацкіх сэрцаў валадар!

*30.09.2001 г.*

* * *

*Народнай артыстцы Беларусі*
*Марыі Захарэвіч у дзень*
*65-годдзя*

Шаноўная Марыя Георгіеўна!

Мы Вас любім і цэнім
На Купалаўскай сцэне.
Дзядзькі Коласа святы
Удзелам Вашым багаты.
Слухачы ў захапленні.
У настроі, натхненні

Люд дарослы, малыя,
Як стаіць, выступае
Чараўніца такая —
Захарэвіч Марыя.

*28.11.2001 г.*

* * *

*Міколу Маляўку*
*ў дзень 60-годдзя*

Што таленты ўсе з Божай ласкі,
Мы гэта чуем часцяком.
Так і паэт наш Мікалаўскі.
За геніяльным земляком
Ідзе, каб як не збіцца з кроку,
Бо ўжо і сам навідавоку.

Старацца, браце, трэба ўсяк,
Калі ты Коласаў зямляк!

*13.12.2001 г.*



*На вайсковых зборах пасля заканчэння БДУ ў в. Мышанцы Гомельскай вобласці: В. Гесь, І. Філістовіч, В. Чамярыцкі, К. Цвірка, І. Курбека. 1958 г.*



*На адкрыцці выстаўкі, прысвечанай 40-годдзю БССР. Злева направа: У. Ф. Луцэвіч, народны пісьменнік БССР В. Быкаў, супрацоўнік Літаратурнага музея Янкі Купалы І. Курбека. 1958 г.*




*Супрацоўнікі музея Янкі Купалы на ганку сваёй установы. Сядзіць дырэктар Янка Шарахоўскі, справа за ім – І. Курбека. Пачатак 1960-х гг.*



*Жывы Панас каля бронзавага Панаса. Плошча Я. Коласа ў Мінску. 1974 г.*



*Касманаўт Пётр Клімук перадае дырэктару музея Д. Міцкевічу кнігу вершаў Я. Коласа, якую браў з сабой у космас. 1975 г.*



*Украінскія і беларускія пісьменнікі, удзельнікі Дзён літаратуры і мастацтва Украінскай ССР у Беларусі, каля ўваходу ў музей Коласа. 1976 г.*



*Калектыў музея на 1974 г. Сядзяць: наглядчыца Т. Місуна, А. Слесарэнка, сястра Коласа Алена з мужам Міхаілам Іванавічам Лойкам, дырэктар Д. Міцкевіч, інжынер С. Крывіца, навукоўка М. Тапанушка. Стаяць: навуковыя супрацоўнікі Л. Чыгрынава, М. Базарэвіч, Ю. Бураўкіна, А. Камароўскі, Т. Сачанка, І. Курбека, машыністка Г. Русанава, навуковец М. Жыгоцкі, тэхнічны работнік С. Аношка, вучоны сакратар М. Пратасевіч, наглядчыца З. Шуева.*



*З сястрой Якуба Коласа Аленай Міхайлаўнай каля музея: навукоўкі Л. Чыгрынава, Т. Сачанка, М. Тананушка, машыністка Г. Русанава, інжынер Ф. Балалаў. 1973 г.*



*На балконе Коласавага дома – Д. Міцкевіч, дырэктар Г. Ткацэвіч, намеснік дырэктара М. Пратасевіч, старшы рэдактар выдавецтва «Юнацтва» Я. Хвалей. 1985 г.*



*Сын Якуба Коласа Д. Міцкевіч каля музея з настаўнікам Сінкевіцкай СШ Лунінецкага раёна Ф. Пазнякевічам і яго дачкой Светай. 1988 г.*



*На Коласавай сядзібе. З артыстамі Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа гутарыць І. Курбека. 1987 г.*



*Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны з г. Бранска пасля азнаямлення з экспазіцыяй музея. Стаіць чацвёрты злева І. Курбека. 10 мая 1987 г.*



*Міжнародны дзень музеяў. Сядзяць: брат народнай артысткі Беларусі Вольгі Галіны П. Грудзінскі, Д. Міцкевіч, А. Слесарэнка, Л. Мірачыцкі. Стаяць: М. Жыгоцкі, дырэктар З. Камароўская, І. Курбека. 1989 г.*



*З супрацоўнікамі музея і Коласавай раднёй – выдатны беларускі спявак Данчык (у цэнтры). Справа – Д. Міцкевіч і Л. Барткевіч. 18 кастрычніка 1989 г.*



*Тэлеперадача з Коласавага дома. Сядзяць: М. Маляўка, А. Савіцкі, І. Шамякін, П. Панчанка, Ф. Янкоўскі, Д. Міцкевіч, В. Зуёнак. Папярэдні запіс. Вядучы А. Савіцкі. 1986 г.*



*Даніла Канстанцінавіч у сваім хатнім рабочым кабінеце. 1990 г.*



*Марыі Дзмітрыеўне Міцкевіч, Коласавай жонцы, – 100. Выступае П. Прыходзька. 1991 г.*



*Сустрэча з воінамі. За столікам І. Кудраўцаў, М. Татур, Д. Міцкевіч, А. Капусцін, І. Курбека. 1995 г.*



*І. Курбека з жонкай Ірынай Уласаўнай каля музея. 1996 г.*



*Коласаваму Юрку – 80.*
*1997 г.*



*На вечарыне, прысвечанай 75-годдзю І. Шамякіна: З. Камароўская, А. Савіцкі, юбіляр, І. Курбека. 1996 г.*



*На 90-годдзі Заіра Азгура. Сын Заірыд Заіравіч Азгур, М. Міцкевіч, В. Казлова, І. Курбека. 1998 г.*



*П. Прыходзьку – 80. Юбіляра вітае А. Савіцкі. Сядзяць М. Міцкевіч, І. Курбека. 2000 г.*



*А. Савіцкаму – 75.*
*1999 г.*



*Янку Маўру – 115. Сядзяць: загадчык філіялаў Коласаўскага музея М. Семянянка, сын Коласа Міхась і яго жонка Наталля Іванаўна, дачка Я. Маўра. 1998 г.*



*Радзіму Гарэцкаму – 70. Сядзяць: юбіляр з жонкай Галінай Рыгораўнай, выступае вядучы вечарыны І. Курбека. 1998 г.*



*Пасля вечарыны, прысвечанай 90-годдзю М. Лужаніна. Сядзяць: Л. Мірачыцкі, А. Ігнацюк, В. Міцкевіч, М. Міцкевіч, М. Далідовіч, М. Лужанін, А. Шакун, З. Камароўская, К. Самахвал (Коласаў родзіч); стаяць: Т. Сачанка, І. Кудраўцаў, В. Казлова, А. Савіцкі, М. Жыгоцкі, Г. Зайцава, У. Паўлаў, І. Курбека, С. Субат, А. Макрыцкая, Т. Кляшторная (даглядчыца М. Лужаніна), М. Міцкевіч (Коласава ўнучка). 1999 г.*



*М. Міцкевіч з І. Курбекам на фестывалі юных музыкаў «Сымон-музыка» ў Стаўбцоўскім Доме культуры. 2001 г.*



*На Коласавай сядзібе пасля вечарыны, прысвечанай 85-годдзю сына песняра Юркі: І. Курбека, чытальнік твораў народнага паэта Я. Гарэцкі, жонка І. Курбекі Ірына, настаўніца СШ № 98 Мінска Т. Цалуйка, гісторык А. Валахановіч, І. Кудраўцаў, М. Міцкевіч, пісьменнік У. Содаль, Коласаў родзіч К. Самахвал.*



*Дзіцячае свята «Вясна, вясна жаданая!..»*
*Вядзе супрацоўніца музея С. Субат.*
*2004 г.*



*У дзень адкрыцця новай, чацвёртай, экспазіцыі музея: інжынер Б. Іваноў, навукоўка П. Вашчыла, намеснік дырэктара Г. Зайцава, І. Курбека.*
*2003 г.*



*На вечарыне, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння А. Вольскага:*
*брат паэта Гарольд, жонка Ларыса Горцава, І. Курбека.*
*Выступае Р. Барадулін.*
*2004 г.*



*М. Аўрамчыку – 85. Юбіляр злева.*
*2005 г.*

## «МАЯ ДАРАГАЯ»

### *Уладзіслава Францаўна Луцэвіч*

> Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
> Вольная птушка сумнай зямліцы...
>
> *Я. Купала*

Яе цанілі і паважалі ўсе. І той, хто знаходзіўся побач, сустракаўся часта, і той, хто бачыўся з ёю толькі мімаходзь.

«Я асабіста страціла ў ёй вялікага і сардэчнага друга, — пісала ў дзень смерці Уладзіслававы Францаўны Канстанцыя Буйло. — Я заўсёды адчувала на сабе яе матчыну ласку, сястрынскую любоў. Многа душэўнай цеплыні давала яна мне, мая дарагая Уладка!»

Добрым, ціхім словам успаміналі і ўспамінаюць Уладзіслаunion Францаўну і тыя, каго яна клапатліва выводзіла ў людзі. Трыццаць чатыры гады аддадзена ёю нялёгкай, але пачэснай працы педагога.

Нарадзілася Уладзіслава Францаўна Станкевіч 25 снежня 1891 года ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна.

Атрымаўшы экстэрнам сярэднюю адукацыю і затым скончыўшы двухгадовыя настаўніцкія курсы ў Варшаве, яна звыш сямі гадоў (з 1908 па 1915) працавала настаўніцай-выхавацелькай дзіцячых устаноў у Вільні. Адначасна ўдзельнічала ў нелегальных школах-гуртках для рабочай моладзі, за што двойчы прыцягвалася да судовай адказнасці.

Уладзіслава Станкевіч была сваім чалавекам на сходках літаратараў, на вечарынках, што адбываліся ў Вільні ў беларускім клубе на Віленскай вуліцы або ў літоўскім клубе «Рута», на сустрэчах у доме Цёткі на ўскраіне горада.

У той час у Вільні адчуваўся бурны пульс жыцця абуджанай Беларусі. Выходзіла «Наша ніва», існавала беларускае выдавецкае таварыства, кнігарня, выдавалася сельскагаспадарчая газета

«Саха». Настаўнікі і студэнты распаўсюджвалі беларускае друкаванае слова.

Беларускіх пісьменнікаў і настаўнікаў аб'ядноўвала агульнае вялікае жаданне — аблегчыць існаванне сваім землякам. Калі на наш народ наваліліся беды першай сусветнай вайны і сотні, тысячы сірот гібелі без прытулку, рэдактар першага дзіцячага беларускага часопіса «Лучынка» Алаіза Пашкевіч (Цётка) выклікала Уладзіславу Францаўну з адпачынку ў Мінск: трэба было тэрмінова стварыць дзіцячы дом.

Любімага занятку — работы з дзятвой — не пакідала яна і ў пазнейшы час. Дзе б ні была з Купалам: у Маскве, Вільні, Полацку, Смаленску, Мінску — аддавала свае сілы і ўменне выхаванню юнага пакалення.

Працавала ў савецкі час інспектарам дашкольных устаноў Народнага камісарыята асветы БССР, педагогам 8-га дзіцячага сада горада Мінска, педагогам-метадыстам мінскага Палаца піянераў.

Колькі розных, адметных характараў маленькіх выхаванцаў прайшло праз яе рукі! Многія з іх назаўсёды запамяталі ласкавую цёцю Уладзю. Памяталіся ім і бадзёрыя песенькі, вясёлыя вершыкі, дасціпныя жарты і загадкі, якія развучвала з імі педагог-энтузіястка. Большасць гэтых твораў былі ёю дбайна сабраны і выдадзены асобнымі кніжкамі. Ёю апрацаваны і некаторыя народныя казкі.

«Прайшлі многія гады, і вось я, выпадкова зайшоўшы ў музей Янкі Купалы, успомніла сваё далёкае дзяцінства. Здаецца, гэта было ўчора, калі я, маленькая дзяўчынка, хадзіла ў дзіцячы сад, дзе выхавацелькай была Уладзіслава Францаўна, любімая намі цёця Уладзя. Помню ціхага, добрага, не вельмі гаваркога Івана Дамінікавіча, як я яго называла — дзядзька Ян. Быццам зноў пабывала ў іх доме, толькі не сустрэла жывых яго гаспадароў», — чытаем мы ў кнізе водгукаў Літаратурнага музея Янкі Купалы. Належыць запіс мінчанцы З. Ланцавай.

Так, у музеі побач з вялікім паэтам жыве, прысутнічае і Яна, неадступная спадарожніца песняра. Менавіта Яна — арганізатар і стваральнік гэтага помніка.

Далося ж усё вельмі нялёгка. Дом паэта, а разам з ім і ўвесь скарб — рукапісы і звыш 15 тысяч кніг — згарэлі на трэці дзень фашысцкага нашэсця. Колькі ж спатрэбілася настойлівасці, жадання і любові, каб сабраць усё, што звязана з дзейнасцю вялікага сына зямлі беларускай!

«Памяць Янкі — гэта ўсё, што засталося мне ў жыцці», — пісала яна знаёмым у 1943 годзе. Памяці Купалы аддала дарэшты свае кіпучае жыццё.

«Нізка схіляю галаву перад памяццю Янкі і перад табой, Уладзенька. Слава і чэсць табе, што ў такіх цяжкіх умовах, з нічога, з руін стварыла такі велічны помнік Янку!»— запісала ў 1952 годзе першая выканаўца Купалавай Паўлінкі Паўліна Мядзёлка.

Хораша сказаў пра музей Купалы паэт Кастусь Цвірка:

> Ледзь крануўся я клямкі дзвярэй, —
> І рука задрыжала,
> Нібы гэта зусім не музей,
> А кватэра Купалы...

З цікавасцю слухалі наведнікі дырэктара музея — паплечніцу песняра. А ёй было што ўспомніць. Успамінала часам, як у 1912 годзе яны з Янкам пазнаёміліся, як праз чатыры гады злучылі свой лёс назаўсёды. І з таго часу неразлучныя былі да горкай ростані ў суровым сорак другім.

«Першая мая сустрэча з Янкам Купалам, — прыгадвала яна, — адбылася ў Вільні, у беларускай кнігарні, на Завальнай вуліцы, 7. Даведаўшыся, што Янка Купала знаходзіцца там, нас чалавек 10–15, у тым ліку Цётка, Ядвігін Ш., Бядуля, пайшлі яго пабачыць. Калі я першы раз убачыла Купалу, ён мне тады чамусьці не спадабаўся. Захапляючыся яго вершамі, я стварыла ў сваім уяўленні нейкі незвычайны вобраз паэта. Сваім сціплым выглядам ён нагадваў звычайнага сялянскага хлопца. Янка Купала цёпла прывітаўся са знаёмымі хлопцамі, пацалаваўся з кожным, гаворачы: «Здароў, здароў!» З намі, дзяўчатамі, прывітаўся за руку і, акінуўшы ўсіх яму ўласцівай добрай усмешкай, сеў каля нас. Цётка, якая вельмі сябравала з Янкам Купалам яшчэ ў Пецярбургу, пачала цалаваць яго і засыпаць шчырымі цёплымі словамі: «Вось добра, Купалка, што ты прыехаў. Шмат у нас працы. Чакалі мы тут усе цябе». Яна хваліла яго за апошнія вершы. Трэба адзначыць, што Янка Купала перапісваўся з Цёткай у той час яшчэ, калі яна не мела права пасля 1905 года жыць у Расіі і выехала ў Львоў. Ён пасылаў ёй свае вершы.

Ядвігін Ш., як заўсёды, горача, з гумарам расказваў аб розных выдавецкіх справах, як лоўка яны ашукваюць цэнзуру. Янка Купала сядзеў, курыў, гаварыў мала, больш слухаў. Разглядаючы малое, цеснае памяшканне кнігарні, сказаў: «Час ужо

нам, беларусам, вылезці з падзямелля» (кнігарня змяшчалася ў падвальным памяшканні).

Тады Купала меў шмат новых вершаў. Мы прасілі, каб ён сам прачытаў што-небудзь. Ён сказаў: «Я не ўмею чытаць сваіх вершаў, наогул дрэнна чытаю. Вы пачытайце, а я з радасцю паслухаю».

У адным з артыкулаў Уладзіслава Францаўна вытлумачвае гісторыю напісання паасобных Купалавых твораў, тых, што блізкімі нам сталі са школьных хрэстаматый. Гэта вершы славутага ляўкоўскага цыкла.

«Калі Янка задумваў напісаць які-небудзь верш, ён рабіўся яшчэ больш маўклівым, імкнуўся тых, хто акружаў яго, адаслаць ад сябе. Тады я ўжо ведала, што ён думае над сваім творам і што яго нельга трывожыць.

Аднойчы ў глыбокай задуме ён сядзеў на ганку. Сонца заходзіла, праменні яго залацілі ствалы сосен. У гэты вечар Янка Купала напісаў верш «Сосны».

Іхні дом у Мінску гасцінна расчыняў свае дзверы для розных людзей. І для дзетвары. Пра гэта расказвае пляменніца народнага паэта Ядвіга Юльянаўна Раманоўская:

«Я заўсёды хвалююся, калі даводзіцца гаварыць пра вельмі дарагіх мне людзей — дзядзьку Янку і цёцю Уладзю. Яны лічылі нас, пляменнікаў, за сваіх родных дзяцей. Некаторыя з нас жылі ў іх доме. Догляд быў самы найлепшы. Але і чужыя дзеці адчувалі сябе тут добра. Часта ў доме стаяў вясёлы смех. Прыходзілі групамі, па аднаму, па некалькі. Іх запрашала ці прыводзіла, бывала, сама Уладзіслава Францаўна. Іншы раз заставалі за працай Купалу. Іван Дамінікавіч пакідаў стол і пачынаў знаёміцца з юнымі гасцямі. А пасля частаваліся. Цёця Уладзя зноў уступала ў сваю звыклую ролю — гучалі вершыкі, песенькі. Затым выходзілі ў сад — Купала надзяляў кветкамі і яблыкамі выканаўцаў. Часам цёця Уладзя здольных да літаратурнай творчасці дзяцей (гэта калі яна працавала ў Палацы піянераў) прыводзіла да Купалы на паказ, на кансультацыю. Ён уважліва выслухоўваў, даваў парады, хваліў ці далікатна раіў пакінуць пісаць».

Што да самой гаспадыні — яна ўсіх зачароўвала весялосцю, энергіяй, душэўным хараством. «Было ў ёй нешта рэдкае, што абуджае сімпатыю адразу», — пісалі пра яе знаёмыя.

Простая і таварыская, яна ўмела гаварыць з кожным, разумець і цаніць людзей.

«Пры сустрэчах з гэтым незвычайным чалавекам, — успамінала народная артыстка Савецкага Саюза Ларыса Пампееўна Александроўская, — прападалі і стомленасць, і дробязныя

клопаты. Заўсёды ўзнікала жаданне жыць у поўную сілу, яшчэ больш настойліва і ўпарта працаваць».

Каля двух гадоў мне пашчасціла быць у падначаленні цёці Уладзі. І цяпер стаіць яна перад вачыма. Энергічная, гаваркая.

— Хто там ёсць? — чуецца звыклы, пазыўны голас. Услед раздаюцца мерныя, натужныя крокі. Лесвіца вузкая, стромкая. Цяжкая і для маладых ног. Гэта цёця Уладзя з паўпадвальнага пакоя (канцылярыі) паднімаецца на экспазіцыю музея. Мы, хто апынуўся каля службовага століка, прымаем належны выгляд і чакаем... З вузкага калідорчыка паказваецца знаёмая постаць Уладзіславы Францаўны. Дырэктар моўчкі падае ўсім руку і сядае ў свае ўлюбёнае крэсла.

— Ну, што чуваць? Быў хто? — цікавіцца яна. — Заязджала толькі што... — працягвае Уладзіслава Францаўна і называе ўстанову. — І што за людзі! — уздыхае. Далей ідзе непрыемны расказ пра нядаўнюю сустрэчу з бюракратызмам.

Гаворыць, а тут — экскурсія. Нясмела дзверы адчыняе кіраўнік.

— Адкуль вы? — размагнічвае госця Уладзіслава Францаўна. І высвятляецца — яны амаль што землякі, ведаюць адных і тых жа людзей.

Скаванасць знікае. Плыве ў залу дзетвара, і павадыром яе па жыццёвых дарогах і сцежках Купалы становіцца сама дырэктар музея. Пасля экскурсіі гамонка не сціхае. Пытанні — адказы. І ўспаміны, успаміны... Прыгадваюцца даўнія часы. Невясёлыя, але па-свойму цікавыя, незабыўныя.

Усхваляваныя, пакідаюць наведнікі музей, а цёця Уладзя рэзюмуе:

— Добрыя дзеці. І настаўнік — разумны чалавек.

А было, што некаторыя прыводзілі яе ў нервовасць. Зайшоў неяк малады літаратар і, таемна акінуўшы позіркам столь і сцены ўваходнага пакоя, выпаліў:

— Вось дзе вершы пісаць!

Цёця Уладзя пакутна прамаўчала. Калі той аддаліўся, рэзка спыталася ў мяне:

— Вы яго ведаеце?

— А як жа — вучыўся на філфаку.

— Ён не добры чалавек, не добры!..

Развітваючыся, наведнік далікатна звярнуўся да яе:

— Уладзіслава Францаўна, ці няма ў Вас месца?

— Няма, няма! — як ад назолы пачала адкарасквацца яна. А месца навукоўца, прызнацца, было. І Уладзіслава Францаўна падшуквала кандыдатуру.

— Не працаваць ідзе, а вершы пісаць!.. — не сунімалася яна.

Музей быў для яе святыняй. І праявы людской абыякавасці або проста нетактоўнасці ў адносінах да памяці Купалы яе моцна абражалі.

Не цярпела і фразавага пустазвонства ў адрас народнага паэта. Пісаў аднойчы я заметку. І не заўважыў, як нахапілася Уладзіслава Францаўна. Памкнуўся прыхаваць паперы — не ўдалося.

— Пачытайце, што напісалі.

— Ай, цёця Уладзя, нічога тут мудрага...

— Пачытайце, пачытайце! Я хачу паслухаць!

— «Вялікі пясняр беларускага народа Янка Купала ўвайшоў у гісторыю...» — і яшчэ, і яшчэ колькі агульных ісцін вычытаў.

— Бачыце, — супыніла мяне дырэктар, — у вас многа напышлівых, даруйце, безаблічных слоў. Вы прывядзіце факты, і кожнаму стане зразумела, чаму Купала вялікі. Чытайце далей!

Дальбог, давялося адпрошвацца, каб не сарамаціцца больш. На будучае ўзяў сабе за навуку.

Пра легкадумных жа аўтараў, што часта прысвячалі Купалу сваю шырспажыўпісаніну, пра звычайных халтуршчыкаў яна выказвалася коратка і вобразна:

— Аладкі пячэ.

Быў тады я ў музеі самы маладзейшы, калі не лічыць Анюмашыністку. І цёця Уладзя ставілася да мяне па-асабліваму, як да меншага ў сям'і. Яе цікавіў мой хатні і нават «вулічны» ўклад жыцця. Вяртаюся, бывала, са сталовай — Уладзіслава Францаўна ў роспыты: што на першае, што на другое, на трэцяе браў. Так шчыра, па-мацярынску. І пагаджалася з маім густам або аргументавана ўносіла змены ў маё «меню».

Яна турбавалася за кожнага з нас. Магла ўлагодзіць і заспакоіць, калі надараліся непрыемнасці. Гэтак жа і зусім чужым людзям спрыяла. Нездарма займела такое свойскае, пяшчотнае імя — цёця Уладзя.

Да яе хінуліся ўсе, бо заўсёды атрымлівалі падмогу. І не толькі маральную. Яна вызначалася надзвычайнай гасціннасцю. Шмат хто і сёння можа ўспамінаць цёплыя сустрэчы з Уладзіславай Францаўнай і за «круглым», і за «кантовым» сталом. Прыгадваю і я адзін такі эпізод. Пайшла ў адпачынак загадчыца філіяла музея ў Вязынцы. Паслалі мяне яе замяніць. Завёў я знаёмства з некаторымі вясковымі хлопцамі. Нядзелька. Прыйшлі яны да мяне. І раптам коціцца экскурсійны аўтобус. А наперадзе — легкавушка (асабісты вадзіцель майго дырэктара і сама яна).

Уладзіслава Францаўна мела за звычай суправаджаць некаторыя экскурсіі. Гэтым разам былі настаўнікі з Беласточчыны. Правёў я іх. Падзякавалі і ўсе падаліся на ўзлескавы «пікнік». Неўзабаве адтуль панесліся песні — беларускія, польскія, рускія. Як мне захацелася пабыць сярод вясёлых людзей! Але ж трэба хату пільнаваць... Дый новая экскурсія можа заявіцца...

Праз пэўны час вяртаюцца аўтобус і легкавік. Вадзіцель Іван Сямёнавіч Сонюшкін падклікае мяне да машыны, «адкаркоўвае» багажнік і вытлумачвае: «Гэта ад Уладзіславы Францаўны». А там — у вялікім прасцірадле: некалькі бутэлек «апетытных кропель» і набор розных «зажовін». Паехалі госці. Паклікаў я змардаваных ад чакання сяброў. І наладзілі мы «пікнік», не горшы за той, лясны. Дзякавалі ўсім, а найперш — гасціннай Уладзіславе Францаўне.

Набіраў разгон музей Купалы. На службу прыходзілі маладыя дзяўчаты. І сталася, як згаварыліся, — адна за адной кінуліся «ў дамкі».

Пачыналіся зацяжныя, шматмесячныя адпачынкі. Цёцю Уладзю гэта затрывожыла.

— Мусіць, трэба мне перайсці на мужчын, — дабрадушна казала яна. — Давядуць мяне гэтыя жанчыны!..

Пад уражаннем «абурэння» Уладзіславы Францаўны напісаў я верш. Чытаю супрацоўніцам. Смяюцца, каменціруюць. Уваходзіць дырэктар. Змоўк я, утаймаваліся слухачкі... Яна ж:

— Чаго вы сціхлі?

— Ды тут пра Вас... — баязліва прызнаюся.

— То добра ж, калі пра мяне. Чытайце — і я хачу паслухаць.

Вымушаны быў раскрыцца. Верш, дзякуй Богу, цёці Уладзі спадабаўся. Не раз пасля прасіла пачытаць перад наведнікамі.

З даўняга «дазволу» Уладзіславы Францаўны прапаную верш чытачам.

### Неспакой

Чым то дзеецца ў музеі,
Што дзяўчаты, як адна,
Ледзь ступіць сюды паспее —
Замуж выйдзе. Вось і на!

Ужо так нейк павялося:
Помню, летась, пад канец,

Неўпрыкмет хітруня Зося
Шыбанула пад вянец.

А за ёю (што за ліха!) —
Эй, была ці не была —
Наша Аня гэтак ціха
Сан кабеты набыла.

Віншавалі гуртам цэлым,
Чаркі выпілі да дна,
А тым часам на прыцэле
Ўжо была яшчэ адна.

Тут, у Мінску, не ўяўлялі,
Што ледзь месяц-два міне,
Як там Нэла ў філіяле
Век сямейны распачне.

Ўсіх здзівіла не на жарты,
Цёці Ўладзі неспакой:
— Куды гэта, людзі, варта?
Больш работы ніякой!..

А на службу ішло многа,
Каб уладзіцца ляпей, —
Цёця Уладзя з асцярогай
Стала браць іх у музей.

Падшукала ўсё ж дзяўчыну,
Што пра замуж ані-ні,
Месца ёй дала па чыну,
Пацяклі спакойна дні.

Час ішоў, ляцелі суткі.
Ды вось Люда адзін раз
Пра сябе сказала:
— Дудкі!
Чым я горшая за вас?!

Пасмяяліся нямала,
Люда ж вокам не міргне.
Цёця Ўладзя:
— От навала
На музей і на мяне!

Сціплая ў працы і ў быце, Уладзіслава Францаўна пра сябе звычайна змоўчвала. Ніхто з супрацоўнікаў музея ніколі ад яе не чуў, скажам, пра ўрадавыя ўзнагароды, якія атрымала за актыўную дзейнасць. Хіба толькі дзе ў анкеце можна было прачытаць, што мела два ордэны «Знак Пашаны», медалі, граматы. Нават прысваенне звання заслужанага дзеяча культуры БССР успрыняла са знешнім спакоем, з усведамленнем быццам бы нязначнасці сваіх заслуг перад Айчынай.

У апошнія гады цёця Уладзя моцна хварэла. Часам скардзілася на стомленасць. Але марнымі былі прапановы сяброў пайсці на адпачынак, пазбавіцца працоўных турбот, сур'ёзна палячыцца. Лепшым лекарам для такіх людзей, відаць, якраз і з'яўляецца несупынная клапотнасць.

Вельмі ж радавалася яна кожнай новай музейнай знаходцы, новаму дакументу. Радавалася і пашырэнню самой плошчы музея. Калі з двух, займаемых на падсуседзях у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, ды стала пяць пакояў — гэта было падзеяй. Але ж не вырашэннем мары: зноў на правах кватаранта — цяпер ужо ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі.

У 1960 годзе жаданы час настаў, толькі самой цёці Уладзі не давялося сустракаць першых гасцей. Памерла яна 25 лютага, адкрыццё музея адбылося 17 мая.

## «МІЛАЯ МАРУСЯ!»

### *Марыя Дзмітрыеўна Міцкевіч*

Такім пяшчотным зваротам пачынаюцца лісты Якуба Коласа да сваёй жонкі. Часам эпітэт узмацняецца: «Мілая, слаўная Маруся!», «Мілая, харошая...», «Мілая, слаўная, любая...», «Мая мілая, родная, дарагая...». Ці: «Мой лепшы прыяцель...», «Мой добры, дарагі друг...» А як ласкотна вар'іруецца ў тэксце само імя — Маруся, Маруська, Марусік, Марусенька, Марусёнак!.. І нязменны подпіс — «Твой Костусь». І адзін, здаецца, раз жартоўнае самаабазванне — «Твой лысы стары Костусь».

Шчырасць пачуцця і павага да блізкага чалавека бачыцца ў кожным Коласавым лісце. Пагартайце 13-ты том Збору твораў народнага песняра, і вы ў гэтым пераканаецеся.

З першых дзён сямейнага паяднання Марыя Дзмітрыеўна Каменская стала паэту самым дарагім чалавекам, дарадцай і

памочніцай у ягоным клапотным штодзённі. А пазнаёміліся маладыя людзі ў 1912 годзе ў Пінску, дзе абое рупіліся на ніве народнай адукацыі (ён — у 3-м прыходскім вучылішчы, яна — у чыгуначнай школе).

Максіму Лужаніну Колас расказваў:

«Добра было б зірнуць на ўсё, што я пісаў у той час ёй і пра яе. Я саромеўся тых вершаў. Завёў нават на іх запісную кніжку і навідавоку не пакідаў, насіў яе ў пільчаку. У друк, вядома, нічога не падаваў, няёмка адбіраць месца ў газеце і час у людзей на сваё, што толькі мне належала... Адным словам, нават Марусі трапілі на вока мае вершы значна пазней, калі мы ўжо жылі разам.

Я спяшаўся ў школу і не заўважыў, што кніжачка мая выпала з кішэні. А ўвечары Маруся пытае: «У каго ты, Костусь, закахаўся гэтак моцна?» Я гляджу на яе, нічога не разумеючы. Яна ківае галавою і кажа: «Так, так. Не закахаўшыся, такіх вершаў не напішаш».

Я збянтэжыўся, давай апраўдвацца. Называю даты пад вершамі, а яны ішлі адзін за адным, ад першага дня нашага знаёмства.

Маруся смяецца: «Я ж не па датах зразумела, што гэта ўсё маё, не магу ж я паверыць, каб ты казаў мне адно, а пісаў каму-небудзь іншаму другое. Не тое мяне засмучае. Шкада, ад таго часу, як мы пажаніліся, у кніжачцы амаль не прыбавілася запісаных старонак».

І далей народны паэт працягваў:

«Пажаніліся мы 3 чэрвеня 1913 года. Вяселле не гулялі, толькі выпілі пляшку данскога віна. Было такое шлюбнае падарожжа. Мы паехалі ў Вільню да яе маці. Васіль Дзмітрыевіч, брат Марусі, сустрэў нас з аўтамабілем, хвацка правёз, а потым падараваў нам на развод гаспадаркі самавар».

Дарэчы, гэтая рэліквія зараз экспануецца ў філіяле Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа ў Смольні, у той хаце, дзе ўпершыню сустрэліся два беларускія песняры — Колас і Купала.

Да пераезду ў Пінск Марыя Дзмітрыеўна Каменская (нарадзілася 7 лютага 1891 года ў Ашмянах у сям'і святара) вучыла дзетак у Вільні. У памяці выхаванцаў яна пакінула нязгасны след. Народная артыстка Беларусі Вольга Галіна ўспамінала (запіс 1972 года):

«Маё маленства праходзіла ў Вільні. І вось калі прыйшла пара аддаваць мяне ў гімназію, дык бацькі аддалі мяне спачатку ў чыгуначную школу, іменна таму аддалі, што там працавала настаўніца Марыя Дзмітрыеўна. Яна была дачка прыяцелькі

маёй мамы. І я памятаю, як мы любілі нашу настаўніцу. Яна была такая лагодная, пяшчотная. І вельмі любіла дзяцей. Яна ніколі на нас не крычала, не падымала голасу, а з такой лагоднай усмешкай, спакойна заўсёды звярталася да дзяцей. Мы так былі прывязаны да яе, што, калі абвясцілі аднойчы, што яна ад'язджае ў другі горад, у другую школу, у класе ўсчалося нешта неверагоднае. Дзеці прасілі, малілі, каб засталася з імі. І Марыя Дзмітрыеўна была так усхвалявана! Сама і плакала, і смяялася. Відаць, ад радасці, што вось так яе любяць. І, зразумела, ні Марыя Дзмітрыеўна тады, ні я тым больш (мне было тады восем гадоў), не ведалі, што яна стане жонкай нашага славутага паэта».

Першая сусветная вайна вымусіла Якуба Коласа надзець салдацкі шынель. Марыя Дзмітрыеўна з маленькім сынам Данілам эвакуіруецца ў Расію. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, ужо ў савецкі час, Колас працуе ў тых мясцінах, на Куршчыне, педагогам. З 1921 года яны — мінчане.

Куды б ні ад'язджаўся гаспадар, якой бы ні была разлука (больш ці менш працяглай), ён пісаў і пісаў лісты, вялікія, грунтоўныя.

«Ці ўсё ў цябе добра, ці здарова ты сама? Каб ты ведала, Маруська, як мне без цябе цяжка. Дня таго няма, няма таго часу ў дні, каб я не ўспомніў аб табе», — па-юнацку шчыра прызнаецца ён у лісце з Кіславодска, напісаным 5 ліпеня 1924 года.

А праз тры дні, апавядаючы пра сваё жыццё-быццё на курорце, звяртаецца да жонкі, як да першага і добразычлівага крытыка:

«Учора я, Маруська, закончыў «Сымона-музыку» і, здаецца, закончыў не кепска. Вось прыеду дадому і параюся з табою».

Пасля вяртання з Куршчыны ў Мінск Коласава сям'я наймае кватэру ў прыватніка Вільгельма Русецкага. Побыт і норавы шматлікіх насельнікаў гэтай сядзібы хораша апісаны народным паэтам у апавяданні «У двары пана Тарбецкага». Сам Колас тут пададзены ў вобразе Дацэнта (Канстанцін Міхайлавіч тады працаваў, як вядома, у Белдзяржуніверсітэце). Сядзіба Русецкага размяшчалася побач з сённяшнім Домам радыё. З 1927 года Коласы жывуць у сваім уласным двухпавярховым драўляным доме па Вайсковым завулку (цяперашняя тэрыторыя парку імя Максіма Горкага). Згарэў дом на трэці дзень гітлераўскага нашэсця.

З той даўняй пары, з 1920-х гадоў, жаданым госцем Коласавай сям'і стаў малады беларускі скульптар Заір Азгур. Народны мастак СССР у 1991 годзе ўспамінаў:

«Марыя Дзмітрыеўна любіла ўсё, што адносіцца да мастацтва. І вельмі цікавілася выяўленчым мастацтвам. Я ўпэўнены, што Марыя Дзмітрыеўна — гэта той чалавек, у якім, як кажуць, жыў у душы Бог і хваляваў паэта. І твар у яе быў заўсёды ласкавы і добры, зычлівы. Нельга гаварыць пра яе без адчування гэтай лагоднай жанчыны, гэтай мамы, гэтай сястры, урачыстай прыгажуні, нявесты, жонкі! Такіх жанчын на свеце мала. Гэта жанчына, якая выхоўвае дух паэзіі, творчасці...»

У тым жа годзе былая суседка сям'і Якуба Коласа па Вайсковым завулку Валянціна Ігнатаўна Сачок гаварыла:

«Чамусьці мне помніцца, што іх дом заўсёды поўніўся народам. Родзічы, прыезджыя, сябры... Хлопцы і дзяўчаты... Вельмі часта дабрыню Марыі Дзмітрыеўны адчувалі ўсе мы наўкол. Жыла з імі побач вялікая сям'я Пужэвічаў. І Марыя Дзмітрыеўна вельмі дапамагала ім. І мы з мамай ці раз звярталіся да яе. Надта ж клапатліва адносілася да дзяцей. То яблычак дасць, то цукерку. Відаць, таму вельмі ж мы круціліся каля іх дому».

Пяць гадоў у Коласавай сям'і жыў сын Яські Базылёвага, знакамітага «дарэктара», Мікола Міцкевіч. Пазней, будучы вядомым вучоным-хімікам, акадэмікам, ён з прыемнасцю прыгадваў той час:

«Я ні разу не чуў, каб Марыя Дзмітрыеўна каго-небудзь з сыноў, як кажуць, дапякала. Нават голасу не павышала. І да мяне ставілася надзвычай добра. Калі, бывала, мы па маладосці зробім што-небудзь і не так, яна ўмела не нагнятаць сітуацыю. Яе вобраз стаіць перад маімі вачыма як вобраз жанчыны, якой павінен захапляцца кожны».

Яшчэ аднаго Коласавага «кватаранта» варта паслухаць. Гэта — Усевалада Ігнатавіча Мазура. Восем гадоў з бацькамі з 1930 года ён жыў у доме народнага паэта. І гэтак жа, як і сын «дарэктара», бясплатна.

«Канстанцін Міхайлавіч адразу сказаў, што плаціць яму нічога не трэба. Каб не было ніякіх непаразуменняў, пераводзь грошы па дзяржаўнай стаўцы ў банк». І вось, помню, над пісьмовым сталом бацькі прышчэпка была. Ён туды, як заплаціць грошы, гэтую квітанцыю чапляў.

Марыя Дзмітрыеўна была незвычайным чалавекам. Усё яна рабіла спакойна, хоць і хутка. У яе ўсё атрымоўвалася ўмела. Галоўнае — спакойна. І гэты спакой, мусіць, яна і ўносіла ва ўсю сям'ю, і ў нашу сям'ю, паколькі мы жылі, можна сказаць, разам».

У перапісцы з рознымі асобамі народны паэт нярэдка вёў гаворку пра спадарожніцу свайго жыцця. У лісце да Ніны Іванаўны Загурскай-Падубнай (выхаванкі па Белпедтэхнікума), датаваным 8 снежня 1952 года, ён зазначае:

«Марыя Дзмітрыеўна была самым лепшым другам маім. Такія жонкі, як яна, пападаюцца не часцей як адна на 10 000 жонак».

Ваенным ліхалеццем у далёкім Ташкенце Коласава жонка, як родная маці, прывячала і галубіла беларусаў-бежанцаў.

«Як яна любіла прыносіць радасць людзям! — успаміла вядомая паэтка Беларусі Эдзі Агняцвет. — Бывала, калі я некалькі дзён не прыходзіла да Міцкевічаў, Марыя Дзмітрыеўна мне званіла і сваім ласкавым, грудным голасам запытвала: «Куды вы зніклі? Прыходзьце сёння абавязкова!»

На прыёме, які наладзіў урад Узбекістана ў гонар Якуба Коласа з нагоды яго 60-годдзя, Эдзі Сымонаўна сказала вершаванае слова:

Сардэчныя тосты паслухаць нам люба —
За песні пілі мы, за дзядзьку Якуба.
Паднімем жа чаркі і чокнемся звонка,
І вып'ем усе за паэтаву жонку!

Яна падзяляе з ім шчасце і гора,
Не чуць ад яе ані скаргаў, дакораў.
І ціха жыве, як сасонка ля дуба,
Дык вып'ем за добрую жонку Якуба!

У канцы 1943 года сям'я народнага паэта з Ташкента пераязджае ў Клязьму, што ў Падмаскоўі, дзе Якубу Коласу давялося прытуліцца ў швагра Міхаіла Каменскага і на пачатку вайны.

Захварэла Коласава жонка. Марыя Дзмітрыеўна адчувала сябе горш і горш — няўмольная хвароба не адступалася. 21 мая 1945 года яна памерла ў філіяле Крамлёўскай бальніцы на Сакольніках.

«З душэўным болем паведамляю Вам пра маё вялікае гора: сваю Марусю я так і не даставіў на родную зямлю, — праз колькі дзён пасля пісаў Колас адной сваёй знаёмай. — Марыла яна хоць адзін раз палятаць на самалёце. Ляцела яна ў труне...»

Пахавана Марыя Дзмітрыеўна ў Мінску на Вайсковых могілках.

Ляжыш ты ў зямлі, мая зорка.
Адвечнае неба ўсё тое,
І тая ж навокал гаворка,
І тое ж жыццё маладое.
Як лепшае божжа стварэнне,
Прайшла ты дарогай святою,
А следам святое гарэнне
У ногу ішло за табою.

Праз 11 гадоў на вечны спачын пайшоў і Колас. Пахаваны побач з самым дарагім чалавекам.

Немалую дарогу прайшлі мы
Па чужой і па роднай зямлі.
Адыходзілі вёсны і зімы,
І гады за гадамі плылі...

Эх, ды дзе не ляжалі пуціны!
Хіба можна іх змераць, злічыць!
Пакідалі мы дзве каляіны.
Але песня адна ў іх гучыць.

## ГУТАРКІ З СЫНАМІ ЯКУБА КОЛАСА

### «Разгорнем часаў шаты...»[1]

*Даніла Міцкевіч*

Шмат напісана і расказана пра Якуба Коласа. Але ж пра выдатных людзей хочацца ведаць як мага больш. І любы факт, любая, здавалася б, дробязь у дачыненні да іх асобы нас хвалюе і цікавіць. Асабліва калі гэтыя звесткі, як кажуць, з першых вуснаў.

Сёння наш госць старэйшы сын народнага песняра Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч, заслужаны работнік культуры БССР.

Заўтра Данілу Канстанцінавічу — 75. Павіншуем жа яго з юбілеем і ўважліва паслухаем...

[1] Газета «Літаратура і мастацтва», 29 верасня 1989 г.

*— Даніла Канстанцінавіч, з якога ўзросту вы помніце сябе, сваіх бацькоў, навакольны свет?*

— Памятаю, мяне трымае на руках мой дзядзька і хросны бацька, брат маёй мамы Алесь Дзмітрыевіч Каменскі. Адбываецца гэта недзе на беразе ракі Камы ў Пярмі. Помніцца вялікая рака, па ёй плывуць параходы... Вось і ўсё з пермскага бытавання. Дый уся Куршчына (другая палова 1917 – першая палова 1921 года) прыгадваецца эпізадычна, асобнымі ўрыўкамі. Абаянь. Вечар. Я ў паліто і ў шапцы-кубанцы на дварэ. Чую грукат гармат, кулямётныя чэргі, стрэлы з вінтовак. Мяне хутка заводзяць у хату, распранаюць, кладуць на падлогу, далей ад акна. Назаўтра дзеці збіралі круглыя кулі, казалі, ад стрэльбаў-бярданак і ад шрапнелі. Ці гэта быў бой з немцамі, ці з дзянікінцамі?.. Пасля памятаю, як бацька ўспамінаў пра тыя часы. На кароткі тэрмін Абаянь занялі дзянікінцы. Бацька быў раней звольнены з войска па цяжкай хваробе — жаўтачцы, ліхаманцы, працэсу ў лёгкіх. Таму і пайшоў у «воинское присутствие» з упэўненасцю, што па стану здароўя не будзе прызваны. Але дзянікінскі палкоўнік не падняў нават галавы ад папер і не глянуў на бацьку, сказаў адно слова: «В строй!» Дома вырашылі, каб не ішоў, а дзе-небудзь перабытаваў. Страшная, вядома, была рызыка. Пакаранне адно — смерць.

З Абаяні перабраліся ў вёску Якаўлеўку. Гэта прыкладна за 12–15 кіламетраў ад горада. Памятаю, як ішоў туды з дзядзькам Сашам. У канцы вельмі змарыўся, часта прасіўся адпачыць. Адзін раз ледзь не сеў пад кустом арэшніку на гадзюку. Дзядзька Саша адкінуў мяне і палкай забіў яе. У Якаўлеўцы мы жылі ў адным з пакояў закінутага палаца нейкага памешчыка. Толькі пазней, працуючы ўжо ў музеі, мне стала вядома яго прозвішча — Самбурскі. У некалькіх пакоях клопатамі бацькі была арганізавана школа для дзяцей Якаўлеўкі. Помніцца вялікі парк вакол палаца, дзе раслі высокія старыя дрэвы. Сярод прыяцеляў з вясковых дзяцей запомніў імёны Афонькі і Параскі.

*— А першае далучэнне да граматы?..*

— Самавукам навучыўся чытаць, калі мне не было і пяці гадоў. Пытаўся ў бацькоў, як гучыць тая ці іншая літара... Стаў многа чытаць. Была кніга Фламарыёна «Папулярная астраномія», багата і прыгожа ілюстраваная, нешта яшчэ з прыродазнаўчай серыі. Цікавая кніга для гаспадынь — Малахавец. Там апісваліся спосабы прыгатавання многіх соцень самых разнастайных страў. Я з цікавасцю чытаў гэтую кнігу. Вядома, многа не разумеў, але дапытваўся ў мамы, што такое, напрыклад,

лангет, біфштэкс, антрыкот, эскалоп, парэй, сельдэрэй... А так голадна было ў той час! Зразумеў пазней, колькі пакут прыносіў бацькам я такімі пытаннямі. Каб неяк ратаваць нас ад голаду і палепшыць харчунак самім, бацькі купілі дзве казы — белую рагатую і чорную бязрогую. Корму для іх хапала, і мы акрыялі. Гэтых коз мы прывезлі ў Мінск, і яны былі ў нас ці не да восені 1924 года. У 1918 годзе лютавала эпідэмія грыпу — «іспанка». Помню, захварэла мама. А бацькі не было дома — праводзіў інспекцыю ў іншых вёсках...

*— Даніла Канстанцінавіч, колькі слоў пра вяртанне ў родны край.*

— На Куршчыне бацькі ўвесь час марылі пра вяртанне на Беларусь. Гэта было немагчымым, пакуль ішла грамадзянская вайна. Памятаю, як абмяркоўваўся праект купіць каня і калёсы і сваім ходам паехаць у родную старонку. Але патрэбны былі вялікія грошы. І было небяспечна, бо існавала шмат розных бандаў на шляху следавання. Пра такі спосаб вяртання бацька пісаў сваякам у Мікалаеўшчыну. Пасля наступлення міру з панскай Польшчай перапіска з роднымі спынілася, і яны былі ўпэўнены, што мы дабіраліся з Куршчыны на калёсах. І нават пазней, у 1950-я гады, міжвольна ўвялі ў зман нашых даследчыкаў С. Александровіча, А. Лойку і Ю. Пшыркова. На самай справе, дзякуючы клопатам урада маладой Савецкай Беларусі быў выдзелены таварны вагон. Памятаю, як яго старанна чысцілі і мылі ад гною, пагрузілі дабро, коз і паехалі ў Мінск праз Маскву. Больш хуткаму руху вагона паспрыяў швагер Коласа Міхаіл Дзмітрыевіч Каменскі. І ўсё ж ехалі доўга. Вялікае ўражанне пакідалі сляды крушэння цягнікоў. Памятаю, стаялі ў Арле. Насупраць нас — эшалон. Яго моцна штурхнуў манеўровы паравоз. Нейкі мужчына ў дзвярах таварнага вагона грамавым голасам вылаяўся так, што яго чула ўся станцыя.

А вось сам момант прыезду ў Мінск неяк выпаў з памяці.

*— Прыехалі на беларускую зямлю. Пачаўся новы, асноўны этап у жыцці Коласа. Як склаўся далей ваш лёс?*

— Восенню 1923 года паступіў у 13-ю школу-сямігодку. Да гэтага шмат чытаў, асабліва папулярную літаратуру па прыродазнаўчых навуках. Была добрая памяць, многа ведаў для свайго ўзросту. Таму і прынялі адразу ў 3-ці клас. Быў там самы малодшы. А трапляліся і такія: 18 гадоў (Каспяровіч) і нават 30 (Шылак). Здаваў уступныя экзамены. Напісаць трэба было па-беларуску. Адну памылку зрабіў. Спыталі сталіцу Баварыі. «Мюнхен!» — з ходу адказаў. Школа месцілася каля самага піўзавода «Беларусь», па цяперашняй вуліцы Горкага.

Тады яна называлася Камунальнай. Побач яшчэ хадзіла конка. Часам гарэзлівыя вучні маглі ўкрасці ў фурмана пугу, і тады парушаўся рух транспарту. Школа была доследна-паказальнай пры педфаку БДУ. Пры навучанні ўжываліся новыя метады — «дальтон-план», або лабараторна-брыгадны метад. Часта ўрокаў не было, вучні займаліся пад наглядам настаўнікаў. Гэта мела свой станоўчы бок, вучні маглі больш самастойна разбірацца ў прадметах: нецікавае вывучалася слабей або зусім адкідалася.

— *Куды вы падаліся пасля школы?*

— У 1928–1929 гадах пасля сямігодкі вучыўся на курсах англійскай і нямецкай моў. Восенню 1929 года хацеў паступіць у прафшколу металістаў. Яна месцілася ў будынку, дзе зараз знаходзіцца Рускі тэатр імя Горкага на вуліцы Валадарскага. У прафшколу не прынялі як «элемента непралетарскага паходжання». Пазней па той жа прычыне не прымалі ў камсамол. У 1929 годзе паступіў у 8-мы клас чыгуначнай школы-дзевяцігодкі № 25 імя А. Р. Чарвякова. Знаходзілася яна там, дзе зараз будынак Галоўпаштамта. Хутка школу, на маю радасць, пераўтварылі ў хімпрафшколу, якая рыхтавала лабарантаў па хімічным аналізе. Аналітычную хімію вёў Апалінары Мікалаевіч Раждзественскі, выдатны педагог. Усе мы яго паважалі, любілі і слухаліся.

У хімпрафшколе я пасябраваў з многімі на ўсё жыццё, хаця некаторыя хутка пакінулі вучобу, перайшлі на іншыя спецыяльнасці. Гэта Віталь Філіповіч, зараз адстаўны палкоўнік-інжынер, чалавек, блізкі да Коласавай сям'і, да Купалы, Анатоль Лавыш (доўгі час працаваў прарэктарам Беларускага політэхнічнага інстытута), Уладзімір Петухоўскі, падпалкоўнік-інжынер, стаў нават нашым сваяком. З намі вучыўся і сябраваў Жорж Фалевіч, герой мінскага падполля.

— *А пасля хімпрафшколы?*

— У 1931 годзе працаваў лабарантам у Мінскім хіміка-тэхналагічным тэхнікуме. Да студзеня 1932 года. 15 красавіка паступіў на хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Гэта быў апошні прыём без экзаменаў. З восені гэтага года і назаўсёды былі ўведзены прыёмныя экзамены, залічэнне студэнтаў стала праводзіцца да 1 верасня. Закончыўся лабараторна-брыгадны метад навучання, калі экзаменавалі толькі брыгадзіра і пры поспеху ставілі выдатныя адзнакі ўсім. Брыгады, праўда, былі невялікія — 4–5 чалавек.

— *А на якой мове тады вялося выкладанне?*

— У асноўным па-беларуску. Гэта ў першыя два гады. Нават такія прадметы, як агульная і неарганічная хімія (прафесар Э. В. Змачынскі), арганічная хімія (прафесар М. А. Прыляжаеў),

матэматыка (Г. Дамброўскі) і інш. Прафесар Мікалай Аляксандравіч Прыляжаеў, сусветна вядомы вучоны, рускі чалавек па нацыянальнасці (у БДУ працаваў з 1924 года), здолеў асвоіць беларускую мову і чытаць на ёй такую складаную навуку, як арганічная хімія. Пазней з Масквы прыехалі новыя прафесары — Казлоў і Нікіфараў. Яны чыталі арганічную і фізічную хімію на рускай мове. Паступова і ўсе прадметы сталі выкладацца па-руску.

— *Раскажыце, калі ласка, пра даваенную сядзібу Якуба Коласа.*

— У 1926 годзе вырашылі пабудаваць сабе хату (дасюль жылі на прыватнай кватэры). Знайшлі пляц, які размяшчаўся па Вайсковым завулку паміж вуліцай Фрунзе і тагачаснай агароджай парку «Прафінтэрн», пазней названы імем Горкага, на правым баку Вайсковага завулка, калі ісці ў напрамку парку. Побач не было камяніц, стаялі драўляныя хаты з невялікімі ўчасткамі, усюды былі сады, гароды, кветнікі. Зацішнае, утульнае месца ў горадзе, чыстае паветра. Зусім блізка ад цэнтра, ад устаноў, дзе працаваў Колас — ад Белпедтэхнікума, Белдзяржуніверсітэта і Акадэміі навук БССР, якая тады знаходзілася ў будынку на рагу цяперашніх вуліц Леніна і Кірава. Блізка было і ад Саюза пісьменнікаў, ад дома яго лепшага сябра — Янкі Купалы.

Вясною 1927 года прывезлі лес на трох чыгуначных платформах. Сасновыя кругляки, нарыхтаваныя ў раёне Негарэлага, былі згружаны на пляцоўцы пры рагу цяперашніх вуліц Першамайскай і Захарава. Адтуль іх завезлі возчыкі калёсамі на ўчастак. Памятаю, што была думка наняць славутых смаленскіх цесляроў, якія вельмі хутка рабілі зрубы. Аднак будавалі беларускія майстры. Вельмі многа турбот хапіла ўсім, асабліва швагру Коласа, брату яго жонкі Алесю Дзмітрыевічу Каменскаму, і яго маці — цешчы Коласа Марыі Цімафееўне Каменскай. Яна не доўга пажыла ў новай хаце — у пачатку 1928 года памерла.

— *Закончылі будаўніцтва. «Цяпер разгорнем часаў шаты, бліжэй прыгледзімся да хаты...» Даніла Канстанцінавіч, «як там вялося, як жылося»?*

— Бацька, маці і Міхась жылі на першым паверсе, дзядзька Саша, Юрка і я — на другім. Юрка ў зімовыя часы — у пакоі дзядзькі Сашы, а з ранняй вясны да позняй восені — на верандзе 2-га паверха.

У нас жылі многія людзі — родныя, сябры, знаёмыя. У хуткім часе пасля збудавання два пакоі і балкон 1-га паверха заняў стрыечны дзядзька Коласа, яго зямляк і сябар Ігнат Юр'евіч

Міцкевіч. Ён сам — педагог, жонка Валянціна Міхайлаўна — доктар. Дзяцей у іх не было. Мелі асобную кватэру з асобным уваходам. Жылі ў нас з 1928 па 1930 год. Пасля іх у гэтыя пакоі пасялілася сям'я Ігната Мікалаевіча Мазура, настаўніка. Яны жылі да 1937 года.

У час пражывання кватарантаў кабінет Коласа быў у вялікім пакоі на другім паверсе. Ніхто з кватарантаў не плаціў, жылі проста так. Калі Мазур неяк сказаў, што яму няёмка, бацька параіў: «Унось гэтыя грошы ў фонд дапамогі дзецям!»

Хатняй гаспадыняй у нас была Агрыпіна Казёл, дзяўчына з вёскі Шаршуны, непадалёку ад Радашковіч. Аднаго разу Колас пайшоў на рынак купіць дроў. У нейкай дзяўчыны ўкралі грошы, і яна горка плакала. Колас расчуліўся, аддаў усю суму, што меў з сабою, і падаўся дадому. Бедалага апамяталася і, дагнаўшы выратавальніка, горача дзякавала яму. Неўзабаве прывезла з сваім бацькам на сядзібу нам воз дроў. Так завязалася знаёмства.

*— Вядома ж, часта наведваліся да вас і госці? Каго найбольш запамяталі вы з тых наведнікаў?*

— Самым дарагім госцем быў Янка Купала. Бывалі Цішка Гартны, Змітрок Бядуля, Максім Гарэцкі, Міхась Чарот, Янка Маўр, Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Міхась Зарэцкі, Сымон Баранавых, пазней — Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, іншыя беларускія пісьменнікі. Гасцявалі ў нас рускія, украінцы. З 1933 года Колас пасябраваў з Сяргеем Гарадзецкім, калі той прыехаў у Мінск у сувязі з працай над перакладам твораў народнага паэта Беларусі. Пачалася шматгадовая творчая дружба. Блізка сышоўся Колас і з Аляксеем Сілычам Новікавым-Прыбоем, выдатным пісьменнікам і цікавым чалавекам.

Улетку 1935 года ў Коласавым доме былі вядомыя грузінскія пісьменнікі — Бучыдзе, Лордкіпанідзе, Гветадзе, Кутатэлі, Масашвілі. З імі знаходзіўся армянскі паэт Наіры Зар'ян.

*— А іншыя творчыя работнікі? Вядомыя людзі?..*

— Беларускія акцёры Малчанаў, Ільінскі, Сяргейчык, рэжысёр Віктар Дарвішаў. Асабліва ў 1936–1938 гадах, калі ішла праца над спектаклямі «Вайна вайне» і «У пушчах Палесся». Гасцямі былі скульптар Заір Азгур, беларускія вучоныя — акадэмікі Гораў, Шчарбакоў, Домбаль. Заходзілі да Коласа Аляксандр Рыгоравіч Чарвякоў, Аляксандр Антонавіч Сянкевіч. У доме панавала атмасфера ўзаемнай пашаны і павагі, гасціннасці і добразычлівасці.

*— За час Коласавага бытавання на сядзібе, пра якую ідзе гаворка, у жыцці народнага паэта адбылося нямала падзей,*

*больш і менш значных, напісана багата твораў. Хацелася б пра галоўнае даведацца, Даніла Канстанцінавіч.*

— Гэта вы можаце зрабіць і без мяне. Але ж адкажу. Тут Колас з сям'ёй пражыў трынаццаць з палавінай гадоў. Важнейшыя падзеі? Якуб Колас выбіраецца акадэмікам і віцэ-прэзідэнтам АН БССР. Урачыста адзначаны яго 50-годдзе і 30-годдзе з пачатку творчай дзейнасці, выбіраецца членам ЦВК, дэпутатам гарсавета, аблвыканкама і Вярхоўнага Савета БССР, адбываюцца сустрэчы з Максімам Горкім, паездкі ў Маскву, Ленінград, Кіеў, Харкаў, Парыж, выбіраецца дэлегатам VII і VIII Надзвычайных з'ездаў Саветаў, прымае ўдзел у I З'ездзе пісьменнікаў СССР, узнагароджваецца ордэнам Леніна. У гэтыя часы адзначаліся юбілеі Пушкіна, Някрасава, Шаўчэнкі, да правядзення якіх актыўна дачыняўся і Якуб Колас.

І творчы плён быў немалы. Тут народным паэтам напісаны аповесці «Адшчапенец», «Дрыгва», паэма «Міхасёвы прыгоды», большасць раздзелаў паэмы «На шляхах волі», першыя раздзелы «Рыбаковай хаты», п'есы «Вайна вайне», «У пушчах Палесся», многа вершаў і публіцыстычных артыкулаў, апошні твор таго перыяду і першы твор ваеннага часу «Шалёнага пса — на ланцуг!», апублікаваны ў «Правде» 24 чэрвеня 1941 года, без перакладу, па-беларуску.

*— Самым дарагім госцем Коласавага дому, як вы сказалі, быў Янка Купала. Ці не маглі б вы, Даніла Канстанцінавіч, падрабязней спыніцца на дружбе двух вялікіх песняроў? Якім вы памятаеце Купалу?*

— Маё першае знаёмства з Янкам Купалам прыпадае на пачатак 1920-х гадоў, калі мы жылі ў двары Русецкага. Купала быў частым і жаданым госцем у Коласа, а Колас у яго. Адлегласць паміж іхнім жытлом была невялікая, і яны хадзілі пехатой. Як водзіцца ў добрых сяброў, нярэдка кпілі адзін з аднаго. Вядома, бяскрыўдна. Абодва былі вынаходлівыя на жарты.

Вельмі цёпла, з павагай і сардэчнасцю адносіўся Іван Дамінікавіч да маёй маці. У канцы 1937 года ёй давялося па стану здароўя быць у санаторыі ў Кіславодску. Там якраз лячыўся і Янка Купала. Мама вельмі была расчулена яго ўвагай і клопатам. І дзядзька Янка, і цёця Уладзя любілі мяне і маіх братоў Юрку і Міхася. Памятаю, як пасля прыезду з Чэхаславакіі восенню 1935 года ён прывёз мне прыстаўку для патэфона — гуказдымальнік «Парлафон». Я такую доўга шукаў. Вядома, Купалу не гаварыў і не прасіў. Не абмінуў падарункамі Юрку і Міхася. А цёця Уладзя заўсёды частавала нас чым-небудзь смачным.

У 1925 годзе ўрачыста адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы. Юбіляр наладзіў у сваім гасцінным доме банкет. Мая маці вырашыла паднесці яму падарунак — зрабіць торт «Баўмкухен». Гэта — вяршыня кандытарскага майстэрства, яна рэдка якой гаспадыні даступна. Трэба зрабіць драўляны конус, наматаць шпагат, прыкрыць яго навошчанай паперай і порцыямі наносіць на паверхню конуса спецыяльнае цеста. Праводзіць аперацыю неабходна ў рускай печы. Праз некаторы час торт вымаецца, шпагат выцягваецца, торт упрыгожваецца. На маёй памяці мама гэта рабіла толькі адзін раз — на тым юбілеі. Матчын выраб вельмі спадабаўся і юбіляру, і гасцям.

*— А ці былі якія трывожныя моманты ў жыцці песняроў, калі была асабліва патрэбна дапамога сябра?*

— Помніцца страшэнная паводка ў дваццатых днях красавіка 1931 года. Выйшла з берагоў Свіслач (тады не было вадасховішчаў), затапіла вялікую частку горада, у тым ліку і дом Купалы. Вада стаяла ў хаце вышэй як на метр. Іван Дамінікавіч і Уладзіслава Францаўна знайшлі прытулак у нас. Ім адвялі вялікі пакой, і жылі яны з намі недзе каля месяца, пакуль не мінулася бяда.

Калі Купала ў пачатку 1938 года цяжка захварэў на запаленне лёгкіх, бацька кожны дзень наведваў сябра на працягу больш чым трох тыдняў.

У 1930 і 1931 гадах вялося шалёнае цкаванне абодвух народных паэтаў як прадажнымі пісакамі ў газетах, так і авантурыстамі і нягоднікамі з органаў дзяржбяспекі. Сваім сяброўствам у гады гэтага ліхалецця Колас і Купала літаральна падтрымлівалі адзін аднаго. У 1930 годзе Янка Купала ледзь не пакончыў з сабою. Гэты факт даўно вядомы. Пачаліся арышты. Якуб Колас быў вельмі ўзрушаны, калі забралі Язэпа Лёсіка. Бо, апроч усяго, ён радня бацьку — матчын брат. У знак пратэсту хацеў адмовіцца ад пенсіі (прызначана да 20-годдзя літаратурнай дзейнасці). У ноч з 5 на 6 лютага 1938 года быў арыштаваны дзядзька Саша, які ўвесь час жыў з намі. Рыхтавалася справа і на Коласа. Пасля вайны (у студзені 1969 года) мне расказваў П. К. Панамарэнка. Ён павінен быў даць санкцыю на арышты, пкусаўцы прад'явілі яму матэрыялы на трох пісьменнікаў: на Купалу —34 пункты, на Коласа — 20, на Крапіву — 14. Запатрабаваў Панамарэнка матэрыялы сабе, стаў правяраць. Адзін з пунктаў такі. У 1926 годзе ў Мінску праходзіў з'езд славістаў. Удзел у ім прымалі і прадстаўнікі заходніх буржуазных славянскіх краін. Ва ўгоду ім Купала і Колас нібыта прапанавалі зняць

партрэт Сталіна. Аказалася: у знак пратэсту пасля зняцця партрэта яны самі пакінулі залу. І гэтак па ўсіх пунктах прайшоўся П. К. Панамарэнка. І ўсе яны аказаліся такімі ж паклёпніцкімі. Паехаў да Сталіна на прыём. «Надо было бы принять народных поэтов Белоруссии», — звярнуўся да самадзержца. «К сожалению, у меня нет времени. А наградить надо!» — адказаў «вождь народов». Памяняць ордэры на ордэны — на маю думку, выдумка для каламбура. Так расказваў мне Панцеляймон Кандратавіч, тое ж самае і майму бацьку, але раней.

*— Якуб Колас, зразумела, сам жыў у тыя гады на птушыных правах. І ўсё ж ці далучаўся ён да лёсу нявінна пакараных, ці ўмешваўся сваім аўтарытэтам у калатнечу тых гадоў, каб адстаяць чалавечую годнасць і фізічнае існаванне хоць бы сваіх калег-літаратараў, тым больш, што ў асобе П. К. Панамарэнкі ў яго была надзейная апора і заступніцтва?*[1]

— Бацька расказваў, што яшчэ да вайны пытаўся ў яго сам Панамарэнка: «Что бы вы сказали о Черном?» А пісьменнік тады сядзеў у турме. Вядома ж, Колас, як і належыць, пахваліў свайго малодшага калегу — верны, сумленны чалавек, выдатны пісьменнік. Той выслухаў, набраў тэлефон: «Лаврентий Фомич! Мнения сходятся. Освободить!» Лаўрэнцій Фаміч — гэта Цанава, з чыімі думкамі супалі Коласавы...

Усяляк памагаў Якуб Колас сям'і Язэпа Лёсіка, сем'ям рэпрэсаваных вучоных Смоліча і Гарэцкіх. Гаўрылу Іванавіча ён вельмі высока цаніў. «Вось хто быў бы прэзідэнтам АН БССР — Гаўрыла Гарэцкі!» — неаднойчы казаў мне бацька.

Разгорнем 13-ты том Збору твораў Якуба Коласа і пачытаем ягоны ліст да Юркі Гаўрука, датаваны 2 верасня 1947 года:

«Тон Вашага пісьма мяне вельмі засмуціў: я адчуў, як Вам цяжка. Ды што зрабіць? Як дапамагчы? Бываюць такія акалічнасці, што, пры ўсім жаданні дапамагчы, такой дапамогі аказаць нельга. Але Вы верце, што сягонняшні дзень не падобен на заўтрашні. Вазьміце тры гады часу і параўнайце яго з тым, што было і што становіцца сягоння... Не трацьце веры, верце ў свае сілы, у свае надзеі. Працуйце, адкінуўшы ўсё і маючы веру толькі ў праўду і сілу нашай ідэалогіі, бо мы ідзём у імя прагрэсу, у імя чалавечай справядлівасці».

Працавала ў Акадэміі навук БССР Галіна Змітраўна Жылуновіч, дачка Цішкі Гартнага. Прычапіліся — звольніць, як дачку

[1] Цяпер высветлілася, што П. К. Панамарэнка далёка не быў такой «надзейнай апорай» для беларускіх пісьменнікаў.

«ворага народа». І гэта ўжо ў 1947–1949 гадах. Якуб Колас, віцэ-прэзідэнт, рэзка запярэчыў. І адстаяў!

*— Сталінская эпоха. Ганебна адбілася яна і на творах пісьменнікаў той пары. У гэтай сувязі хацелася б, Даніла Канстанцінавіч, пачуць ад вас пра гісторыю стварэння «шэдэўра» паэзіі — «Пісьма беларускага народа вялікаму Сталіну». Можа, вядома вам?*

— Чаму ж не! Рабілася гэта па ініцыятыве кіраўніка Кампартыі Беларусі М. Ф. Гікалы. Працавалі паэты на ўрадавай дачы ў Сляпянцы — Купала, Колас, Броўка, Глебка, Александровіч, Харык. Іх вазілі туды кожны дзень. Смачна кармілі. Пісалі, зразумела, па частках, пасля зводзілі ў адно. Такую ж «оду» пазней прысвяцілі і Варашылаву.

*— Зразумела... Цяпер такое пытанне. Колас і Купала... Што, Даніла Канстанцінавіч, розніла іх як людзей? Якія былі характары ў аднаго і другога — калі параўноўваць?*

— Купала любіў і ўмеў з густам, модна і шыкоўна апранацца, увесь час выглядаў зухаватым і элегантным. Любіў модныя рэчы, меў добры густ. Дасканала ведаў далікатэсныя стравы. Мяне, напрыклад, здзіўляла яго майстэрства есці рыбныя галовы. Аказваецца, гэта трэба ўмець — разбіраць вараную рыбную галаву ў строгай паслядоўнасці.

А бацька ў гэтых адносінах быў вельмі просты і сціплы. Апранаўся акуратна, але крыху старамодна, як сельскі настаўнік. Яго не цікавілі моднае адзенне, гальштукі. Ён ніколі не меў і не насіў наручных гадзіннікаў, карыстаўся толькі кішэннымі. Не прызнаваў аўтаручак, пісаў пяром № 86 з чарніліцы, галіўся звычайнымі брытвамі, не хацеў і не ўмеў карыстацца бяспечным лязом. Любіў простыя стравы. Вось толькі чай любіў піць з танкасценнай шклянкі з падшклянкай і, калі траплялася, з лімонам.

*— Абодва — прызнаныя аўтарытэты, слынныя песняры. Як яны перажылі сваю славу?*

— Якуб Колас спакойна і нават абыякава адносіўся да славы, ухваленняў і іншых праяў пашаны, вельмі неахвотна фатаграфаваўся, імкнуўся пазбягаць фота- і кінааб'ектываў, прэстыжных сустрэч. А Купала, здаецца, любіў такія моманты ў дачыненні да сябе.

У 1925 годзе, калі ўрачыста адзначалася 20-годдзе літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы, «Маладняк» паднёс юбіляру адрас, дзе, зразумела, былі выказаны самыя цёплыя словы. Але ў адрасе быў выпад супраць Коласа. Юбіляр прыняў віншаванне. Бацька

пакрыўдзіўся. Каму-небудзь, можа, і не скардзіўся, мне ж колькі разоў казаў, што ён, Колас, у аналагічным выпадку не прыняў бы такога адрасу, калі б у ім зняважылі Купалу.

Пазней адзін з аўтараў таго віншавання Уладзімір Дубоўка ў пісьме да бацькі вельмі раскайваўся і прасіў прабачэння.

Калі быў вялікі перапынак у сустрэчах паміж сябрамі (адпачынкі, доўгатэрміновыя ад'езды), то Купала чакаў, пакуль Колас першы наведае яго або пазвоніць. Бацька і маці дабрадушна і паблажліва ставіліся да чалавечай слабасці і не станавіліся, як кажуць, у позу.

*— Даніла Канстанцінавіч, а ці ўводзіў вас, сямейнікаў, Колас у свае творчыя турботы? Можа, дзяліўся задумамі, выпрабоўваў на вас толькі што напісаны твор?..*

— Першым дарадцам і крытыкам у яго была наша маці. З яе густам бацька вельмі лічыўся. Гэта відаць, напрыклад, з пісьма Якуба Коласа жонцы, пасланым з Кіславодска 8 ліпеня 1924 года: «Учора я, Маруська, закончыў «Сымона-музыку», і, здаецца, закончыў някепска. Вось прыеду дадому і параюся з табою». Але ж прыехаць аўтару давялося без паэмы. Твор (гэта другая рэдакцыя) быў украдзены. Па дарозе з Кіславодска, на станцыі Ціхарэцкая. Зладзюгі з даху вагона вяроўкай з крукам выцягнулі чамадан. А ў ім ляжала паэма. Трагедыя для аўтара, для ўсёй сям'і. Аднаўляць дапамагала дзейсна Марыя Дзмітрыеўна. Яна ведала асобныя радкі, строфы.

*— А якія са сваіх твораў Колас найбольш любіў?*

— Ён пра гэта не казаў. Дый ніхто ў яго не пытаўся. Напэўна, усё-ткі «Новая зямля» і «Сымон-музыка». Сяму-таму прагаворваўся, што ў яго тры сыны, нібы тры паэмы — «Новая зямля», «Сымон-музыка» і «На шляхах волі».

*— Вы ўспомнілі сваіх братоў. Міхась, як вядома, доктар тэхнічных навук, працуе ў АН БССР. Хочацца больш пачуць пра сярэдняга сына народнага паэта — Юрку, вашага брата, што загінуў на фронце.*

— Ён маладзейшы за мяне больш як на два з паловай гады. Нарадзіўся 1 мая 1917 года. Быў адмысловым стралком. Не цярпеў хлусні, фальшу, мог проста і недыпламатычна выказваць свае думкі. Быў верным і надзейным таварышам і сярод суседскіх хлопцаў, і ў школе, і сярод студэнтаў (ён скончыў геаграфічны факультэт БДУ ў 1940 годзе), і пазней, у арміі. Яго ўсе любілі і паважалі.

Пасля заканчэння універсітэта быў прызваны ў армію. Службу праходзіў у конным артылерыйскім палку ў невялікім

мястэчку Ставіскі (за Ломжай, на Беласточчыне), на самай мяжы з акупіраванай Польшчай.

Апошні ліст ад яго мы атрымалі 20 верасня 1941 года. Юрка пісаў, што наведаў музей у Ярцаве. На ўскраіне горада і стаяў іх артполк. Як вядома, 30 верасня пачалося наступленне фашысцкіх войск на Маскву. Многа нашых акружаных дывізій загінула ў гераічнай барацьбе пад Вязьмай. З таго часу мы не атрымлівалі вестак ад Юркі. Пісьмы ад яго вярталіся з прыпіскай: адрасат выбыў з часці...

Усе мы, асабліва мама і бацька, вельмі перажывалі за Юрку. Але гаварыць пра яго гібель не хацелася. Ліпела вельмі слабая надзея, што ён трапіў да партызан. Але пасля Перамогі і гэта надзея цалкам згасла.

*— Ну, што ж, Даніла Канстанцінавіч, пачалі мы з вашага ўступлення ў жыццё, канчаем расказам пра лёс Юркі... Гаварылі пра Коласа-працаўніка, Коласа-змагара. А як ён, скажыце, адпачываў, праводзіў свой вольны час?*

— Бацька не любіў выязджаць надоўга з Беларусі. Да Вялікай Айчыннай вайны ён усяго тры разы быў на курортах — у 1924, 1926 і 1941 гадах, ды і то пасля настойлівых патрабаванняў дактароў. У даваенныя гады свой адпачынак праводзіў у беларускіх вёсках пад Мінскам каля Ждановіч, а з 1933 года ў вёсках Пухавіцкага раёна — Тальцы, Загібельцы, Падбярэжжы, Вусці, Беразянцы, Балачанцы. Сваёй дачы бацька не меў — здымаў пакойчык у сялянскай хаце. Абавязковай умовай пры выбары месца адпачынку з'яўлялася наяўнасць сасновага грыбнога лесу і рэчкі.

*— Дзякуй, Даніла Канстанцінавіч... Прыпамінайце, успамінайце і шмат «спажыўцоў» сваёй памяці майце!*

*Гутарыў Іван Курбека*

## Міхась Міцкевіч: «Праблем са мной бацькі не мелі»[1]

Я двойчы бачыў жывога Якуба Коласа. Пазней мне пашчасціла працаваць у музеі песняра пад начальствам сына народнага паэта Данілы Канстанцінавіча. У Коласавым доме руплюся і цяпер. Сустракаюся з унукамі дзядзькі Якуба, з другім яго сынам, Міхасём.

[1] Газета «Рэспубліка», 1 лютага 1996 г.

Пагаварыць з малодшым сынам Коласа неяк не ўдавалася. А тут ягоны юбілей — 70 гадоў з дня нараджэння... Пасля заканчэння БПІ ў 1949 годзе ён нязменна і нястомна працуе ў Фізіка-тэхнічным інстытуце АН Беларусі. Доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Вучоны сакратар савета па абароне дысертацый пры інстытуце, член экспертнага савета пры БелВАКу.

*— Міхась Канстанцінавіч, з якога часу вы памятаеце сябе, сваіх бацькоў?*

— Дзесьці з гадоў чатырох-пяці. Рос, як і ўсе хлопчыкі ў той час, без асаблівай увагі з боку старэйшых. Яна-то была, але ж вельмі нябачнай, далікатнай, надта не прыходзілася адчуваць прэс, націск. Я быў самы меншы ў сям'і і мне дасталася больш пяшчоты бацькоўскай. Вялікіх праблем са мной бацькі не мелі. Вучыўся першыя гады я добра. Перад гэтым пакарыстаўся досыць багатай бацькавай бібліятэкай. Першай кніжкай былі беларускія казкі. Трошкі пазней я пазнаёміўся і з Пушкіным, і з Лермантавым, Чэхавым. Гогаля ўсяго ў 10–12 гадоў прачытаў.

*— Што вы скажаце пра паэму «Міхасёвы прыгоды»? Як яна пісалася і каму прысвечана?*

— Яна была прысвечана мне і напісана на фактычным матэрыяле. Пасля цяжкай хваробы маёй паехалі адпачываць у Тальку, што пад Асіповічамі. Там бацька пачаў вудзіць рыбу. Дасюль гэтага занятку не прызнаваў.

Разам з бацькам авалодваць рыбалоўным майстэрствам стаў і я. Большасць імёнаў у паэме дакладныя, нявыдуманыя.

*— Якімі былі першыя вашы жыццёвыя універсітэты?*

— Я паступіў у 14-ю сярэднюю школу, што была на Вайсковым завулку, праз два ці тры дамы ад нас. Скончыў восем класаў. А тут прыйшла вайна. У Ташкенце вучыўся ў 47-й школе. Скончыў яе з пахвальным лістом. У Ташкенце паступіў у Варонежскі авіяцыйны інстытут на маторабудаўнічы факультэт. Так і меркавалі, што пазней можна будзе перавесціся ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут. Сям'я наша ўжо збіралася пераязджаць, бацька атрымаў выклік. Я пераевёўся ў Маскву. Там закончыў тры курсы. Напаткаў сваю будучую жонку. Пажаніліся. Пераехаўшы ў Мінск, перавяліся ў політэхнічны інстытут.

*— Колькі ў вас, Міхась Канстанцінавіч, дзетак? І хто яны?*

— Трое. Старэйшы, Сяргей, па адукацыі інжынер, скончыў політэхнічны інстытут. Дачка, Марыя, — матэматычны факуль-

тэт нашага універсітэта. Між іншым, з чырвоным дыпломам. І сярэднюю школу — з сярэбраным медалём. Ну і Кастусь — скончыў філфак БДУ, таксама з чырвоным дыпломам.

*— Усе вы, Коласавы сыны, розныя па спецыяльнасці. А ці не цягнула вас у маладыя гады, хоць аднаго, да літаратурнай творчасці?*

— Бачыце, калі сказаць па праўдзе, то мы ўсе пісалі вершы. А са мной здарыўся такі выпадак. Меў я 6 ці 7 гадоў. Напісаў верш «Васілёк». Памятаю пару радкоў:

Васілёк, васілёк,
Ты расцеш у жыце,
Сонца цябе грэе,
Ветрык абдымае...

Маці запісала і, відаць, пахвалілася нашым. А назаўтра з'явілася такая пародыя:

Васілёк, васілёк,
Ты расцеш у жыце,
Як баран у хляве,
Як лапух у крапіве...

Гэта мне на ўсё жыццё адбіла жаданне пісаць вершы.

*— А хто аўтар пародыі?*

— Я нават і не ведаю. Ці Юрка, ці Данік. Юрка быў на слова майстар незвычайны. Мог расказваць некалькі гадзін пра нас, 10–11-гадовых хлопцаў, розныя здарэнні. Летам мы начавалі пад саламянаю страхою. І Юрка апавядаў пра нашы прыгоды. Браў гэта з якіх-небудзь прыгодніцкіх раманаў і надзяляў якасцямі тых герояў... Мы слухалі, разявіўшы раты.

Ну, а Данік пісаў жартоўныя вершыкі. Мог перайначыць і песню на вядомы ўжо матыў. А я пасля той пародыі змоўк. Пазней, калі з бацькам ездзіў на Вусцянскі грудок (на Пухаўшчыне), напісаў вершык. Ну, безумоўна, усё гэта было «пад Коласа». Неяк прачытаў верш пад час вучобы ў маскоўскім інстытуце крытыку Уладзіміру Агіевічу. А мы з ім жылі ў адным барачным пакойчыку. «Ну, гэта недзе з Коласа», — прызнаў ён. «Я напісаў!» — горда, смеючыся, заяўляю. «А ты ведаеш, які самы няўдалы ў Коласа твор?» — пытаецца Агіевіч. Маўчу, хочацца ведаць. «Гэта ты!» — сказаў Валодзя. І тады смяяўся ўжо ён.

*— Ці знаёміў вас бацька з толькі што напісанымі творамі?*

— Ну, я вам скажу, што першым чытачом і рэдактарам была маці. Уважліва чытала, слухала. Валодала добрым мастацкім густам, літаратуру ведала. У хаце абмяркоўваліся розныя творы, што з'яўляліся ў друку. Прыходзілі да бацькі паэты і за шклянкай гарбаты чыталі свае вершы. Такая завядзёнка была. Дый сам Колас вельмі скрупулёзна працаваў над творамі. І правіў, правіў, правіў... Захаваліся ж рукапісы. Там усё відаць.

*— А скажыце, якім быў Колас у абыходжанні з людзьмі?*

— Дома быў ён вельмі ціхі, негаваркі. Да людзей ставіўся выключна даверліва. Балюча перажываў чалавечыя нягоды, крыўды, стараўся дапамагчы, калі гэта было ў яго сілах. Памятаю, паехаў я са сваім сябрам да знаёмага дзеда на паляванне. Дамовіліся, што бацька прыедзе і забярэ нас. Пакуль мы блудзілі, тыя добра пасядзелі. Дзед расказаў пра сваю бяду: не стала каровы. «Не бядуй, я табе прышлю грошай», — заспакоіў суразмоўцу бацька. Праз тыдзень прыехаў і прывёз 3 тысячы рублёў.

У доме панаваў закон: абсалютная праўда. Як схлусіць, мы не ведалі. Ад бацькі ні разу я не пачуў пры дзецях брыдкага слова. Ні разу!

А ў доме, можна сказаць, быў дамастрой. А палове 11-й — усе на месцы! Каб брамку зачынялі.

Уставаў бацька ў 5–6 раніцы. Дроў прынясе зімою, дарожкі расчысціць. І садзіўся за рабочы стол. Пісаў да снедання. Тады ішоў на службу. Прыходзіў, спаў. І зноў пісаў. Ноччу мучыла бяссонніца. Праца ішла ўначы. Ён гэта кампенсаваў дзённым сном. Маці стварала ўсе ўмовы для работы.

*— Чорныя 1930-я гады... Як Колас перажыў, перанёс тое ліхалецце?*

— Пачатак 1930-х я не памятаю: быў малы. Даносіліся чуткі, што Купала цяжка хворы — хацеў пакончыць самагубствам. Пераносілі пакутна той час і бацька, і маці, тым больш, што арыштавалі матчынага брата, дзядзьку Сашу, чалавека з надзвычай мяккім характарам, працавітага, жартаўлівага. Адзіны брат, які здолеў атрымаць вышэйшую адукацыю (скончыў Казанскі універсітэт). Выкладаў у тэхнікуме. Часта да яго прыходзілі студэнты. Тут і абедалі з намі... Шмат пазней стала вядома (з публікацыі ў часопісе «Нёман»), што Каменскі Аляксандр Дзмітрыевіч арыштаваны быў для таго, каб выбіць з яго паказанні супраць Коласа.

*— Скажыце, з кім найбольш сябраваў Якуб Колас?*

— Ну, вядома ж, з Янкам Купалам. Яшчэ з 1912 года, калі пазнаёміліся. Хадзілі адзін да аднаго. Іншы раз бацька браў мяне

да Купалы. Там яны ў шахматы гулялі. Купала часта заходзіў да нас. Ён вельмі любіў Юрку. Як роднага сына. Дзяцей жа ў яго не было. Заўсёды мне прыносіў кулёк цукерак або альбом са звярамі, птушкамі, дзіцячыя кніжкі з каляровымі малюнкамі. Прывозіў з курортаў прыгожыя каменьчыкі.

*— А ці многа ў вас сяброў?*

— Ведаеце, мае школьныя сябры загінулі ў вайну. Я ж заканчваў школу ў Ташкенце. Ёсць у мяне інстытуцкая група. З некаторымі, праўда, у поглядах разышліся. Са школы — Лёня Панкавец. Ён заставаўся ў час акупацыі ў Мінску. Працаваў, пасля пайшоў у партызаны. Бацька яго вучыў маю жонку, выкладаў матэматыку. Лёня, на шчасце, уцалеў. Жыве ў Мінску. Мы з ім калісьці з рагатак стралялі птушак. Пазней я стаў майстрам спорту па стральбе.

*— Стральбу, значыць, можна лічыць вашым хобі?*

— Некалі было. Гэты занятак мне стаў жаданы праз Юрку. Я вельмі любіў брата. А ён пачаў выступаць у спаборніцтвах па стральбе. «Ты ж захавай мае стрэльбы! Як вярнуся, будзем страляць качак, цецерукоў», — казаў брат, адыходзячы на фронт. З вайны ён не вярнуўся. Я пайшоў на пляцоўку, на стэнд з Юркавай стрэльбай. Гадоў 12 выступаў, і паспяхова. Братавы стрэльбы і зараз у мяне. Маім хобі была і фатаграфія.

— Дом, дзе цяпер музей, быў пабудаваны і падораны ўрадам Беларусі Якубу Коласу да яго 70-годдзя. З бацькам у ім жылі і вы з Данілам. Скажыце, вас высялялі ці вы самі далі згоду перадаць дом пад музей?

— Не тое, што далі згоду, самі прапанавалі. Мы разумелі — музей павінен быць!

*— Дзякуй, Міхась Канстанцінавіч, за цікавую гутарку і, як сказаў на сваім 85-годдзі ў Доме літаратара Кандрат Крапіва, да наступнага юбілею!*

*Гутарыў Іван Курбека*

# КОЛАСАЎ ЮРКА

Трывожнай старонкай у біяграфію народнага песняра ўвайшоў лёс яго сярэдняга сына. Нарадзіўся Юрка 1 мая 1917 года ў горадзе Пярмі. Там яго бацька праходзіў армейскую службу. Неўзабаве Марыя Дзмітрыеўна (жонка Якуба Коласа) з дзецьмі (быў ужо і старэйшы, амаль трохгадовы Данілка) пераязджае ў горад Абаянь Курскай губерні, дзе жылі яе маці і брат. Неўзабаве Колас быў звольнены з войска па хваробе і вярнуўся да сям'і. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ён працуе ў тых мясцінах, на Куршчыне.

15 мая 1921 года Коласава сям'я пераязджае ў Мінск.

Юрка рос дапытлівым, цікаўным хлопчыкам. Настала пара — пайшоў у школу. Асаблівымі схільнасцямі да якога-небудзь прадмета не вызначаўся. Адной страсцю гарэў — любіў паляванне. Здаецца б, з лесу не выходзіў. Паляўнічы ж, як вядома, павінен і вока меткае, і руку цвёрдую мець. Дый вытрымка жалезная патрэбна. Гэтымі якасцямі ён валодаў выдатна. Ужо ў школьныя гады слыў сярод сяброў Юркам-снайперам.

Далей вучыўся ў Белдзяржуніверсітэце на геафаку. І тут стралецкае майстэрства павышаў. У 1940 годзе пасля заканчэння БДУ быў прызваны ў Чырвоную Армію для адбывання гадавой службы. Праходзіў яе ў Заходняй асобай ваеннай акрузе.

17 чэрвеня 1941 года ў Мінску пачаліся рэспубліканскія спаборніцтвы па стэндавай стральбе. У склад каманды ад сваёй акругі ўваходзіў і яфрэйтар Ю. К. Міцкевіч. Жыў ён у бацькоў.

Пачалася вайна. 24 чэрвеня салдат ідзе ў ваенкамат. Фашысты не сунімаюцца бамбіць сталіцу Беларусі. Ледзь уцалелымі Колас і астатнія сем'яніны пакідаюць разбіты двор (цяпер — гэта тэрыторыя парку імя Горкага, прыблізна тое месца, дзе зараз стаіць помнік — бюст Цыялкоўскага).

Так іх сцежкі-дарожкі разышліся.

Была перапіска. Першае пісьмо Юрка паслаў на адрас Саюза пісьменнікаў СССР. Коласу яго перадалі. Апошняе датавана 20 верасня 1941 года, паслана з-пад горада Ярцава...

Прапаную ўвазе чытачоў успаміны пра Юрку, запісаныя мною ад яго сяброў. Усіх ужо няма сярод нас.

*Ігар Рыдзеўскі*

## Пра школьнага таварыша

Гэта было вельмі даўно. Мой бацька з'яўляўся ў той час дырэктарам Беларускага педагагічнага тэхнікума. У ім вучыліся многія цяперашнія старэйшыя беларускія пісьменнікі. А бацька Юркі, Канстанцін Міхайлавіч, выкладаў там методыку роднай мовы. І мы нейкі час сустракаліся ў Ждановічах. У тэхнікуме існаваў такі парадак, што кожны студэнт адбываў два месяцы сельскагаспадарчую практыку. Для гэтага была створана ферма Да́рава. Цяпер яе няма. Калі ехаць на Ждановічы, ёсць такая вёска Крупцы, там размяшчалася ферма. Летні час і мы праводзілі ў тых мясцінах. Сям'я Коласа адпачывала ў в. Патрэбы. Мы з бацькам некалькі разоў ездзілі да іх і пасябравалі.

Юрка тады вучыўся ў 13-й школе. Знаходзілася яна ў раёне цяперашняга Сувораўскага вучылішча, каля піўзавода «Беларусь». А Колас жыў у доме Русецкага (цяпер вугал Чырвонай і Кісялёва). Там быў і Сцёпка Боўтрык, апісаны ў апавяданні «У двары пана Тарбецкага». Ён вызначаўся фізічнай развітасцю і верхаводзіў. Двор вялікі, многа дзяцей. З цікавасцю хадзіў гуляць туды і я. Мы там сустракаліся і сябравалі.

Юрка прыйшоў у 21-ю школу, нашу доследную, у трэці клас. Пасля таго як Колас пабудаваў дом на Вайсковым завулку, яго (можа, мела значэнне тое, што я з ім сябраваў) бацька прывёў у нашу школу і аддаў у распараджэнне даўняга і добрага настаўніка Канстанціна Іванавіча Шапялевіча.

Сціплы быў хлопец Юрка. Фізічна развіты і часам задзірысты. У Мінску сярод нас, хлопцаў, была складаная сітуацыя. Напрыклад, мы не мелі права хадзіць далей цяперашняга моста (праз Свіслач). Юрку вельмі доўга не прымаў гэты раён, дзе пасялілася Коласава сям'я. Там заводзіліся вялікія бойкі. І яго сталі паважаць толькі за тое, што ён не ўступіў забіякам. Прыходзіць павінны былі ў пэўны час і адыходзіць. Тут існавалі свае групы — горад падзяляўся: Камароўка, Слабада (дзе цяпер Пуліхава)... Між сабой яны ніколі-ніколі не сябравалі. Адкуль гэта? Відаць, з царскіх часоў. Калі, напрыклад, камароўскія хлопцы ішлі ў кіно, то групай не менш чым 20 чалавек. Прычым, па цэнтру вуліцы, шчыльным гуртам. Юркава фізічная развітасць і смеласць вельмі спатрэбіліся ў тых умовах.

Што было характэрна ў Юркі? Ён ніколі не дазваляў, калі мы хадзілі на якую-небудзь другую вуліцу, каб гаварылі, што ён сын Коласа. Не афішаваў гэта. Аднойчы нехта прагаварыўся. Юрка

пакрыўдзіўся. Цяпер наадварот — сынок якога начальніка ва ўсіх жыццёвых акалічнасцях падкрэсліць сваю прыналежнасць да «вышэйшага роду».

Мы вучыліся з Юркам з трэцяга па сёмы клас. Выпусцілі нас у 1932 годзе. У мяне захавалася фатаграфія. Дружба з ім адыграла станоўчую ролю ў маім жыцці.

Я хацеў бы расказаць пра адзін выпадак. Каля дома Коласа з парку быў пракапаны праход, дарога. Мы ішлі з Юркам. Падышоў нейкі хлопец, выняў нож і наставіў на Юрку. Той спачатку пачырванеў. Але тут жа сказаў мне: «Ідзі, я з ім пагавару». Адразу знайшоў агульную мову, наладзіў кантакт.

Не любіў падманаў. Мусіць, так было заведзена ў доме Коласа. Прыпамінаецца адзін выпадак. Тут добрым словам хочацца ўспомніць яго маці, Марыю Дзмітрыеўну. Я парваў сваё паліто, новае, дарагое. Разарваў з самага верху па самы ніз. У школе. Дачка Канстанціна Іванавіча Галя прынесла іголку, і мы з Юркам пачалі зашываць. Праўдзівей, яна гэта рабіла. Мы заперліся ў класе. Ды вартаўнік нас выгнаў. Юрка гаворыць: «Пойдзем да маці маёй!» Стала зашываць. А Галіна іголка вісіць. «Хто гэта майстраваў?» — пытаецца. Я разгубіўся. А Юрка ўзяў і сказаў. І Марыя Дзмітрыеўна не дапытвала нас, як такое магло стацца, адкуль тое ліха.

Гадоў дзесяць мы прасябравалі. Бываў з бацькам я ў Коласа ў Патрэбах. І Юркаў бацька быў у нас некалькі разоў у Дараўцы.

Калі ў нашу сям'ю ўвайшоў Броўка (паэт ажаніўся з сястрой І. Рыдзеўскага. — *Аўт.*), Юрка вучыўся ва універсітэце. Я рабфак яшчэ канчаў. І ў нас дарогі разышліся. А пасля ён пайшоў у армію. У ім былі закладзены справядлівыя, сумленныя адносіны да людзей і ўсяго навакольнага. І гэта паўплывала і на нас, яго сяброў.

*Алесь Мурач*

## Як родны брат

Пра гэту сям'ю можна гаварыць доўга. Мы з Юркам пазнаёміліся прыкладна ў трыццаць чацвёртым годзе. Бацька яго вельмі любіў мясціны паблізу Талькі, маляўнічыя, прыгожыя. Свіслач там шырокая, чыстая была тады. І над ёю разложыстыя, вялізныя вісяць дубы. Проста палавіну займаюць рэчкі. Рака праразае лес сасновы. Калі на лодцы праязджаеш — вельмі прыгожа! Колас жыў і ў самой Тальцы, і паблізу, за рэчкай. Там

ёсць такая вёсачка Загібелька. У ёй пражыў некалькі гадоў. Мясціны гэтыя дужа грыбныя. Канстанцін Міхайлавіч любіў збіраць грыбы, рыбу часта лавіў. Лепшага грыбніка за яго не было. Як пойдзе, заўсёды за раніцу набярэ поўны кошык белых грыбоў.

І Юрка часта прыязджаў. Я ў тыя гады з ім і пазнаёміўся. Як чалавек таварыскі, дабрадушны, просты, валявы, мне ён адразу спадабаўся. Мы знайшлі, так сказаць, агульную мову. І здружыліся. Пасля даведаўся, што Юрка — паляўнічы. А я з малых гадоў таксама займаўся паляваннем. Мне яшчэ не давалі па маладосці білета паляўнічага. І я трошкі браканьерыў. Стрэльба ў бацькі была. Іншы раз вазьму яго і пайду.

Ішоў 1932 год, цяжкі для краіны: другі год пяцігодкі. Тады і быў арганізаваны геалагічны факультэт, каб мець свае нацыянальныя кваліфікаваныя кадры. Юрка, будучы вельмі патрабавальным, рыхтаваў сябе ў гэтай галіне. Мы разам паступілі і вучыліся ў адной групе.

Чым падабаўся мне Юрка? Тым, што быў такі валявы, мужны, адкрыты, душэўны. У любую хвіліну паможа табе. Жыў я ў бараках на Студэнцкай вуліцы. У Коласа ж быў як за сына, разам у сям'і. Бацькі размяшчаліся на першым паверсе, а мы з Юркам займалі пакой на другім. Там рыхтаваліся да паступлення ва універсітэт. Часта заходзіў Даніла Канстанцінавіч, удзельнічаў у нашых спрэчках, ганяў нас па карце: «Ану, таварышы, пакажыце...» І мы шукаем. Ён больш за нас ведаў у той час. Так і паступілі на геафак.

Пры універсітэце была секцыя паляўнічых. Кіраваў ёю загадчык заалагічнага музея Вязовіч. Ён рабіў адстрэл жывёл і птушак і нас спакусіў. Мы з Юркам часта выязджалі з кіраўніком. Пасля ўжо і самі знаходзілі мясціны, розныя раёны абжывалі. Юрка быў вельмі харошы стралок. У мяне стрэльба неважнецкая вялася. Дык я часта выязджаў з Коласавай, што яму падарылі. На стэнд хадзілі з ёю, па талерачках стралялі. Юрка рыхтаваўся на майстра спорту. Ды вайна перапыніла яго памкненне.

Калі мы скончылі універсітэт, нас райваенкамат накіраваў у артылерыйскую часць у Беластоцкую вобласць — на самую Прускую граніцу, у мястэчка Ставіскі. Служба вайсковая была вельмі цяжкая. На нас глядзелі так — яны, бачыце, адседжваліся, хай уведаюць, па чым фунт ліха. Мы мелі па парачцы коней кожны, вазілі 76-міліметровыя гарматы. Цяглавая сіла — тры пары. Будавалі лазні, казармы. Дзень і ноч працавалі. Уначы — будаўніцтва, удзень — заняткі. Юрка ніколі не сумаваў.

Быў валявы хлопец. Заўсёды падтрымае, паможа, ні ў чым не адмовіць.

Ішла восень саракавога года. Наспявала небяспека вайны. Кожны дзень паяўляліся разведвальныя самалёты. Мяне вайна застала ў гэтай жа артылерыйскай часці, тут жа, на прускай граніцы. Юркі ў той час не было. Паехаў на стралковыя спаборніцтвы ў Мінск. Спрабаваў дабрацца да часці. Прыстаў да адступаючай, незнаёмай. Ён меў, ведаеце, магчымасць часова і перачакаць. Але Юрка быў вельмі патрыятычны хлопец. У яго энергія кіпела. І ніхто з нас не сумняваўся, што ён будзе змагацца за Радзіму, што не пашкадуе сілы і крыві, нават і жыцця. Так і здарылася, што Юрка загінуў як герой. Светлая памяць пра яго застанецца назаўсёды ў нашых сэрцах.

*Марына Казлова*

## Незабыўныя хвіліны

У маладосці я захаплялася авіяцыяй. Паступіўшы на геафак, правучылася год-два. Чамусьці хацелася нечага асаблівага. І вось кінуты быў кліч: моладзь, на самалёт! моладзь, на парашут! І я пайшла. Прайшла камісію і стала сумяшчаць вучобу ў аэраклубе і на геафаку ва універсітэце. Год планерная, год пілоцкая. Будучы ў школе пілотаў, зрабіла пяць скачкоў і стала інструктарам-лётчыцай у Мінскім аэраклубе, сумяшчаючы зноў жа з вучобай ва універсітэце. Гэтае захапленне крыху змяніла мой кірунак у жыцці.

Год 1939. Ушчыльную да нашай граніцы наблізіўся каварны вораг, нямецкі фашызм. Вядома, патрэбны былі кадры, нашы вочы, якія глядзелі б, што робіцца там, у гітлераўцаў. Каго ж знайсці ў такім выпадку? Трэба было шукаць дзяўчат, баявых, смелых. Паклікалі і мяне. На разведку. Я пайшла з універсітэта, скончыўшы чатыры курсы.

Пра Юрку я сказала б двума фактамі. Паступілі мы ўсе ў 1935 годзе ва універсітэт і закончылі першы курс паспяхова. З другога курса бліжэй пазналі адно аднаго. Былі вельмі дружныя між сабой. Гэтае пабрацімства перайшло як бы ў радства. Калі б цяпер дружылі так, як тады!.. Новы, 1937 год вырашылі сустрэць разам. Але ж дзе знайсці месца? І вось Юрка запрапанаваў свой дом. І мы, увесь курс, 60 чалавек, апынуліся ў Коласавым доме, што стаяў у парку імя Горкага. На другім паверсе — зала. Як жа ўвайсці, як сябе паводзіць, што гаварыць? Як сядзець за сталом? Гэта ж дом вялікага пісьменніка, якога

ведалі са школы па яго творах! Прыйшлі і запрапанавалі свае паслугі зрабіць што па кухні. Нам сказалі: «Нічога не трэба. Вы — госці». Селі за стол. Нагатавана ўсяго было як для самых доўгачаканых гасцей. Кожнаму — талерка, прыбор, чарка. А якія напіткі! Мы тады жылі толькі на стыпендыю, і для нас гэты пачастунак быў «царскі».

Вельмі запомнілася мне Марыя Дзмітрыеўна, маці Юркі. Яна была гаспадыняй усяго застолля. Даглядала кожнага, хадзіла вакол. Калі закончылася частаванне, мы пачалі паказваць сваю самадзейнасць. Нам дазволілі і спяваць, і танцаваць, і іграць. Весяліліся, колькі хацелі. Разышліся пасля паўночы. Мне, помню, стала кепска. «Не бядуй, Маша!»— сказаў Юрка. Прынёс баржому і паратаваў.

Яшчэ адзін выпадак. Пасля 3-га курса мы павінны былі паехаць на практыку ў Крым, першую, вучэбную. Трэба было пехатой прайсці і праехаць па крымскіх гарах, пазнаёміцца з іх будовай, з фаунай і флорай. Даехалі поездам да Бахчысарая. Заначавалі ў гасцініцы. А назаўтра (быў вельмі сонечны, цёплы дзень) раніцай выйшлі. Трэба ўзбірацца на Ай-Петры, вышэйшую кропку Крымскіх гор. Не шукалі ні дарог, ні сцежак. Кіраўнік М. Каралёў: «Вы ж геолагі, прывучайцеся! Бярыце ў рукі палкі і прама ў горы!» І пайшлі ўсе шэсцьдзесят чалавек. Некаторыя сталі задыхацца, адставаць. Пяць хлопцаў і я (аэраклубістка, хацела паказаць вытрымку, настойлівасць) вырашылі першымі падняцца на Ай-Петры. Не на самую вяршыню — вышэй там ёсць лугі вялікія. Па крутых схілах зайсці туды! Ішлі, ішлі. Адчуваю — мае фізічныя сілы слабеюць. У «перадавіках» быў і Юрка. Падбягае да мяне: «Ну што ты, Маруся!» Узяў пад руку. І ўвесь адрэзак дарогі падмагаў мне. І я разам з імі ўзабралася на Ай-Петры, на вялізныя лугі. Ляглі і чакалі, пакуль нашы астатнія падыдуць.

З боку Юркі ніколі не назіралася якіх-небудзь банальных, вульгарных адносін да дзяўчат. А такое бывала і тады, заўважаецца і цяпер. Калі дапамагаў, то чыста па-таварыску, па-чалавечы. І ведамі, і фізічнай сілай гатоў быў падзяліцца. Кажуць часам пра задзірыстасць Юркі. Я з ім правучылася чатыры гады і нічога такога не заўважала. Бывае ж сярод студэнтаў. Нават з-за дзяўчат некаторыя хлопцы патузаюцца. Юрка быў іншага характару. Без амбіцый, без ганарыстасці. Ніколі не пахваляўся, што ён сын вялікага песняра. І адзеннем не выдзяляўся сярод іншых. Нічога паказнога! На яго раўняліся хлопцы-аднакурснікі.

Гэта быў выключны чалавек — сумленны, чысты, душэўны і адказны.

*Еўдакія Грушэўская*

## Сяброўскае слова

Юрку я помню толькі па універсітэце, з 1935 года. Спачатку мы займаліся ў розных групах. Часта былі ў нас агульныя лекцыі. На перапынках, як водзіцца, весяліліся, дурэлі, мянушкі давалі адзін другому. Я заўсёды заўважала, што Юра нічым не адрозніваецца ад іншых. Быў выключна сціплы. Умеў прыгожа абысціся, асабліва з дзяўчынай. Ён вельмі хораша паводзіў сябе.

Запомніўся Юра мне на ўсё жыццё. Калі ў 1939 годзе нашы пачалі вызваляць заходнія вобласці Беларусі, то ў сельскай мясцовасці мала заставалася маладых мужчын — іх сталі прызываць у армію. Патрэбна была замена. І таму з 5-га курса універсітэта паслалі на работу многіх нашых таварышаў, у тым ліку і мяне. Атрымала назначэнне я ў Любанскі раён. Вядома, не хацелася туды ехаць. Бліжэй бы да Мінска ці на радзіму. Але мне сказалі: «Там патрэбны кадры. Там ідуць у армію ўсе». Згадзілася. І засумавала. Ніхто на мой настрой не звяртаў увагі. Толькі Юра. Ён падышоў і кажа: «Чаго нос павесіла? Ты ведаеш, колькі там балот! Качак — працьма. Я буду прыязджаць на паляванне да цябе. Чаго сумаваць? Там жа рай, такое хараство!» Усе, зразумела, засмяяліся. І я сама. Гэты малюнак помніцца да цяперашняга часу.

Такі далікатны. Ніколі не нагрубіяніць, не скажа лішняга, непрыстойнага. У нас было многа хлопцаў (з шасцідзесяці студэнтаў усяго восем дзяўчат). Ад іншых чакалася ўсякае. Ад Юркі — толькі добрае.

*Іван Салавей*

## Мужны і таварыскі

Маё знаёмства з Коласам пачалося са школы. Я выхадзец з палескай вёскі, з Хатлян. Цяпер пяцьдзесят кіламетраў ад Мінска — прыгарад. Тады, калі быў юнаком, — далёкая адлегласць. Напрыклад, каб трапіць у нашу сталіцу, трэба было ісці пешшу сорак кіламетраў да Рудзенска і трыццаць пяць ехаць поездам. Вось так мы, вясковыя хлапчукі, ішлі ў навуку. У нас была пачатковая школа. Пасля стала сямігодка. З першых класаў я вучыў на памяць вершы Якуба Коласа. Скончыўшы сваю школу, затым у Мінску рабфак, паступіў на геаграфічны факультэт універсітэта. Тут склалася дружная студэнцкая сям'я. Мы лічылі, што дзяўчаты — нашы сёстры, а хлопцы — браты. Адзін за другога

заступаліся, дапамагалі. Калі добра пазнаёміліся, даведаўся, што Юрка — сын Коласа. Мне было радасна, я ганарыўся, што вучуся з сынам такога вялікага чалавека.

Нягледзячы на прыналежнасць да высокай пісьменніцкай сям'і, Юрка не выдзяляўся і не жадаў гэта рабіць. Заўсёды паводзіў сябе вельмі сціпла. Сябраваў блізка ён з Крышчановічам, Мікалаевым, Мурачам. Ну, і я непадалёку, як гаворыцца, быў ад іх.

Успамінаецца такі выпадак. Знаходзіліся мы на Каўказе, у горадзе Грозным. А там жывуць інгушы і чэчэнцы, народ гарачы. Зайшлі мы ў сталовую. Паелі. Наша студэнцкае меню было даволі сціплае. Выйшлі. Бачым — два мясцовыя жыхары (не ведаю, якой нацыянальнасці) пачалі спрачацца. А ў кожнага — кінжал. Адзін выхапіў і да другога. Юрка падскочыў і — хоп за лязо нажа! Тыя разгубіліся і — да Юркі. «Палажы кінжал, і паглядзім, хто ў чым вінаваты», — дабрадушна, але ўладна запрапанаваў ён. Забіякі адразу ж памірыліся. Узялі Юрку, яшчэ некалькі хлопцаў і пайшлі — замачылі мірную здзелку.

Юрка заўсёды паводзіў сябе хораша. Памагаў, чым мог, калі патрэбна, кожнаму. Усяляк спрыяў. Успамінаецца мне яшчэ такі выпадак. Янка Купала ездзіў у Чэхаславакію і прывёз Юрку фотаапарат. А тады гэта было рэдкасцю. Маленькі, паходны, зручны. Займець у той час фотакартку — ого! Юрка нас фатаграфаваў. У мяне захавалася фота — мы каля студэнцкіх баракаў на Студэнцкай вуліцы сядзім цэлай групай. Сфатаграфаваў і даў кожнаму.

Ніколі Юрка не ставіў сябе вышэй за іншых. Быў сціплым сябрам, таварыскім. Калі паклікала Радзіма, праявіў сябе верным яе сынам. І аддаў жыццё за свабоду і незалежнасць роднай зямлі.

*Віктар Крышчановіч*

## Былое не забываецца

З Юрыем Канстанцінавічам мы вучыліся пяць гадоў ва універсітэце. Факультэт наш размяшчаўся ў былым хімічным корпусе. Там быў і геафак. А ў 58-й аўдыторыі ў нас праходзілі сходы. Тут мы часта сустракаліся.

Юрка вельмі любіў прыроду. Відаць, гэтая любоў, прывітая сям'ёю, і прадвызначыла выбар ім будучай прафесіі. Ён выбраў геаграфічны факультэт. Юрка быў заўзяты паляўнічы. Заўсёды з групай таварышаў, нашых аднакурснікаў, выязджаў на паля-

ванне. Мы, некалькі студэнтаў, рыхтаваліся да лекцый, да экзаменаў часта ў доме Якуба Коласа. Гэтыя дні засталіся навекі ў памяці. Аднойчы праходзім мы праз пакой. Сядзіць за сталом Колас. Было гэта зімою. У кажушку. Штосьці піша. Нейкі верш. На маленькім кавалачку паперы. Дробным бісерным почыркам. Мы паздароўкаліся, прайшлі, селі, сталі рыхтавацца.

Вельмі добрая жанчына была маці Юркі. Я да цяперашняга часу ўспамінаю, як яна прымала нас. Марыя Дзмітрыеўна ведала, што мы — студэнты. А тады нам жылося не так, як цяпер. Сядзім, рыхтуемся, а яна: «Ну, перапынак!» Нясе абед. Успамінаю яшчэ адзін выпадак. Новы год. Мы хацелі яго дзе-небудзь сустрэць калектыўна. Звярнуліся да Юркі: «Што, калі ў цябе адзначым свята?» — «Я пагавару дома». Прыходзіць назаўтра: «Бацькі згодны». І вось мы трапляем на гэты вечар. Якуба Коласа не было — выступаў па радыё. Перадаваў навагодняе віншаванне. І мы паслухалі. Ён прыйшоў, сеў у куточку і ўважліва назіраў за ўсімі намі. Яшчэ адзін факт, які зрабіў уплыў на ўвесь наш курс. На гэтым вечары звяртаецца да нас малодшы Юркаў брат Міхась: «Вось вы — географы. Адкажыце мне на пытанне...» Ён рашаў нейкі красворд. Геаграфічнае задаў пытанне. Ніхто з нас не мог адказаць. Па карце штосьці. Ён стаў, паглядзеў на нас: «Яшчэ географы, а карты не ведаеце!» Нас гэты папрок так закрануў! Назаўтра, вярнуўшыся ва універсітэт, сабраліся і парашылі рэгулярна вывучаць карту. Яны былі вывешаны ва ўсіх аўдыторыях, на калідоры. І ў час перапынку мы стаялі групкамі. Кожны адказваў — сёння адзін, заўтра другі. За няведанне цярпеў пакаранне. Пстрычка ў лоб была. На дзяржаўных экзаменах наш курс карту ведаў добра.

Юрка быў здольны хлопец, меў выдатную памяць. Але не вельмі стараўся многа займацца. Гэта трошкі адбівалася на яго поспехах. На трэцім курсе неяк сабраліся мы. Ён кажа: «А мне, ведаеце, крыху брыдка. Мой брат старэйшы Даніла на хімфаку выдатна вучыцца, малодшы брат у школе — выдатнік, а мне няёмка мець заніжаныя адзнакі». І з 3-га курса ён узяўся за навуку. Выйшаў у лік лепшых студэнтаў.

Мы закончылі універсітэт. Апошняя агульная сустрэча наша была на першамайскай дэманстрацыі.

Юрка не любіў фатаграфавацца, хоць у яго самога быў фотаапарат, падораны, баюся памыліцца, Янкам Купалам. Іншых фатаграфаваў. Мы былі на практыцы на Каўказе. І толькі на адным здымку засведчаны Юрка. Выпадкова, мусіць, папаў. На жаль, гэтага кадра не захавалася.

Пасля заканчэння універсітэта, калі мы здалі дзяржаўныя экзамены, нас усіх прызвалі ў армію. Усе нашы аднакурснікі трапілі ў артылерыю. Служылі ў былой Беластоцкай вобласці. У адной дывізіі, але ў розных палках.

Пасля вайны я даведаўся, што Юрка загінуў пад Смаленскам, пад Ярцавам. Ён быў вялікі патрыёт. Лёс так склаўся, што Юрка апынуўся ў Мінску. Мог нейкім чынам застацца дзесьці. Але, як чалавек доўгу, доўгу перад Радзімай, пайшоў шукаць сваю часць. Трапіў у другую. І там адстойваў подступы да Масквы. І загінуў, як многія абаронцы нашай Радзімы.

*Віктар Путан*

## У салдацкім шынялі

Я закончыў наш універсітэт у саракавым годзе. Вучыліся мы з Юрыем Канстанцінавічам на паралельных факультэтах: ён на геаграфічным, я на фізіка-матэматычным. У сувязі з тым, што ваенная падрыхтоўка ў нас адсутнічала, мы адразу ж пасля вучобы былі прызваны ў рады Чырвонай Арміі. Стварылася спецыяльная артылерыйская часць. Камандзіраў тады не ставала. І таму арганізоўваўся дывізіён асоб з вышэйшай адукацыяй. Сфарміраваны ён быў з фізмата універсітэта, геафака і фізіка-матэматычнага факультэта Смаленскага педінстытута. Праз два дні пасля атрымання дыпломаў нам уручылі павесткі. І мы адправіліся поездам у Беласток, а там — горад Ломжа і мястэчка Ставіскі. Гэта на самай савецка-нямецкай граніцы. Часць наша была артылерыйская — 62-гі артполк 8-й стралковай дывізіі. Тут службу праходзіў я разам з Юрыем Канстанцінавічам. Дывізіён быў узброены на той час новай гарматай — 76 мм, толькі што распрацаванай к пачатку вайны. Вельмі харошая гармата. Мы абавязаны былі за паўгода асвоіць гэтую матэрыяльную тэхніку, здаць экзамены і да канца першага года службы павінны былі атрымаць афіцэрскае званне. Я быў першым нумарам аддзялення. Юрка служыў спачатку ў разведузводзе. Службу неслі мы акуратна, хоць яна была нялёгкай. Юрку лягчэй давалася. Ён выдзяляўся сярод нас па стралковай лініі, вызначаўся дысцыплінаванасцю, стараннасцю. З групай таварышаў, куды трапіў і я, Юрку камандзіравалі ў Мінск для забеспячэння палка мастацкай літаратурай і іншымі матэрыяламі, каб аформіць чырвоныя куткі часці. Неаднаразова выязджаў ён на спартыўныя спаборніцтвы па стэндавай стральбе. Апошні раз быў выкліканы ў сярэдзіне чэрвеня, 15-га ці 16-га, 1941 года ў Мінск. Да пачатку вайны Юрка не паспеў вярнуцца ў нашу часць.

*Фёдар Варонін*

## Мужны сын Радзімы

Я ведаў Юрыя Канстанцінавіча, калі быў студэнтам. Мы вучыліся ў адзін час у БДУ, але на розных факультэтах: ён на геаграфічным, я на біялагічным. Пасля заканчэння універсітэта мы былі прызваны ў Чырвоную Армію. І служылі ў адной часці. Наша часць стаяла за Беластокам на граніцы з Германіяй. Напярэдадні вайны я быў накіраваны ў ваенную школу ў г. Беласток, а Юрый Канстанцінавіч заставаўся ў часці. З Беластока наша часць з баямі адступала да Магілёва, дзе адбывалася фарміраванне воінскіх часцей, адкуль яны накіроўваліся на фронт. Тут, у Магілёве, мы зноў сустрэліся з Юрыем Канстанцінавічам. Мы зноў былі накіраваны ў адну часць, у артылерыйскі полк. І служылі спачатку ў адной батарэі. У гэты час на галоўным напрамку, па магістралі Мінск – Магілёў, вораг ірваўся да Масквы. Нашаму палку быў дадзены загад затрымаць наступленне нямецка-фашысцкіх войск каля горада Ярцава Смаленскай вобласці. Мы выехалі з Магілёва за некалькі дзён да баёў, размясціліся і пачалі будаваць абарону. Ужо ішлі баі за Смаленск, і да нас даносілася гарматная кананада, і начное зарыва асвятляла неба. Скора фашысты выкінулі дэсант, на ўсход ад Смаленска. І гэты дэсант пасля злучыўся з галоўнымі сіламі фашыстаў, якія пачалі наступленне на ярцаўскім, гэта значыць, на нашым напрамку. Наступленне суправаджалася няспыннымі бомбавымі ўдарамі. Вось паказаўся ўжо іх авангард — танкі і мотамеханізаваныя часці. Ад гулу самалётаў, грукату танкаў і гарматнай кананады дрыжэлі зямля і паветра. Ад гарматных залпаў і разрываў варожых снарадаў дымам засцілала сонца. Нашы батарэі, якія былі прызначаны страляць з закрытых пазіцый, цяпер стаялі адкрыта і білі прамой наводкай па танках і скопішчы ворага. А Юра быў наводчыкам. Так што можаце ўявіць сабе яго ў гэты час. Снарадаў было мала, іх даводзілася эканоміць. З самалётаў разам з бомбамі фашысты скідалі лістоўкі, у якіх пісалася: «Здавайцеся! Ваша супраціўленне недарэчнае — Чырвоная Армія разбіта, нашы самалёты ўжо бамбяць Маскву, на днях Масква будзе ўзята, а вас, калі не здадзіцеся, знішчым». — «Хто каго! — гаварылі байцы. — Смерць фашысцкім гадам!» І ў адказ на іх лістоўкі сыпаліся снарады. Пад вечар фашыстам удалося пацясніць наш левы фланг і захапіць частку горада на ўсходнім беразе ракі. Аднак у горадзе вораг пратрымаўся толькі адны суткі. У нашай часці ўвесь дзень ішла ўзмоцненая

падрыхтоўка да наступлення. Увечары пяхота і наша часць занялі зыходныя рубяжы, а ноччу магутным контрударам мы выбілі фашыстаў з Ярцава і адкінулі іх за раку. Усходні бераг і горад былі поўнасцю ачышчаны ад ворага. У наступныя дні фашысты некалькі разоў пераходзілі ў наступленне, але беспаспяхова. Нашы часці магутнымі контрударамі адкідвалі ворага. Наш галоўны артылерыйскі назіральны пункт размясціўся на ярцаўскай тэкстыльнай фабрыцы, якая стаяла ля ракі і была моцна разбурана. Тут мы неаднаразова сустракаліся з Юрыем Канстанцінавічам. Ён у гэты час быў у другой батарэі. Такім чынам, ворага нашы войскі спынілі на цэнтральным напрамку пад Ярцавам. Некалькі разоў нашы часці ішлі ў контрнаступленне і часта адкідвалі фашыстаў за 10–15 км на захад. Так устанавіўся часовы стабільны фронт каля Ярцава да кастрычніка 1941 года, дзе мы з Юрыем Канстанцінавічам ваявалі. Адсюль у верасні гэтага года я пасланы быў курсантам у школу АІР (артылерыйская інструментальная разведка) пры штабе Заходняга фронту, а Юрый Канстанцінавіч застаўся ў гэтым артылерыйскім палку.

Мы не паспелі яшчэ наладзіць перапіску, як у пачатку кастрычніка сорак першага года фашысты пачалі наступленне, агульнае на маскоўскім напрамку, у тым ліку і пад Ярцавам. У гэтых баях, відаць, і загінуў Юрый Канстанцінавіч. А мне разам з курсантамі школы АІР і палітруком давялося ўжо ваяваць з фашыстамі пад Масквой.

Юрый Канстанцінавіч быў адважным воінам і вялікім патрыётам. Наводчыкам, артылерыйскім разведчыкам служыў ён. На яго рахунку нямала падбітых фашысцкіх танкаў, гармат і многа знішчаных гітлераўцаў. У часці яго вельмі любілі і паважалі. Як сціплага, добразычлівага і чыстасардэчнага таварыша, які ў любую хвіліну быў гатовы памагчы і пайсці на выручку. Гэты чалавек вызначаўся высокай культурай. Ва ўсім адчувалася, што ён выхоўваўся ў такой сям'і, як сям'я вялікага нашага паэта Якуба Коласа. Вось такім ён застаўся назаўсёды ў маёй памяці.

# РУПНАСЦЬ

Здавалася, ён і не мяняецца з гадамі — наш Даніла Канстанцінавіч: самавіты постаццю, паважны рухамі, задумны і разважлівы. І нязменна цікаўны да ўсяго , што дзеецца на белым свеце. Пра што б ні зайшла гаворка — ва ўсім дасведчаны слухач і суразмоўца. Любыя тэмы падуладныя розуму яго. Даводзілася здзіўляцца часам: як гэта ўсё трымаецца ў адной галаве! Трымаецца і порцыямі «выдаецца» партнёру па гутарцы. Самымі частымі «спажыўцамі» ягонай эрудыцыі з'яўляліся, вядома ж, мы, музейцы-коласаўцы. Нетаропкаю хадою штораніцы заходзіў ён у канцылярыю, здароўкаўся ветла з кожным за руку і звыкла «акрэсліваўся» за сталом. Перад запозненым супрацоўнікам распачціва падымаўся і спраўджваў тое ж лагоднае вітанне. Распачыналася «стыхійная» гаворка і неўпрыкмет скіроўвалася на коласаўскую тэму. Каму-каму — яму, сыну, найболей рупіла памяць песняра...

Пасля смерці блізкага і вернага друга народнага паэта — жонкі Марыі Дзмітрыеўны — старэйшы сын Даніла стаўся найпершым яго памочнікам і дарадцам. Якуб Колас шмат у чым прыслухоўваўся да сынавай думкі. Так, напрыклад, у лісце ад 12 ліпеня 1951 года да рускага паэта, перакладчыка сваіх твораў на рускую мову Сяргея Гарадзецкага ён пісаў: «Вполне согласен с тобой, что твой перевод «Дуба» лучше перевода Карабана. Об этом сказал мне и Данила».

Схільнасцю да навукі, глыбокай удумлівасцю сын Коласаў вылучаўся з маленства, люба ставіўся да фізічнай працы. У лісце да сям'і са Слуцка, дзе Якуб Колас у 1923 годзе чытаў лекцыі для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, звяртаючыся да сына Юркі, паэт пісаў: «Пойдзем з табою ў лес грыбы збіраць, возьмем таксама і маму... Ну, і Данілку возьмем, ён такі разважлівы, разумны, такі добры хлопец».

У другім лісце чытаем: «А Данілачка мой — гаспадар. Я чуў, што ты, Данілка, гатуеш козам корм на зіму. Вось малайчына!»

Клапаціўся Якуб Колас, каб дзеці раслі сапраўднымі людзьмі. У лісце да жонкі 30 жніўня 1926 года з Есентукоў ён звяртаецца да двух сыноў (быў ужо і маленькі трэці — Міхась): «Як пажываюць мае мілыя Данік і Юрачка? Сыночкі мае! Будзьце разумнымі і сталымі членамі калектыву... Калі будзеце добрымі хлопцамі, то прывязу вам гасцінцы».

Не хаваў бацькоўскага гонару за сына Колас. Так, напрыклад, аднаму даўняму знаёмаму ён у пачатку 1940 года паведамляе: «Старший мой сын Данила, родившийся в Пинске ■ 1914 г., окончил университет — химический факультет. Сейчас заканчивает аспирантуру и читает студентам лекции по химии. Очень способный хлопчик».

Раней, у 1936 годзе, сваёй былой выхаванцы па Беларускім педагагічным тэхнікуме Марыі Арцыховіч народны паэт пісаў: «Старшы мой сын, Данік, канчае універсітэт (хімік). Ён самы лепшы студэнт на ўсім факультэце...»

Даніла Канстанцінавіч валодаў выключнай памяццю. Мы, музейцы-коласаўцы, часам чырванелі перад ім. Успамінаюцца выпадкі з таго часу, калі ён узначальваў музей (з 1980 года нёс службу ў годнасці старшага навуковага супрацоўніка). Трэба, скажам, напісаць ліст кіраўніку нейкай установы. І тут — загвоздка. Прозвішча сяк-так прыпомніў, імя і імя па бацьку — божа барані! Муляешся, вызвоньваеш. А ён спагадліва ўсміхаецца... Пасля ж спакойна падказвае і называе ў дадатак нумар тэлефона.

— Ну, як жа вы не ведаеце? — папракне іншы раз. А наогул ён нікога ніколі не прыніжаў, не абражаў. Мусіць, выхаванне меў такое. Дый — не мусіць, а пэўна! Якуб Колас, ведаем мы, быў педагогам высокага кшталту. Маці Данілы калісьці таксама слыла ўзорнаю настаўніцай.

Ён часта бываў маўклівым і задуменным. І, здавалася, нішто наўкольнае не кранала гэтай таемнай ціхмянасці. Але ж, бывала, толькі распачніце гаварку, як ён лагаднеў, прыемна ўсміхаўся. І ўжо вы міжволі станавіліся яго суразмоўцам. Звычайна пасіўным. Бо не смелі перабіваць — пачутае хвалявала і вымушала на ўважнасць. А ўмеў і любіў слухаць і сам. Праўда, сюд-туд падкіне слова-другое, нагадае факт альбо цэлы эпізод. Куды ні ткніся — ва ўсім дасведчанасць, як звыкла зараз гаварыць, кампетэнтнасць.

Сваю эрудыцыю ў розных галінах ведаў Даніла Канстанцінавіч выяўляў неяк між іншым, неўпрыкметку. Таму з ім лёгка было размаўляць. Калі ж вы хімію зачэпіце, ён з ходу перайначыцца. Пачне заўзята расказваць і даказваць, пацвярджаючы, бывала, свае довады тут жа намаляванымі схемамі і напісанымі формуламі.

Ніводнае коласаўскае свята не праходзіла без яго ўдзелу. Ахвотна Даніла Канстанцінавіч сустракаўся з наведнікамі музея. Ахвотна «ішоў у народ». Я сотні разоў выступаў з ім у

розных аўдыторыях. Уважна людзі слухалі прамоўцу. Гэта ж не хто які — сын Якуба Коласа гаворыць!.. Побач з ім узрастаў аўтарытэт і сына Сцяпана Курбекі.

Распачынаў сустрэчу заўсёды я — казаў пра Якуба Коласа, пра шаноўнага свайго калегу. Затым — публіка была ў ягонай уладзе: цікавымі звесткамі пра жыццё-быццё бацькі, пра яго творчасць, а яшчэ і густым гучным басам ствараў атмасферу ўвагі і павагі. Праўда, у адной мінскай школе, памятаю, адбыўся эксцэс. Прыходзіць з залы запіска. А там: «Пора кончать базар!» Дадумаўся нейкі нахабнік! Мы ж кожным разам ведалі меру — гаворку вялі ў абсягу педагагічнай гадзіны (як прасілі і кіраўнікі збору). Скончыў слова Даніла Канстанцінавіч, трошкі павесяліў слухачоў я гумарыстычнымі нумарамі. Настаўніца дзякуе нам, гасцям. Думаў не паказваць паважанаму напарніку. Аж ён сам: «Дайце глянуць мне». Прачытаў і раіць шэптам: «Увяжыце з рыначнымі адносінамі...»

Падымаюся пасля настаўніцы і прамаўляю прыблізна так (а быў, нагадаю, у самым развоі са сваёй палітыкай першы сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў):

— Мы атрымалі запіску. У ёй — катэгарычнае патрабаванне: «Пора кончать базар!» Намёк зразумелі. Аўтар яўна не ў ладах з тым, што дзеецца ў Савецкім Саюзе, ён адмаўляе рыначныя адносіны. Мы пагаворым у адпаведных інстанцыях наконт выхаваўчай работы ў вашай школе. З аўтарам жа запіскі размова будзе «на кароткіх хвалях».

Аняменне залы. Падбягае настаўніца: «Аддайце запіску мне!» Я ж: «Для нас гэта — рэчавы доказ...» Апусцела зала — паказаў і аддаў ёй ганебную паперку. «Не «лінчуйце» блазнюка, — папрасіў. — Думаецца, сённяшні яго ўчынак станецца навукай на ўсё жыццё для кожнага з прысутных». Бачу — адлягло ад сэрца ў настаўніцы: напалохалі мы і яе.

Умеў Даніла Канстанцінавіч зрабіць разумную падказку, зарыентавацца ў абстаноўцы. Помніцца, запрасілі нас у адну арганізацыю. Заходзім у кантору. На дошцы аб'яў вялікімі чырвонымі літарамі: «Сегодня состоится литературная встреча на тему: "Хлеб — всему голова!"» Усміхнуліся мы. Я, прызнацца, трошкі занепакоіўся. А ён: «Іван Сцяпанавіч, я раскажу, як бацька дбаў пра ўраджай, цікавіўся надвор'ем...» Доўжу яго план: «А я расшыфрую Коласаў псеўданім...» Спраўдзілі задуму на «выдатна». Зразумела, абышліся «не хлебам адзіным».

За вялікую прыемнасць меў я, калі нечым быў патрэбны яму. Мне Даніла Канстанцінавіч, бадай, першаму паказваў сваю пісь-

мовую прадукцыю. Як філолагу. Сам — дай Бог як разбіраўся ў літаратуры! Хімік па адукацыі, ён у сім-тым сумняваўся, таму і звяртаўся, бачыце, да «спецыяліста». Апошнія свае ўспаміны ўзгадняў Даніла Канстанцінавіч з дачкой Верай, якая прыйшла да нас на працу і даволі хутка заявіла пра сябе як пра здольную творчую асобу (заўважым, што па адукацыі таксама не філолаг: заканчвала Інстытут народнай гаспадаркі, цяперашні Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт).

Здзівіў ён мяне, дый, мусіць, усіх прысутных, за святочным музейным сталом з нагоды майго 60-годдзя. Павіншавала дырэктар, пахвалілі радавыя выступоўцы. «Дазвольце і мне сказаць слова!» — звярнуўся да святкоўцаў Даніла Канстанцінавіч, выняў з кішэні паперку, разгарнуў... «Заўсёды ж, — думаю, — абыходзіўся без шпаргалак...» Прамоўца прачытаў... верш «уласнай вытворчасці».

### Івану Сцяпанавічу Курбеку ў дзень 60-годдзя

Хто з нас не ведае Курбеку,
Што у музейцах век пражыў?
Аб гэтым слаўным чалавеку
Я невялікі верш злажыў.

Ён і чытальнік, і пісальнік,
І жартаўнік, і гумарыст,
І крыжаванак укладальнік,
І імітатар-парадыст.

Хай шмат гадоў жыве наш Ваня.
Здароўя, шчасця, сіл яму!
Мы дружна шлём яму вітанні,
Я ж чарку ўгору падыму.

Жыве ўвесь час Курбека Янка
Сярод людзей, сярод падзей.
Мы зробім добрую гулянку
Ў яго наступны юбілей!

*10.11.1994 г.*
*Літаратурны музей Якуба Коласа*

Наступны юбілей, на жаль, спраўляў я без шаноўнага віншавальніка — Данілы Канстанцінавіча не стала 7 ліпеня 1996 года.

Як дарагую рэліквію, захоўваю гэты верш сярод дакументаў. Відаць, тут мнагавата пахвалы. Але ж юбілей ёсць юбілей... А дзе юбілей, там і ялей...

У многіх добрых людзей, што ў розныя гады перажылі «круглыя» даты, думаю, на пачэсным месцы стаяць кнігі з аўтографамі Коласавага сына. Найчасцей віншаванні ішлі ад музейцаў-коласаўцаў. Звычайна я прыкідваў тэкст — празаічны ці вершаваны. Даніла Канстанцінавіч акуратным разборлівым почыркам рабіў запіс яго. Далей на чале з ім ставілі подпісы ўсе астатнія працаўнікі. Занямог ён — пісаў я, заходзіў да яго на кватэру і прасіў распісацца. Часам абмяжоўваліся адным подпісам Данілы Канстанцінавіча або нашым фірмовым — музейцы-коласаўцы.

За дзесяць дзён да скону шаноўнага старэйшага калегі быў я са сваёй кабетай у яго ў бальніцы (сам толькі што выйшаў з такой установы). Гнятлівыя, пакутныя хвіліны. Але ж праз немагату гаварыў і гаварыў... «Пражывіце вы кожны па столькі, як я... Глядзіце, каб усё было добра...» — яго запавет і сёння стаіць увушшу. Пры мне знаходзіліся два паасобнікі альбома «Якуб Колас у работах мастакоў» з маімі юбілейнымі надпісамі двум пісьменнікам: Міколу Гілю споўнілася 60, Генрыху Далідовічу — 50 гадоў. Улавіў момант, прачытаў словы, паставіў перпендыкулярна да грудзей адну, другую кнігу, і ён павольна і, адчувалася, замілавана вывеў літары свайго прозвішча. Гэта было апошняе дакрананне пішучай рукі вялікага беларуса да паперы.

Яго ў народзе ведалі і паважалі. Пачціва з ім віталіся пісьменнікі, вучоныя, артысты, мастакі, вучні, студэнты... Быў ён асобаю Асобай — адметнай, важкай постаццю ў беларускай культуры. Між сабой Данілу Канстанцінавіча мы, музейцы-коласаўцы, звалі скарочана — ДК. Яшчэ калі святкавалі яго 60-годдзе, мною ад імя калектыву быў напісаны верш-віншаванне, дзе пададзены абаяльны вобраз нашага дырэктара:

Вось так і сёння, як заўсёды,
Без узвышэння і прыкрас,
Мы з юбілейнае нагоды
Патурбаваць хацелі б Вас.

Але не дробяззю якою
(Хай яны пойдуць пад адхон!) —
Музейнай дружнай талакою
Прыносім нізкі свой паклон.

За Вашу ласку і спагаду,
За Ваша мудрае чало,
Што прытуліць былі Вы рады
І нас, калгаснае сяло.

І мы трапечамся, як можам,
Каб апраўдаць найлепш давер.
Калі з чым справіцца не гожы,
Чакаем шэфскіх Вашых мер.

Ды не такіх, каб стала млосна
І шуснуць прэгла ў вадаём.
Начальнік Вы зусім не злосны,
Хутчэй — мы жару Вам даём.

Спакоем Вашым, раўнавагай
Ой вельмі трэба даражыць!
Ну, дзе змаглі б мы, бедалагі,
Так у суладдзі, добра жыць?!

Таму і абрэвіятуру
З нас расшыфроўваць кожны рад:
ДК — выходзіць, Дом культуры.
А гэта азначае шмат...

Ва ўсіх у нас адзіны кліч:
Мы з Вамі розумам дужэй!
Даніла Канстанцінавіч,
Жывіце шчасна і даўжэй!

Адрасат віншавання пажыў пасля гэтага каля дваццаці двух гадоў...

## «РАДКІ КЛАДУЦЦА НА ДУШУ»

Найчасцей звалі яго пяшчотна і па-свойску — дзядзька Юзік. Як некалі і Коласа — дзядзька Якуб. Відаць, ім абодвум зваротак гэты пакінуў у спадчыну любімы дзядзька Антось.

І сапраўды, Іосіф Міхайлавіч вельмі нагадваў апекуна свайго маленства, славутага героя «Новай зямлі», з вобразам якога ўсе мы звыкаемся ў школьныя гады. Асабліва гэтае падабенства бачылася ў часе ягонай гутаркі з дзятвой.

Слухаюць школьнікі дзядзькаў расказ:
Баяцца маргнуць вачамі,
Ды толькі не могуць уявіць і на раз
Юзіка — дзеда з вусамі, —

пісаў малады паэт, жыхар вёскі Мікалаеўшчына Мікола Міцкевіч. Са школы памятаецца ён зусім інакшым — маленькім, гарэзлівым хлопчыкам.

Звычайна Іосіф Міхайлавіч гаворку так і пачынаў:

— Я з'яўляюся малодшым братам Якуба Коласа. У сваёй паэме «Новая зямля» ён не забыў упамянуць і аба мне:

А гэты Юзік-шаляніца,
Малы яшчэ, зусім дурніца,
Так пад нагамі і таўчэцца
Або, як хвост той, валачэцца
І ад работы адрывае
І толькі сэрца ад'ядае.

А таксама ў другім раздзеле, «За сталом», Колас успамінае мяне. Ён адзначае, як там у нас у тыя далёкія часы адбывалася снеданне. За сталом сядзелі старэйшыя дзеці, якія ўжо добра ўмелі валодаць лыжкаю. А нам, малым, давалі асобна на лаўку ці на калодачку. Вось Колас і піша:

Малыя — Гэля, Юзік, Ганна —
Асобна елі пастаянна.
Парадку дзеці не трымалі,
І іх ніколі не сціскалі,
Абы насоў не разбівалі;
Так, Юзік пальцам поркаў страву
І верашчакай мазаў лаву,
Але тут сёстры сердавалі
І залаб Юзіка цягалі.
Тады іх згода прападала,
Між імі бойка вынікала.
Пускаў тут Юзік лыжку ў дзела;
Не раз лабаціна трупцела
Ў сястрычак Гэлі ці Ганулі.
А сёстры Юзіка цягнулі
За вушы з двух бакоў і білі.
Але іх старшыя мірылі, —

На пожар злосці лілі воду
І замацоўвалі так згоду:
— Ну пацалуйцеся ж вы з браткам! —
І ўсё йшло зноў сваім парадкам.

Невялікі каментарый-перадых — мы зноў у палоне Коласавай паэзіі. З Міхалам нясём нялёгкую службу лесніка, дамагаемся ўласнага кавалка зямлі і хлеба, з дзядзькам Антосем варым клёцкі і падгледжваем пчол, едзем у Вільню, з Міхалавымі дзецьмі вучымся і весела бавім час.

Не заканчваў дзядзька Юзік якую-небудзь тэатральную ўстанову. У яго быў рэдкі дар — даносіць да людскога сэрца глыбіню і моц мастацкага слова. Умеў ён уступіць у кантакт з любой аўдыторыяй, знайсці адметныя, дастасаваныя да канкрэтных умоў «хады» і «звязкі».

Яшчэ пры жыцці Якуба Коласа Іосіф Міхайлавіч быў вядомы як папулярызатар творчасці народнага паэта. Не стала дзядзькі Якуба — дзядзька Юзік усяго сябе аддаў гэтаму высакароднаму занятку. Прыедуць на радзіму беларускага песняра людзі — хто лепш, чым ён, пакажа і раскажа?!

Хутар удовы пад гоман вод
Дрэмле, здаецца, суткі.
Жыве ў ім няштатны экскурсавод
Дзядзька Юзік альбуцкі.

*М. Міцкевіч*

З 1967 года, калі на хутары Смольня, паблізу ад Мікалаеўшчыны, адкрыўся філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа, дзядзька Юзік становіцца і штатным экскурсаводам. У кнігах водгукаў нямала шчырых, пранікнёных слоў — яму, цікаваму і самабытнаму праваднікү.

«Дзякуй Вам за Ваш хвалюючы расказ, за цёплыя словы, галоўнае — нізкі паклон Вам за тую добрую справу, якую Вы робіце, знаёмячы людзей з жыццём Якуба Коласа, за Вашу гарачую любоў да яго. Мы ведаем і любім творы Коласа, але Ваша чытанне прымусіла нас па-новаму паглядзець на іх, палюбіць іх яшчэ больш», — прызнаюцца турысты Усесаюзнага маршруту турбазы «Высокі Бераг».

Такімі ж пачуццямі напоўнены і запіс студэнтаў Брэсцкага педінстытута:

«Паважаны Іосіф Міхайлавіч! Шчыра дзякуем Вам за цікавы расказ пра народнага паэта. У нашай памяці надоўга застануцца тыя цудоўныя хвіліны, якія мы правялі з Вамі».

«Нас глыбока крануў расказ Іосіфа Міхайлавіча пра жыццё і творчасць яго брата», — пішуць работнікі Мінскага завода медыцынскіх прэпаратаў.

«З хваляваннем хадзіла па музеі... Вельмі ўдзячная брату Коласа — Юзіку Міцкевічу — за разумны і тонкі расказ, за глыбокую дабрыню і шчырасць. Знаёмства з ім расцэньваю як гістарычнае, таму што ніхто так добра не мог бы мне расказаць пра вялікага народнага паэта Коласа, як яго родны брат», — заначыла ў 1973 годзе карэспандэнт газеты «Советский спорт» Арэшкіна.

«Вялікі дзякуй за экскурсію! Добрага Вам здароўя, Іосіф Міхайлавіч!»— жадаюць землякі Льва Талстога.

Я помню той час, калі ў Смольні яшчэ не было філіяла музея і дзядзька Юзік сустракаў экскурсантаў і вёў пад ліпы, тыя самыя, што пасадзіў некалі малады Колас. Рассаджваліся на лаўках, а калі не хапала каму месца, проста на траве. Потым дзядзька Юзік пачынаў расказваць — чытаць на памяць раздзелы з «Новай зямлі». І дзіўна — не было фатаграфій, малюнкаў, а перад вачыма адна карціна змяняла другую, і кожная пераліvалася, іграла сваімі фарбамі, і кожная што-небудзь ды пакідала ў душы — то замілаванасць і ласку, то боль, то весялосць, то смутак... Было такое адчуванне, што не дзядзька Юзік, а сам Колас водзіць цябе па сцежках свайго маленства, знаёміць з героямі сваёй паэмы — з бацькамі, з дзядзькам Антосем, з братамі і сёстрамі.

Пазней, калі адкрыўся філіял музея, не раз я чуў Іосіфа Міхайлавіча як павадыра наведнікаў па экспазіцыі. Вось падышла новая група школьнікаў, і ён знаёміцца з імі. Распытвае, адкуль прыехалі, у якім класе вучацца. І так рабіў заўсёды. Не проста дзеля цікаўнасці, а для таго, каб з першых хвілін гутарка была і шчырая, і сур'ёзная і каб ведаць, які раздзел з «Новай зямлі» прачытаць на памяць. У другім пакоі працуе з групай экскурсантаў загадчык філіяла Уладзімір Іванавіч Міцкевіч. Але гэта не перашкаджае дзецям слухаць дзядзьку Юзіка. Яны не зводзяць з яго вачэй — затаіўшы дыханне, ловяць кожнае слова. Міла смяюцца, слухаючы радкі пра «дарэктара»:

> І нізавошта па вячэры
> Не смеў ён выйсці вон за дзверы;

А перад тым, як спаць лажыцца,
Ён мусіў к хлопцам паддабрыцца,
І хлопцы цёмнаю парою
Ішлі на двор з ім грамадою
І там стаялі, не йшлі ў хату,
Пакуль з натурай меў расплату.
Затым у запек шлі і спалі,
Туды ж і Яську яны бралі..
Ён у сярэдзіне лажыўся,
Ляжаў маўчком, не варушыўся,
Абы не легчы толькі з краю:
— Бо я з вас коўдру пасцягаю.
Якое ж будзе вам тут спанне? —
Казаў наш Яська ў апраўданне.

З пакоя ў пакой, з аднаго дзесяцігоддзя ў другое вядзе дзяцей Іосіф Міхайлавіч. Наступае час расставацца. Школьнікам — ісці далей сваім маршрутам, а яму — зноў пачынаць гутарку. На двары чакае новая група экскурсантаў. Доўга яшчэ будуць дзеці ўспамінаць жывога дзядзьку Юзіка. Не забудуць і слоў, сказаных ім на развітанне. Ён жадае:

— Добрага вам здароўя, найлепшых поспехаў у вучобе, у далейшай вашай працы на карысць нашай слаўнай беларускай старонкі!

Нарадзіўся Іосіф Міхайлавіч Міцкевіч, малодшы з братоў Якуба Коласа, у 1895 годзе. Сям'я ў бацькі была вялікая, і Юзік рана ўцягнуўся ў нялёгкую сялянскую працу. Ад дзесяці гадоў пасвіў каровы, пазней ганяў па Нёмане плыты, дапамагаў дзядзьку Антосю, які вёў гаспадарку, бо бацька, Міхал, амаль не стыкаўся дома, увесь час быў заняты на службе — ахоўваў лес князя Радзівіла. Вучыцца прыходзілася толькі прыхваткамі. Юзік закончыў народную школу ў вёсцы Мікалаеўшчына, паступіў у гарадское Стаўбцоўскае вучылішча. Але неўзабаве вымушаны быў перарваць вучобу і зноў заняцца гаспадарчымі справамі. А там пачалася імперыялістычная вайна, і яго забралі на фронт. Нясоладка жылося і пад акупацыяй буржуазнай Польшчы. Нядоўга цягнуліся дні пасля вераснёўскіх падзей 1939 года. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Хапала клопатаў і пасля перамогі над гітлераўскімі захопнікамі. Яго, Юзіка, выбралі першым старшынёй калгаса «Радзіма Якуба Коласа».

Пра ўсё гэта Іосіф Міхайлавіч экскурсантам звычайна не расказваў. Ён ведаў — людзі прыйшлі да Коласа, і пра Коласа — яго жывое, шчодрае слова...

Правёўшы групу, дзядзька Юзік выходзіць на двор, садзіцца на лаўку пад ліпамі, знаёміцца з новымі наведнікамі.

— Пачакайце трошкі, дарагія дзеткі! — гаворыць ён. — У музеі зараз многа людзей, цесна, перашкаджаць будзем. Пасядзім тут, у цяньку пад ліпамі. А каб не сумна было чакаць, пачытаю вам я Коласава апавяданне «Калодка пчол».

Падышла яшчэ адна чародка экскурсантаў, і дзядзькі Юзіка ўжо не відаць за людзьмі. Чуваць толькі яго зычны голас...

З любоўю пра свайго слыннага земляка гаворыць Алесь Камароўскі:

А дзядзька «Юзік-шаляніца» —
Гатоў яму я пакланіцца —
Падкруціць хвацка свае вусы:
— Не ўсе звяліся беларусы! —
На вёску родную пакажа:
— Ды жыць тут — шчасце, а не гора,
А маладых вось цягне горад.
Яно, вядома, не прывяжаш...
Не любіць дзядзька наш вусаты,
Калі прыходзяць экскурсанты,
Каб паказаў з жыцця паперы...
Ён не дае паперам веры:
— О-ёй, браткі, ці ж хіба гэта
Музей народнага паэта?
Музей яго — той бераг з дубам,
Кароў там пасвілі з Якубам,
І гэты Нёман, стужкай сіняй
Які уплёўся ў косы лугу:
Плыты мужчыны — кожны зухам! —
З Мікуліч гналі ў дождж і сівер.
А гэты лес, а гэта жыта?
Тут з імі ўсё жыццё пражыта.

Прапагандаваў Якуба Коласа дзядзька Юзік і «з адрывам ад вытворчасці». Я сотні разоў выступаў з ім. Перад рознымі аўдыторыямі. Як ад'ютант Яго Вялікасці. Рабіў невялікае ўступнае слова — пра Коласа і пра яго самога. Пасля «ўключаў» Іосіфа Міхайлавіча. Той гожа і натхнёна пракручваў «пласцінкі

сваёй памяці». І ўсюды — любоў і ўдзячнасць за прынесеную радасць і асалоду.

Часта слухачы задавалі пытанне:

— Як Вы так многа ведаеце на памяць?

А ён у адказ:

— Бачыце, гэта ўсё сваё, перажытае...

Перажытае... Вядома, «Новая зямля» — каронны нумар гэтага няўтомнага чытальніка. Але ж шмат якія іншыя творы брата — і паэтычныя, і празаічныя — захоўваліся на «паліцах» ягонай памяці. Выдатна чытаў Іосіф Міхайлавіч Купалу, Крапіву, Шаўчэнку, Пушкіна, Чэхава, Міцкевіча...

— Як Вы не стамляецеся так доўга чытаць?

— А гэта ж не сячкарню круціць, не цэпам мянціць і не з касою завіхацца!..

Падносілі кнігу водгукаў. Госць чынна занатоўваў уражанні ад сустрэчы. Прыгожым, пісарскім почыркам. І нязменна сведчыў: «Юзік-Шаляніца». Слова «шаляніца» заўсёды пісаў з вялікай літары.

5 мая 1980 года Іосіфа Міхайлавіча не стала. Застаўся ён у фотаздымках, фоназапісах, кінакадрах, у людской памяці.

— Люблю запамінаць тое, што кладзецца на душу, — гаварыў ён. Літаратурныя радкі, «агучаныя» дзядзькам Юзікам, ласкотна і ўзрушальна клаліся і кладуцца і на нашу, слухачовую душу.

Гаворку пра свайго старэйшага, шаноўнага калегу, самабытнага прапагандыста роднага слова закончу ўрыўкам з верша земляка дзядзькі Юзіка — паэта Міколы Маляўкі:

Сцежка на падворку то вузее,
То зусім знікае ў снегапад:
Стала хата дзядзькава музеем,
А зайцы ўзялі ў арэнду сад.
Памяць, затуманеная скрухай,
Праясніцца, як вада ў рацэ.
Бачу дзядзьку з сеткаю-таптухай,
Бачу дзядзьку з вудай у руцэ.
Сэрца цешыць раніца святая,
Шчупакоў цягае —
І пытае:
«Ці дзе на свеце ёсць такая,
Як Нёман, рэчанька другая?..»
Ён і жыў пры Нёмане заўсёды,
Палюбіўшы змалку гэты кут.

І было ў ім штосьці ад прыроды,
Мудрай, шчодрай і прыгожай тут.
Захавальнік Коласавай спадчыны,
Дзядзька Юзік сам без слова смяг:
Ведаў ён паэмы ўсе на памяць,
Ведаў і агучваў іх, як маг.
Постаці герояў, ім разбуджаных,
Ціха набліжаліся здаля —
І кругом, у Смольні і ў Альбуці,
Ажывала «Новая зямля»...

## СЯСТРА ВЯЛІКАГА ПАЭТА

Ціха, мірна, неўпрыкметку жылі пры Літаратурным музеі Якуба Коласа ў Мінску двое паважаных людзей — Алена Міхайлаўна і Міхаіл Іванавіч Лойкі. Сястра народнага паэта з мужам. Шчыра неслі яны песняру сваю журботную даніну: дбайна даглядалі і ахоўвалі гэты святы куток Беларусі. Гаспадарыў на сядзібе неўгамонны Міхаіл Іванавіч — то падмятаў двор, то «лячыў» дрэвы ў садзе, то наводзіў парадак пад паветкай. Не сядзелася ў хаце і Алене Міхайлаўне: палівала кветкі (музей павінен выгляд мець прыгожы!). За межы сядзібы выходзіць не адважвалася: не тыя сілы. Дый, сказаць па праўдзе, не было патрэбы. «Інтэнданцкія» функцыі паспяхова праўляў Міхаіл Іванавіч. Не зважаючы на даволі шаноўны ўзрост, ён пачуваў сябе добра.

Мы, работнікі музея, ганарыліся, што працуем з сястрой слыннага чалавека. Хваліліся гэтым і наведнікам. Тыя прагна прасілі сустрэчы з ёю. Алена Міхайлаўна ахвотна выходзіла да людзей. Апавядала пра долю «новазямельцаў», пра свой і братаў родны кут. Гаворку пачынала звычайна так:

— Брата свайго я добра помню, калі мне было пяць гадоў. Тады ён пайшоў вучыцца ў настаўніцкую семінарыю. Гэта ў Нясвіжы. Адтуль пісаў нам пісьмы, а на канікулы прыязджаў дадому. І часта з кім-небудзь са сваіх сяброў. Па месяцу яны бывалі ў нас. Елі асобна ад сям'і. Няёмка за адзін стол саджаць гасцей (дзятвы ж было многа!).

Калі прыязджаў Костусь, да яго заходзілі хлопцы і дарослыя мужчыны. Ім ён любіў расказваць казкі, анекдоты, чытаць

цікавыя кнігі. Сябры звалі Костуся «Стары». Зойдуць у хату і пытаюць:

— А дзе «Стары»?

Запытвалі слухачы, як да Коласа ставіліся ў сям'і, і чулі ў адказ:

— Дома ўсе Костуся любілі і паважалі. Раз Уладзя (самы старэйшы наш брат) падвыпіў з хлопцамі, прыйшоў дадому і трошкі разбушаваўся. Праўда, не біўся, не лаяўся. Вазіўся з сабакам, дурэў. Усе пачалі яго супакойваць. Анічагусенькі не памагло. Як толькі з'явіўся Костусь і сказаў адно слова — адразу ўціхаміраўся. Яго нельга было не паслухацца. Меў ён да кожнага разумны падыход.

— А чым, скажыце, Алена Міхайлаўна, Якуб Колас займаўся, калі прыязджаў на канікулы?

— Костусь вельмі любіў касіць. З дзядзькам Антосем яны заўсёды хадзілі ў пары. А збіраць грыбы — найпершы ахвотнік! Устане, бывала, раненька, возьме кошык і — у лес. Браў толькі баравікі, і не абы-якія, а цвёрдыя, маладзенькія.

Хараша Костусь іграў на скрыпцы. Іх вучылі ў семінарыі. А Уладзя — на гармоніку. Сам па сабе. Дык яны выйдуць, помню, вечарам, сядуць на двары і як зайграюць! Рэха разлягаецца навокал. Назаўтра хто прыйдзе з Акінчыц: «Малайцы, хлопцы! Дзякуй за канцэрт!» Наогул у нас у сям'і любілі музыку, песні. Усе ўмелі спяваць. Я нават у хоры царкоўным была. У Мікалаўшчыне.

У сям'і нашай найбольш любілі ўсё беларускае. І цяпер я, калі пачую па радыё ці тэлевізары тыя песні, здаецца, напісала б удзячнасць за гэта.

Ці раз мы, супрацоўнікі музея, слухалі яе разам з наведнікамі і ў асабістых гамонках. І заўсёды, бывала, пачуеш нешта новае, дасюль невядомае пра Міцкевічаў род, пра самога песняра. Сяды-тады гаварыла і пра асабістае жыццё:

— У 1913 годзе я выйшла замуж за Лойку Міхаіла Іванавіча (родам з Мікалаўшчыны). Ён адслужыў армію, жылося бедна, не было куды падзецца. Дык мы ўзялі і паехалі ў Данбас, у Горлаўку. Там жыла старэйшая мая сястра Міхаліна. Яна ў нас пасля Коласа. А на чыгунцы ў Горлаўцы працаваў інжынерам Радкевіч (таксама з Мікалаўшчыны). Майго Міхаіла ён узяў да сябе ў кантору. Там многа, у гэтым горадзе, было мікалаўцаў. Радкевіч купляў кнігі, сшыткі і вучыў сваіх землякоў. Многім слаў у вёску грошы. Вельмі людскі чалавек быў.

— А з радзімай вы трымалі сувязь?

— Вялі трывалую перапіску з домам. Пасля — рэвалюцыя. Калі Колас у 1921 годзе пераехаў з Куршчыны ў Мінск, я вырашыла з'ездзіць да яго.

Жыла я ў Коласа нешта з месяц і многа чаго цікавага пабачыла. Ніводнага сына ён і пальцам не кранаў. Абыходзіўся з імі, як з дарослымі. Як некалі з намі дзядзька Антось. І хлопцы яго вельмі слухаліся. Юрка (сярэдні сын, той, што загінуў на фронце) страшэнна любіў кіно. Дык хлопцу не сядзелася.

— Цётка Лена, пойдзем з вамі, бо мяне аднаго не пусцяць.

— Нікуды не пойдзеш: дрэнна спіш ноччу, — запярэчыў бацька. Той заплакаў, але распрануўся. Вярнуліся, а ён сядзіць і мірна чытае кнігу. Толькі папрасіў, каб расказалі, як там было.

Пасля яшчэ прыязджала да Якуба Коласа. Была каля двух месяцаў. Лячыла ногі ад раматусу. Колас мяне да харошых дактароў давёў. Помню, прыехала апоўначы. Падышла і ў брамку стукаю. За ёю як усхадзіўся сабака! А я ціхенька-ціхенька стукаю. Выйшла Марыя Дзмітрыеўна, адчыніла.

Колас:

— Хто гэта як тры дні не еў?

Марыя Дзмітрыеўна гаворыць:

— От каб трошкі раней. Былі ўкраінскія пісьменнікі...

У 1926 годзе Марыя Дзмітрыеўна запрасіла на Коласаў юбілей. Паехала я адна, бо мужу не было як вырвацца па рабоце. У Харкаве праз акно бачу Алеся (старэйшага брата). Ён працаваў непадалёку адтуль, на станцыі Юсупава. Ехаў у суседнім вагоне. Я папрасіла праваднiка паклікаць брата да мяне. Да Мінска ехалі разам. Сустрэў сам Колас. Ідуць яны з Алесем паперадзе, размаўляюць, а я за імі. І Колас не бачыць мяне (я не паведамляла аб прыездзе). Чую — Алесь:

— Тут жа і Лена.

— Што ж ты маўчаў?..

Была яшчэ два разы ў Коласа да вайны — у 1939 і 1940 гадах. Разам з мужам. А там вайна. І ўсё перарвалася.

Асабліва падабалася Алене Міхайлаўне братава жонка. Яе ўспамінала яна заўсёды з лёгкай радаснай слязою:

— Гэта быў залаты чалавек. Не магу спакойна ўспамінаць. Такая добрая, разумная. І да дзяцей, і да Коласа, і да ўсіх людзей. Жылі яны вельмі дружна. Шанавала яна Коласа. А ён яе таксама. Каб не такая жонка брату надарылася, то, можа, ён і такім вялікім не стаў бы. У кожны мой прыезд Марыя Дзмітрыеўна надта ж хараша мяне даглядала. Гаварыла заўсёды па-беларуску. Яшчэ да рэвалюцыі, кажуць, зойдзе ў краму і пачне што-небудзь

пытацца. А прадаўцы: «Як гэтай маладзіцы пасуе беларуская мова!» І дзяцей навучыла любві да роднага, да людзей. Сыны (усе тры — Даніла, Юрка, Міхась) былі выхаваныя хлопцы. Паважалі старэйшых.

Для нас, музейцаў, Алена Міхайлаўна была жывой гісторыяй, неацэннай падмогай у прапагандысцкай дзейнасці. Успаміны сястры вялікага паэта спрыялі даследчыкам роднай літаратуры ў вытлумачэнні шмат якіх момантаў з жыцця і творчасці Якуба Коласа. Згадаем, напрыклад, каментарый да «Сымона-музыкі», пададзены ў 12-томным Зборы твораў песняра. Гэта яна, Алена Міхайлаўна, «рассакрэціла» факты, што ляжаць у аснове паэмы. Якуб Колас, аказваецца, чуў у Альбуці ад старога жабрака такую гісторыю:

«Маленькага хлопчыка ўсе ў вёсцы лічылі як бы трохі не ў розуме. Ён іншы раз пытаўся пра такое, што ўсім здавалася дзіўным і незразумелым. Ён вельмі любіў музыку і ўмеў добра іграць. Хлопчык аказаўся дрэнным пастухом, за што не раз даставалася ад бацькі. І толькі адзін селянін з іх вёскі заўжды заступаўся за малога. Аднойчы пасля нейкага здарэння з авечкамі бацька пабіў сына. Пакрыўджаны хлопчык сышоў з дому. Нейкі жабрак (але не той, які расказваў гэту гісторыю) падабраў малога. Пазней хлопчык папаў да пана ў замак. Але паны нічым не дапамаглі яму. Пасля таго як, пабываўшы ў замку, зноў стаў жабраваць, яго і сустрэў той стары, ад якога Колас і пачуў гэту гісторыю. Дзед адмаўляў, што ён жабраваў разам з хлопчыкам. Ён гаварыў, што толькі сустракаўся з малым, калі той жабраваў, і другі раз — пасля замка. Вялічанькі такі, кажа, стаў, змяніўся, што і пазнаць цяжка. Вось у час гэтай другой сустрэчы хлопчык і расказаў дзеду аб сваім жыцці».

— Цяжка ўспамінаць усё, — гаварыла ці раз Алена Міхайлаўна і злёгку хусцінкай працірала завільготненыя вочы. — Настаў ціхі час. Я шлю і шлю пісьмы. На імя Марыі Дзмітрыеўны. Няма адказу. Нарэшце, прыходзіць ад Коласа пісьмо: «Як ні цяжка, але Марыі Дзмітрыеўны ўжо няма...» Болем разанулі гэтыя словы.

Апошні раз мы наведалі Якуба Коласа недзе за год да яго смерці. Сыны Даніла і Міхась былі жанатыя ўжо. І ў Коласа з'явіліся ўнукі — Сяргей, Андрэй, Маша.

Увесь час жылі мы ў Горлаўцы. Якуб Колас запрашаў пераехаць у Мінск. Неяк не адважваліся. Усе ж звыкліся з горадам, з людзьмі. Столькі працавалі там! Не стала брата — яго сын, Даніла Канстанцінавіч, настойліва пачаў пісаць і прасіць прыехаць. Так мы апынуліся ў Мінску.

Больш за дваццаць гадоў жыла паэтава сястра з мужам пры музеі. Памерла Алена Міхайлаўна ў 1980-м. А праз два гады назаўсёды нас пакінуў Міхаіл Іванавіч. Пахаваны абое на радзіме Якуба Коласа, на могілках, дзе вечны супакой знайшлі амаль усе Міцкевічы.

## СТАРЭЙШАЯ З КОЛАСАВЫХ СЯСЦЁР

Па часе нараджэння ў сям'і яна, Міхаліна, ішла пасля Костуся. Жыла ў Мікалаеўшчыне пры сыне паблізу Смольні. Часам наведнікі, даведаўшыся пра недалёкае знаходжанне яшчэ адной галіны Міхалавага дрэва, імкнуліся туды, пад памятную хату. І Міхаліна Міхайлаўна выходзіла да людзей. Выходзіла, каб прынесці, ім радасць і незабыўнасць сустрэчы. Спаважнай хадою, нетаропкасцю гаворкі вельмі нагадвала свайго вялікага брата. Падабенства бачылася і ў абліччы. А слухаць яе было, вядома ж, прыемна. Дый нават каб нічога не сказала... Толькі паглядзець! Гэта ж — сястра Якуба Коласа! Маладзейшая за брата на пяць гадоў, яна добра запамятала яго дзяцінства і юнацтва. Магла прыгадаць шмат якія моманты з біяграфіі народнага паэта. Людзі прагна слухалі і удзячныя пакідалі сядзібу нецярпліва азіраючыся і ветліва махаючы рукой здаля. Гаспадыня ж маўкліва стаяла за плотам і лагодным позіркам праводзіла гасцей.

Яе сын, Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, быў загадчыкам філіяла Коласаўскага музея. Ягоная хата сталася ў тыя часы як бы філіялам філіяла, а маці, сястра Якуба Коласа, жывой рэліквіяй.

Цікавыя звесткі з жыцця песняра перадала Міхаліна Міхайлаўна многім наведнікам коласаўскіх мясцін. Засталіся яны і на паперы. Да 80-годдзя з дня нараджэння народнага паэта ў часопісе «Маладосць» быў змешчаны вялікі артыкул С. Александровіча, А. Лойкі і Ю. Пшыркова паводле ўспамінаў брата і сёстраў Коласа. Пазней ён увайшоў у зборнік «У сэрцы народным». У фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа захоўваюцца яе асобныя ўспаміны, запісаныя сынам.

Пражыла Міхаліна Міхайлаўна 90 гадоў.

# З ДУМАЙ ПРА ПЕСНЯРА

Розныя почыркі. Характары. І — душэўнае паяднанне. Усе ў нізкім паклоне схіляюць галовы перад зямлёю, што дала свету вялікага Коласа. І, вядома ж, словы ўдзячнасці выказваюць музейнаму павадыру, загадчыку філіяла Коласаўскага музея пляменніку Коласа Уладзіміру Іванавічу Міцкевічу.

«Шчыры і сардэчны чалавек, ён з вялікай любоўю расказаў пра Якуба Коласа, — усхвалявана гавораць вучні 156-й школы Мінска. — Хочацца пажадаць яму добрага здароўя, падзякаваць за тыя светлыя хвіліны, якія мы правялі тут, у гэтых дарагіх для кожнага беларуса мясцінах».

«Дзякуй Уладзіміру Іванавічу, які прывіў яшчэ раз любоў да роднага кута, да нашай Беларусі, да сваёй мовы», — пішуць вучні Крупскай сярэдняй школы № 2.

І так скрозь. Сардэчныя запісы пакідалі ў кнізе водгукаў і людзі дарослыя.

«Мы вельмі ўдзячны Уладзіміру Іванавічу за змястоўны і цікавы расказ аб жыцці і творчасці Якуба Коласа, — заяўляюць работнікі Будбанка БССР. — У час экскурсіі мы не толькі папоўнілі веды пра паэта, але і прасякнуліся той цеплынёй, з якой беларускі пясняр любіў свой родны кут, увесь край».

Падчас гастроляў на Стаўбцоўшчыне святыню Беларусі не прамінула група артыстаў-купалаўцаў, удзельнікаў спектакля «Верачка» (па п'есе А. Макаёнка). У кнізе водгукаў засталіся словы:

«Яшчэ раз з вялікім хваляваннем і задавальненнем пабывалі на роднай зямлі незабыўнага песняра беларускага народа. Яшчэ раз з вялікай увагай паслухалі цікавы расказ загадчыка музея Уладзіміра Іванавіча Міцкевіча».

А гэта ўражанні студэнтаў з ГДР:

«Сардэчны дзякуй за экскурсію па музеі. Нам асабліва было прыемна пачуць тлумачэнні на нямецкай мове».

Так, наведнікаў з Германіі Уладзімір Іванавіч звычайна «анямечваў». Гэтай моваю валодаў дасканала. Да музейнай службы выкладаў яе ў Мікалаеўшчынскай сярэдняй школе, што носіць імя песняра. Быў стваральнікам першага ў рэспубліцы Коласаўскага музея пры сваёй роднай школе.

Дваццаць гадоў рупіўся Уладзімір Іванавіч на ніве беларускай культуры, узначальваючы філіял Літаратурнага музея Якуба Коласа. У 1965 годзе атрымаў прызначэнне на пасаду загадчыка, 8 чэрвеня 1967-га прыняў гасцінна першых наведнікаў.

Апроч прапаганды творчасці песняра (правядзенне экскурсій, выступленні з гутаркамі па-за сценамі музея і ў друку), У. Міцкевіч вёў карпатлівую збіральніцкую работу — ашчадна запісваў успаміны родзічаў і мясцовых вяскоўцаў пра свайго слыннага дзядзьку. Ён удакладніў паасобныя факты з біяграфіі вялікага пісьменніка. Чынны ўдзел браў у розных мерапрыемствах па ўшанаванні памяці песняра.

Не стала Уладзіміра Іванавіча Міцкевіча 1 сакавіка 1991 года. Яму было 87 год.

## АПОШНЯЯ СЯСТРА ПЕСНЯРА

Жыла, векавала яна ў слыннай Мікалаеўшчыне — Марыя Бруй. Была апошняй, трынаццатай, з дзяцей Міхала і Ганны Міцкевічаў. Прыязна і пачціва ставіліся да яе мясцовыя жыхары. Як да лагоднага, душэўнага чалавека. А яшчэ — і як да сястры Якуба Коласа.

Прыязджалі на радзіму народнага песняра людзі. Знаёміліся з тутэйшымі мясцінамі, з матэрыяламі філіяла музея. Некаторыя, больш цікаўныя, завітвалі і да Марыі Міхайлаўны. І яна, узрушаная такой павагай, ахвотна аддавалася ўспамінам. Прыгадвала даўно мінулыя гады, найперш жыццё-быццё сям'і Міцкевічаў.

— Ну што вам расказаць? — звычайна перапытвала-развважала гаспадыня. — Адразу ці ўсё ўспомніш...

І праўда, знарок не рыхтавалася ж Марыя Міхайлаўна да выступлення, нідзе ніколі не трымала прамоў. Так, каля дому, «па заяўках» прыезджых, паміж дзённаю турботнасцю і разварушыць сваю памяць.

Паўставалі далёкія часы, калі за літаратурную дзейнасць, за прапаганду рэвалюцыйных ідэй сярод насельніцтва Палесся і за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе Якуб Колас быў асуджаны царскімі ўладамі да трох гадоў турэмнага зняволення, якое адбываў у мінскім астрозе.

— Помню, ездзілі з мамай да Коласа ў турму. Першы раз не пусцілі. Паехалі зноў. Людзей там!.. І мацеркі, і жонкі папрыязджалі. Усе плачуць. А наша мама — ні слязіны. «От за гэта, — кажа Колас, — і люблю цябе, матуля. Вельмі ж цяжка глядзець на людскія слёзы...»

Марыя Міхайлаўна супыняецца на хвіліну і ўжо больш ажыўлена працягвае:

— А як брата праследавалі (яшчэ да няволі), часта прыязджаў ураднік. Я малая была. Мо, думае, скажу што. «Ты ўмееш спяваць песні?» — пытае. «Умею», — адказваю. І заспявала «Мы жертвою пали». Нехта мне міргнуў. Я і сціхла. Яшчэ раз заявіўся, цукерак даў. «Ну, а што болей ты ведаеш?»

Развялося стражнікоў,
Як якой жывёлы,
Ад іх плешак і шнуркоў
Чырванеюць сёлы.

Урэзала і пайшла.

Апавядальніца дабрадушна смяецца. Яе настрой падзяляюць слухачы.

Рухавасць думкі, гарэзлівасць заўсёды былі ўласцівы сястры Коласа. Свой расказ яна нязменна перасыпала дасціпнымі жартамі. Часам для паўнаты гаворкі і песню завядзе. Найчасцей — беларускую народную... Не абыходзілася, зразумела, і без дэкламацыі братавых вершаў. Іх на паліцах памяці Марыі Міхайлаўны захоўвалася багата. Выдатна чытала самадзейная артыстка Купалу, Крылова, Пушкіна.

Здзівіла некалі паэтава сястра сваёй фенаменальнай памяццю С. Александровіча, А. Лойку і Ю. Пшыркова падчас запісу яе ўспамінаў пра Якуба Коласа. Сваё захапленне расказчыцай даследчыкі выказвалі ў друку.

Гэтак жа запаланіла калісьці яна і маіх калег — дырэктара Зінаіду Камароўскую і інжынера Барыса Іванова. Паехалі мы павіншаваць Марыю Міхайлаўну з 90-годдзем. Далучыліся і мясцовыя нашы сябры — загадчык аддзела культуры райвыканкама Анатоль Грэкаў, загадчык філіяла Коласаўскага музея Мікалай Семяняка, навуковец філіяла Юрка Міцкевіч (унук славутага дзядзькі Юзіка). Плюс юбілярка і яе дачка. Вось і ўся кампанія.

— Анюта, у шафе ж стаіць бутэлька. Хутчэй даставай! — міла прыкрыкнула на дачку Марыя Міхайлаўна.

І пачалося віншаванне і частаванне. Мы ўсе толькі слухалі і стараліся хоць што-небудзь «загнаць» у памяць. Мае калегі-мінчане весела ўсміхаліся, зачаравана пераглядваліся між сабой («Дасканала, дасканала! Вось дзе талент захаван!») і зайздросна пазіралі на мяне як на бывалага слухача гэтага самародка.

І, вяртаючыся ў сталіцу, ніяк не маглі супакоіцца ад нечуванага захаплення.

...Ніколі не забывалася ёй першая сустрэча Коласа з Купалам. Гэта яна, дванаццацігадовая Маня, бегала з хутара Смольні ў Мікалаеўшчыну клікаць Костуся. Маці не ведала, як лепей дагадзіць шаноўнаму госцю, якую пасцель паслаць хлопцам на вышках. Ды збянтэжанасць гаспадыні зняў Купала:

— Нічога, каласок пад галаву — пераспім. Людзі мы прывычныя...

...Роўна два месяцы не дацягнула Марыя Міхайлаўна да 95-ці: 5 кастрычніка 1995 года пайшла на вечны спачын.

Шмат людзей было на пахаванні. Мясцовыя жыхары, кіраўнікі Стаўбцоўскага райвыканкама, музейцы-коласаўцы, прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў. Прыехаў малодшы сын народнага песняра Міхась Канстанцінавіч (старэйшы, Даніла, невылечна хварэў). Казаліся журлівыя словы. Пісьменнік Яўген Хвалей, зямляк нябожчыцы, прачытаў верш «На смерць М. М. Бруй»:

Прыціхла ўсё, і вецер не абудзіць
Сон пажаўцелых вербаў, траў.
Апошні каласок з палёў альбуцкіх
На бераг Нёмана ўпаў.
Замкнуўся круг — о, як яму паверыць?!
Зямля ў лістоце, быццам у слязах.
Здаецца, брат адчыніць з жахам дзверы
І ў роспачы памкнецца зноў назад.
Бо тонкай павуцінкай легкакрылай
Мог век наступны іх звязаць...
«Мой родны кут, як ты мне мілы!» —
Было каму тут за яго сказаць...

## КНІЖНЫ І БРОНЗАВЫ

Вось ужо колькі гадоў мінчане і госці беларускай сталіцы ўважна і задумна аглядаюць велічны помнік, што ўзвышаецца на плошчы імя Якуба Коласа. Аглядаюць і ўспамінаюць векапомныя творы песняра. А гэтаму спрыяюць два дуэты герояў, што размясціліся паабапал свайго творцы — народнага паэта. Злева — Сымон-музыка і Ганна, справа — дзед Талаш і яго сын Панас. Трывожнасць і насцярожанасць пагляду ўдалячынь, напружанасць волі змагара перадаюцца і нам. Панас таксама ў трывозе. Ён паказвае бацьку: «Вунь, там ворагі! Я іх бачу!..»

Так, любімыя са школы героі Коласавай «Дрыгвы» са старонак кнігі сышлі на плошчу, каб у бронзе набыць яшчэ адну вечнасць. А яны ж рэальныя ў жыцці людзі. Быў такі дзед Талаш, быў і яго сын Панас. Простыя сяляне-палешукі. Працавітыя і сціплыя. Але ж гордыя і непахісныя духам. Знакаміты скульптар, народны мастак СССР, аўтар помніка Заір Азгур гэтак вытлумачваў сваю задуму: у вобразах Сымона і Ганны хацеў паказаць душэўнасць, музыкальнасць характару беларусаў, у вобразах дзеда Талаша і Панаса — мужнасць, гераізм народа.

Мне пашчасціла знацца з Талашом-малодшым. А «раскапаў» яго я пад час камандзіроўкі на Гомельшчыну ў 1974 годзе. Мой добры знаёмы паведаміў:

— Слухай, нядаўна ляжаў я ў бальніцы з сынам Талаша.

— З сынам Талаша?! — здзівіўся я. Прызнацца, брыдкавата стала: музеец-коласавец, ■ не ведаю пра нашчадкаў легендарнага дзеда...

Радасны і ўсхваляваны, вярнуўся ў Мінск. Узяў камандзіроўку, «узброіўся» фотаапаратам і — на Петрыкаў! Для чыннасці зайшоў да раённага кіраўніцтва. Мяне ахвотна (госць жа — са сталіцы!) забяспечылі «коламі», і я неўзабаве апынуўся ў Навасёлках, у тых самых, што апісаны ў аповесці, дзе жыве мой шаноўны адрасат.

— Адкуль ты ўзяўся? — наўпрост бесцырымонна звярнуўся да мяне гаспадар.

— Ды Вас кожны хоча бачыць. Вось і я прыехаў з Мінска.

Суразмоўца мой, не спыняючы хады:

— Недзе, здаецца, бачыў я цябе. Але ж ці ўсіх запомніш. Былі і ўчора, і заўчора... Прыязджаюць адусюль. Найбольш маладыя, піянеры. Ды ўсё — як дзед Талаш ваяваў, што потым рабіў. Дайце што-небудзь ягонае. І пааддаваў — кісет, шапку, ножык складаны...

Мяне аж апякло: такія экспанаты празяваць!

Жыве мой паважаны знаёмец на той сядзібе, у той самай хаце, у якой, паводле аповесці, быў у бабкі Насты ў прымах яго бацька. Гэта за сем кіламетраў ад Петрыкава. Як сведка памятных дзён, стаіць на сядзібе груша, любоўна апісаная Коласам у «Дрыгве». Хата выглядае цяпер больш прыстойна. Гаспадар не дае змарнець ёй, страціць годнасць. А ўнутры так і адчуваецца дух Талаша. З партрэта глядзіць праніклівы і неўгамонны Васіль Ісакавіч. На здымках — яго дзеці, унукі, праўнукі. І ўсе чымсьці нагадваюць пачынальніка гераічнага роду. Засталіся сякія-такія прылады: сякера, нажніцы для стрыжкі авечак, рыбалоўная сетка...

Прыехаў я ў Мінск, пахваліўся сваім музейцам. Расказаў пра «знаходку» Міколу Татуру, які ў той час быў дырэктарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў. Ён мне:

— Братачка, хуценька выклікай яго сюды, і будзеце выступаць!

Тройчы Коласаў герой прыязджаў у сталіцу — у 1974, 1975 і 1977 гадах. Хадзіў я з Панасам па навучальных установах, прадпрыемствах. Ва ўступным слове гаварыў пра «Дрыгву», пра тое, што госця ў сапраўднасці завуць Дзмітрыем, а часцей дзядзькам Змітраком, што ён за брата свайго Данілу (у аповесці — Максім) маладзейшы на дваццаць гадоў. Называў месца жыхарства госця. Потым зрок і слых людзей былі скіраваны на галоўнага прамоўцу. Плылося ціхмянае, але выразнае, спакойнае, «як у зачараваным сне», апавяданне пра блізкія нашаму сэрцу дзеі мінулых дзён, што ўвекавечаны ў Коласавай аповесці. Па парадку, немудрагеліста расказваў выступовец, з чаго і як усё пачалося, як дзед Талаш «гарнізаваў» партызанскі атрад, чым займаўся пасля грамадзянскай вайны, як сустрэў Вялікую Айчынную.

Прасцей, зразумела, Дзмітрыю Васільевічу давалася гамонка ў сябе дома. Іншы раз проста пад «боскай столлю». Тут і нагляднасць, і звыкласць абставін. А выязджаць на людзі не адважваўся. Дый ніхто, прызнацца, не вымушаў яго на такія «вылазкі». Таму, калі надумаўся музей Якуба Коласа запрасіць Дзмітрыя Талаша ў Мінск на сустрэчы, прысвечаныя 40-годдзю «Дрыгвы», ён збянтэжыўся спачатку:

— А што я там рабіцьму?! Гэта ж не тут...

І ўсё ж Дзмітрый Васільевіч прыехаў. Я сустрэў яго на вакзале, завёз у гасцініцу па вуліцы Талбухіна (блізка ад музея). І пачаліся выступленні.

На першых сустрэчах госць адчуваў сябе скавана, гаварыў нясмела. Пасля ж «абкатаўся», набраў інерцыю і даволі ўпэўнена трымаўся перад любой аўдыторыяй. Усміхаючыся, у перапынку аднойчы сказаў:

— Слухай. Вярнуся дадому — заяўлю сваёй маладзіцы: «Жыві цяпер, галубка, адна. Я ж паеду ў Мінск і буду там лектарам».

Дзе б ні выступаў Дзмітрый Васільевіч: перад вучнямі сталіцы і Заслаўя ці бібліятэкарамі, перад студэнтамі ці рабочымі гадзіннікавага завода, перад навучэнцамі ПТВ ці адпачываю-

чымі санаторыя «Крыніца» і Дома адпачынку «Беларусь» — усюды сардэчнасць і прыязнасць. І, вядома ж, кветкі, кветкі, сувеніры... Зацікавіў госця дарунак, паднесены работнікамі Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. Гэта была шкатулка «Дзед Талаш». Уладальнік паглядзеў, памацаў і заўважыў:

— Во куды мой бацька залез!

Падарылі ў адным вучылішчы выраб з дрэва, які вельмі ж нагадваў вялізную-вялізную мармеладзіну. Дзядзька Змітрок міла заўсміхаўся:

— Нам з маладзіцай на добры месяц хопіць!..

З нецярплівасцю чакалі героя любімага твора студэнты-філолагі Белдзяржуніверсітэта. І калі з’явіўся, воплескамі зала загула. Слухачам карцела «выцягнуць» усё з яго, што можна: і колькі дзяцей мае, і дзе яны цяпер, і чым займаецца ён сам... «Экзаменуемы» адказваў бездакорна. Выступоўцу хораша дапоўніла загадчык кафедры беларускай літаратуры Вольга Васільеўна Казлова. Яна расказала, як урачыста сустрэла Масква легендарнага дзеда Талаша, прывезенага на самалёце з партызанскага лесу. Яго даглядалі, аберагалі — гэтую жывую рэліквію. І Васіль Ісакавіч, знаходзячыся пры Генеральным штабе партызанскага руху, прыносіў пасільную карысць. Выступаў на прадпрыемствах. Перад воінамі, якія праз Беларускі вакзал накіроўваліся на захад, на фронт. Даваў ім бацькоўскі, праўдзівей сказаць, дзядоўскі наказ.

— Дзядзька Зміцер, — звярнулася да госця Вольга Васільеўна. — Вы многа расказалі пра свайго бацьку. Мы таксама ведаем яго па «Дрыгве». Але ж нам вельмі хочацца пачуць штонебудзь і пра Вашу маці.

Як заўсёды, быў лаканічным і прастадушным адказ:

— Памерла маці пры паляках, у1920 годзе. Бацька і кажа: «Цяжка нам, сынок, жыць без гаспадыні. Нехта з нас павінен ажаніцца». Я падумаў-падумаў і вырашыў — лепш ажанюся я! Так і жыў ён са мной да самых немцаў.

— Дзмітрый Васільевіч, а ці дапамагаў вам, сваім героям, чым-небудзь Якуб Колас?

— Дапамагаў. У 1946 годзе мая дачка паступала ў медыцынскі інстытут, дык ён дапамог ёй паступіць.

У зале ажыўленне, смех. Дзядзька Змітрок таўхель мяне ў плячо:

— Я не тое сказаў?

— Тое, тое, Дзмітрый Васільевіч! І тут такія сядзяць!..

Асабліва цёпла прайшоў вечар у Педагагічным інстытуце імя Горкага. Выкладчыкі філфака і студэнты з надзвычайнай увагай і сімпатыяй паставіліся да шаноўнага госця. І ён адчуў сябе як дома. Атмасферу таварыскасці ўмела падтрымліваў «тамада», прафесар Антон Аляксандравіч Семяновіч. Сустрэча вылілася ў шчырую гаворку пра твор-юбіляр і яго герояў. Колькі слоў пра неўміручасць «Дрыгвы» сказаў гаспадар вечара. Невялічкі даклад зрабіла студэнтка 4-га курса Таццяна Аўсяннікава. Другакурсніца Людміла Собаль прачытала ўрывак з аповесці. А затым... затым — знямелае маўчанне. Бо каму, калі не ім, будучым настаўнікам роднай літаратуры, даражыць падобнымі прамоўцамі!

«Пасля сустрэчы ўсе разыходзіліся ўзбуджаныя, задаволеныя. Дзіва што — жывога Панаса з «Дрыгвы» пабачылі! Такая магчымасць не кожнаму выпадае», — гэтак на старонках інстытуцкай газеты выказала ўражанні ад вечара студэнтка 2-га курса Н. Зялёнка.

Усхвалявана сустрэлі сына праслаўленага партызана ў міліцыі АН БССР. Збор быў арганізаваным, дружным. Для іх, ахоўнікаў спакою і парадку, дзед Талаш — прыклад мужнасці і непахіснасці. Гэтыя рысы яны імкнуліся ўбачыць і ў Дзмітрыя Васільевіча. Расказ яго праслухалі з вялікім захапленнем і ўздымам.

Усюды людзі ставіліся да выступоўцы з вялікай пашанотай. Праўда, кіраўнік адной установы мне заўважыў:

— Яму б варта было лекцыю адпрацаваць...

Лекцыю... Жартаўнік! Чалавек не меў нават аднаго класа адукацыі. Мне прызнаўся, што пасядзеў за партай толькі два тыдні.

— Чаму ж гэта? — пытаюся.

— Мала бацька папругі даваў, — адказаў ён.

Сам жа дзед Талаш яшчэ пры цяжэйшым часе, за прыгонам (нарадзіўся ў 1844 годзе) змог набыць пачатковую адукацыю.

Прасілі Дзмітрыя Васільевіча пакінуць у памятнай кнізе «след». Ад яго імя пісаў я. Унізе старанна, марудна выводзіў сваё прозвішча шаноўны госць. Умеў павольна і чытаць — калі напісана «фабрычнымі» літарамі.

Дзівіўся сталічны госць, чаго і куды спяшаюцца людзі ў гэтым Мінску. Задумваўся і над іншым. Едзем мы на аўтазавод. Дарога доўгая. Мой «генерал» сядзіць, я стаю каля яго. Праходзіць пэўны час — ён:

— Ай-я-яй!..

Пачакаўшы, зноў задзівіўся.

— Што, дзядзька Змітрок?

Гледзячы ў акно:

— Гэта ж столькі можна было б насадзіць бульбы, колькі гэты Мінск займае! — цяжка выдыхнуў ён.

Павёў Панаса паглядзець помнік Якубу Коласу, а значыць, і яму з бацькам. Заадно хацеў і сфатаграфаваць яго каля манумента. Уважліва разглядаў ён усе фігуры. І ўрэшце заключыў:

— Бацька — рыхтык ён. А я, можа, і быў такі ў маладым ваабражэнні...

— Вы гэта, Вы, дзядзька Змітрок! — развейваю сумненні.

— Ну, ладна, — згаджаецца Дзмітрый Васільевіч. — Паставілі — хай стаіць!..

Як вядома, дзеда Талаша Заір Азгур ляпіў з натуры яшчэ ў час вайны ў Маскве. Да таго ж, пад рукой у скульптара маглі быць і фотаздымкі старога. Фота ж Змітрака патрэбнага ўзросту не захавалася. Дый, пэўна, не было яго зусім (хто калі ў той час фатаграфаваўся, асабліва людзі вясковыя?). І майстар падаў Панаса адвольна — 18-гадовым юнаком.

Яшчэ не мог уцяміць:

— Слухай, чаму Колас мяне перайначыў? Хіба Змітрок горш за Панаса?

Свае думкі, эмоцыі Дзмітрый Васільевіч выказваў адкрыта, без ніякай аглядкі на адпаведнасць іх усталяваным нормам этыкету. Спантанна.

Выступаем у адной школе. Дзеці разыгрываюць сцэнку з «Дрыгвы» — дзед Талаш у лесе напаткаў ляжачага, параненага сына. Трывожны момант. Бачу праз акно я — з неба камякамі пасыпаў снег (а ўжо ішла поўным ходам вясна). Павярнуў туды галаву і ён.

— Глянь, снег ідзе! — выгукнуў на ўвесь голас дзядзька Змітрок.

Змоўклі «артысты», заварушылася зала.

— Іграйце, дзеткі, іграйце, — умешваюся я. — Сапраўды, адкуль узяўся гэты снег? Навошта ён?.. — запытваю і згладжваю «канфлікт».

Адзін раз ледзь не «ўліплі» мы ў гісторыю. Прыходзім з выступлення ў гасцініцу. Бралася пад сем гадзін вечара. Думаю, зойдзем у рэстаран і перакусім. Дзверы зачыненыя. Стукаю. Прыадчыняе работніца і паведамляе, што тут ладзіцца вяселле. Упрошваю — не ўдаецца. Тады я:

— А вы ведаеце, каго я хачу пакарміць? — пытаюся і адказваю. — Сына дзеда Талаша.

Палагаднела жанчына, упусціла і пасадзіла нас за асобны столік. Чакаем прыносу стравы. За вясельнымі ссунутымі сталамі пачынаецца ўрачыстасць. Стаяць высокія танклявыя маладыя. Іх вітае сват. Глянуў туды дзядзька Змітрок і гучным голасам:

— Ну й жонку выбраў — ні цыцок, ні... — і называе адпаведным словам «задні бюст».

Занерваваліся вясельнікі, сват спрабуе вылезці з-за стала. На шчасце, прыйшла наша карміліца. Папрасіў яе падысці да разгневанага тамады і ўтаймаваць яго нораў.

Паелі спехам і — дай Бог ногі, падзякаваўшы гаспадыні, далей ад бяды.

Сотні людзей мелі шчасце бачыць і чуць героя выдатнай аповесці Якуба Коласа «Дрыгва». З прыемнасцю пазнаёміліся з ім і тыя, каму давялося сумесна выступаць на некаторых сустрэчах. Гэта — Мікола Татур, Уладзімір Казбярук і Алесь Камароўскі. Апошні тады працаваў са мной у Літаратурным музеі Якуба Коласа.

Зайшоў я ў гасцініцу, каб павезці свайго «генерала» на вакзал для адпраўкі на радзіму. Звяртаюся да мужчыны, што суполіў з дзядзькам Змітраком у адным пакоі (а сам ён карэнны расіянін):

— Вы ведаеце, з кім жылі?

— Не.

— З сынам легендарнага беларускага партызана дзеда Талаша!

Здзіўленне і ўздых. Выходзім на вуліцу.

— Дзмітрый Васільевіч, а ён не пытаўся, хто Вы такі?

— Пытаўся.

— І Вы не прызналіся?

— Не! Маладзіца мне сказала: «Не кажы, што ты Талаш. Возьмуць і заб'юць».

Пасля трэцяга (1977 года) прыезду ў Мінск я «запусціў» дзядзьку Змітрака на людскія «вочы» і «вушы» і па тэлебачанні. Дамовіўся з Алесем Савіцкім, вядучым штомесячнага тэлечасопіса «Літаратурная Беларусь», каб даў мажлівасць колькі хвілін пабыць шаноўнаму госцю сталіцы на «блакітным экране». І трэба сказаць — «цвёрда трымаўся юнак на дапросе»!

Прывёз яго на вакзал. Паехаў ён. А неўзабаве тэлеграма: «Памёр Дзмітрый Талаш». Нікому з музейцаў, нават і мне, паехаць на пахаванне не давялося. Пішу пісьмо жонцы. Пры-

ходзіць адказ — палез на печ, каб трошкі па-сялянску адпачыць. Заснуў і... не прачнуўся. Было гэта 26 снежня 1977 года. 27 верасня таго ж года яму споўнілася 75. Не дажыў да ўзросту бацькі 27 гадоў. Дзед Талаш, як вядома, памёр на 103-м годзе жыцця, у 1946-м.

## КОЛАС СМЯЕЦЦА, ДБАЕ, ДАПАМАГАЕ

*Выбраныя мясціны з успамінаў пра Якуба Коласа*

Гэтая літаратурная кампазіцыя стварылася з аповедаў Якуба Коласа пра сябе, а таксама людскіх успамінаў пра Песняра. Мне прыемна было дакрануцца да жывых сведчанняў пра Майстра.

Пад час складання зборніка «Успаміны пра Якуба Коласа» (да 100-годдзя з дня нараджэння), чытаючы пра яго ў перыёдыцы, кнігах, слухаючы магнітафонныя запісы галасоў успамніннікаў, бачыў я не проста вялікага майстра слова, грамадскага дзеяча, вучонага. Праступалі праз смугу часу жывыя рысы дзядзькі Якуба — простага, мудрага, вясёлага і дасціпнага, чулага і спагаднага чалавека. Праступала тое, што робіць класіка блізкім і зразумелым нам, яго ўдзячным нашчадкам.

*Якуб Колас*

### Неруш

Аднойчы, яшчэ падлеткам, натрапіў я ў Альбуцкім лесе на неруш. Ні да гэтага, ні пасля — ніколі такога не бачыў. Грыбы сядзелі так густа, што нагі не ўб'еш. Зрэжаш аднаго, а пад ім яшчэ два-тры меншанькія. Нарэзаў я повен кош, а грыбоў нічуць не паменшала. Скінуў тады кашулю, завязаў каля каўняра, нарыхтаваўся рэзаць, а тут чую — надыходзяць жанкі на маю паляну. Пабяруць, думаю, усе грыбы. Я скарэй — усё з сябе, нагнуў бярэзіну, узяў у рукі вяршок і падскокваю голы. Бабы ледзь не памлелі. Спачатку думалі — чорт. Пасля разгледзіліся, пазналі, але вырашылі, што я звар'яцеў.

## Трох ці пяцёх?

Ну, а цяпер трымайся: герой пачынае крытыкаваць пісьменніка. Кепска мець справу з героямі. Я некалі не паверыў, што Талаш раскідаў пяцёх легіянераў, вырваўся ад іх і ўцёк. Думаю, прыманьвае стары. І напісаў у аповесці, што легіянераў было тры. Аж завальваецца да мяне ў Акадэмію дужы дзед і кажа:

— Гэта ты Колас?

— Я.

— Дык што гэта ты пра мяне набрахаў? Хіба я ад трох палякаў уцякаў, га?

## Кандыдат падмятальных навук

І чым толькі не займаюцца людзі! Усім, апрача карыснага і цікавага для краіны. Глянеш збоку: магутны які-небудзь інстытут, шыльда на паўсцяны. Шыльда, дый не маленькая, на кожным работніку: акадэмікі, дактары навук, кандыдаты, старшыя і малодшыя навуковыя супрацоўнікі. Адна хіба старожка не мае ступені. Дый яе, каб павялічыць зарплату, могуць іменаваць: кандыдат падмятальных навук Алена Цімафееўна Дзяркач.

*Міхась Лынькоў*

## Пра бычка

— Што здарылася, Канстанцін Міхайлавіч?

— Бяда, брат! Проста і не ведаю, як з гэтай бяды выбавіцца! І ўсё праз гэтага бычка[1]. Што ты думаеш, клопату з ім не абярэшся. Павёз гэтага бычка мінулым тыднем на бойню. Як жа, спецыяльна рамізніка наняў, пасадзіў бычка ў санкі, як добрага пана. Прывёз, ссадзіў, у бойню завёў. Так і так, кажу, прашу зарэзаць. Тут падышоў ветэрынар бойніцы, агледзеў бычка, у зубы пагладзеў, хвост пакруціў ды і кажа да мяне: «Нічога, грамадзянін, з вашым бычком не выйдзе, не падлягае ён пад нож па закону, бо племянны ён». Сказаў і чакае, на кішэнь маю вока зырыць... Не, думаю, трасцу з макам ты ад мяне займееш, не буду я хабарамі душу сваю мазоліць...

---

[1] На пачатку 1930-х гадоў у горадзе былі цяжкасці з прадуктамі, і сям'я Коласа набыла карову. Тая карова і прывяла бычка.

І вось праз які тыдзень з'яўляецца да нас Канстанцін Міхайлавіч, вясёлы, радасна ўсхваляваны.

— Няма бычка. Вольны я цяпер чалавек, браты. Хоць уздыхну цяпер лягчэй, гэта ж такая нахаба была на маю галаву, што і ўявіць цяжка. Аднак пазбавіўся гэтага ліха і, верце не верце, чалавекам адчуў сябе. І што вы думаеце, і мне добра і, відаць, бычку таксама не кепска, трапіў у добрыя рукі. Прыязджалі тут сяляне — знаёмыя хлопцы — дровы на склад вазілі. Я і наважыўся прадаць ім бычка. Цэлую гадзіну ўгаворваў. Ды куды там... Пасмяяліся крыху з мяне: які, кажуць, дурань будзе твайго бычка купляць, хоць і племяннога. Думаў я, думаў, а на другі дзень сустрэў іх і прапанаваў ім бычка задарма браць. Але ж уламаў усё ж такі, угаварыў. Ну, прыплаціў крыху, пачаставаў... Слава Богу, узялі бычка...

## «Дровы сяку»

Лепшым адпачынкам ад доўгіх гадзін, праведзеных за пісьмовым сталом, ён прызнаваў фізічную працу на свежым паветры. Ён падмятаў двор, зграбаў снег зімой, дагледжваў дрэвы, пілаваў і сек дровы або майстраваў што-небудзь для хатняй гаспадаркі. Часам карэспандэнт якой-небудзь газеты і заставаў тут Канстанціна Міхайлавіча. Памятаю, як адзін з такіх карэспандэнтаў запытаў Коласа тут жа на двары аб тым, над чым зараз працуе паэт. Зусім разгубіўся быў, пачуўшы жартоўны адказ:

— А хіба, браток, не бачыш — дровы сяку!

І пакуль карэспандэнт збіраўся з думкамі, як яму падступіцца да патрэбнай тэмы ў гутарцы, Канстанцін Міхайлавіч з самым сур'ёзным выглядам чытаў яму цэлую лекцыю аб тым, як трэба сячы дровы, як лепш класці цюльпак, як зручней распраўляцца з чачоткавым паленам, якую «тактыку» ўжываць у дачыненні да ўпартых сукоў. І ўрэшце рассмяяўся і зусім ужо другім тонам сказаў субяседніку:

— Відаць, не цікава, браток, табе гэта справа... Ну што ж, пойдзем у хату, пагаворым...

*Пятрусь Броўка*

## З дзедам Талашом

Вельмі яго ўсхвалявала сустрэча з героем ягонае аповесці — дзедам Талашом, якога на самалёце прывезлі з глыбокага Палесся, з партызанскае зоны. Я быў пры тым, як яны сустрэліся. Гэта было ў невялічкім нумары гасцініцы «Масква», куды тады пасялілі Талаша. Яны абняліся і пацалаваліся, як родныя, і я заўважыў, што дзядзька Якуб з гонарам аглядае яшчэ даволі моцную каржакаватую постаць дзеда. Колас нават на жарт скаваў дзеду:

— Ану, давай паспрабуем, хто каго перацягне!.. — І ён зачапіў указальным пальцам за такі ж палец Талаша. — Ого! Дык жа, дзядок, яшчэ дужэйшы за мяне! — смяяўся Колас, калі заўважыў, што той не паддаецца.

А дзед Талаш хоць і стогадовы, але яшчэ хутка рэагаваў на жарт:

— А што ж ты думаў, слабакі з фрыцамі б'юцца? Вось толькі, нешта пра мяне ты мала стаў пісаць. — Дзеду і сапраўды ўпадабалася, што дзякуючы Коласу ён стаў такім вядомым; а славы яму, відаць, яшчэ хацелася...

— Ну, пачакай, пачакай, напішу яшчэ, — заспакойваў яго Колас. — А ты вось лепш раскажы, як ты жыў там без нас і з фрыцамі змагаўся?..

*Іван Шамякін*

## «...І цалуйся ты з ім»

Колас ненавідзеў усякі фальш, нікому не дараваў няшчырасці... Адзін адказны работнік разы два падвёў яго — паабяцаў выканаць нейкія просьбы, але нічога не зрабіў, і Колас назаўсёды страціў павагу да яго. Я прыгадваю, што аднойчы, калі зайшла гутарка пра гэтага работніка і адзін пісьменнік пачаў горача даказваць, што гэта вельмі добры, чулы чалавек, Колас абарваў яго:

— Ну, то, брат, і цалуйся ты з ім. А нас не прымушай!..

*Янка Брыль*

## Дажджу няма...

Слухаў дзядзька Якуб уважліва, па-гаспадарску дапытліва глядзеў з-за свайго пісьмовага стала на яшчэ аднаго, што вось

таксама, кажуць, вельмі хоча далучыцца да вялікай справы. Калі ж я скончыў са службовай грунтоўнасцю і неслужбовым хваляваннем выказваць яму рэдакцыйную просьбу, ён памаўчаў яшчэ трохі, збянтэжыўшы мяне сваёй — здалося — незадаволенай насупленасцю, і ўрэшце прамовіў:

— Дажджу каторы час няма... І што гэта, хлопча, будзе?..

Прызнацца, мяне спачатку здзівіла і нават расчаравала ажно такая прастата і проза. Не адразу я зразумеў, колькі ў гэтым яго неспакоі народнай душы, не адразу ўявіў яго горкую думу ў бяссонную ноч, румяны досвітак над шорсткай зелянінай сасновых вершалін і словы, што не выказваліся ўслых у гадзіны старэчай самотнасці...

*Андрэй Макаёнак*

## Сюрпрызы

Любіў ён дапамагаць людзям. Да яго часта звярталіся з просьбамі, нават дакучалі. А бывала і так, што Якуб Колас разумеў сам, бачыў сам, у чым чалавек мае патрэбу, і раптам, нечакана, як бы знянацку гэта дапамога прыходзіла. І я вам скажу, любіў ён падобныя сюрпрызы. Бывала, зробіць такое (чалавек нават і не ведаў, не чакаў), а потым з усмешкай добрай, з дзядоўскай усмешкай пaглядае. І цяжка было сказаць, каму болей прыемна — ці таму, каму ён дапамог, ці яму самому.

*Мікола Хведаровіч*

## Гульня ў кеглі

І Цішка Гартны, і Якуб Колас, і ўсе астатнія, гуляючы ў кеглі, жартавалі.

Сваёй непасрэднасцю вылучаўся Цішка Гартны. Калі даводзілася пачынаць гульню Якубу Коласу, ён паджартоўваў:

— Ану, Кастусь, размахніся. Каці з размаху, з-за пляча. Пакажы, які ты спрытняк...

— Няма мне чаго паказваць, — адказваў Якуб Колас. — Нешта здалёк я дрэнна бачу кеглі. Вось каб у лысіну якую-небудзь цаляць, дык, напэўна, папаў бы. Мікола, — звяртаўся ён да мяне, — пастаў там ведаеш якую фігуру...

Цішка Гартны не ўмеў прапускаць жарту:

— Пасмяяўся гаршчок з катла... Такі то ты, Кастусь, кучаравы...

*Антон Бялевіч*

## «З маім Данілам дужаўся?»

У валёнках, у ватоўцы, у вушанцы прыйшоў ён у гасцініцу «Якар», дзе тады жылі некаторыя беларускія пісьменнікі, супрацоўнікі газеты «Савецкая Беларусь» і сатырычнай газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну».

Спаткаўшыся са мною, дзядзька Якуб хітравата ўсміхнуўся, запытаў:

— Кажуць, што ты з маім Данілам дужаўся?

— Дужаўся.

— А ці паваліў?

— Не, не паваліў, — адказваю. — Але і Ваш Даніла мяне не паваліў.

— Вунь які, — нібыта здзівіўся Колас. — Хадзі сюды. Сядай, — і сам прысеў на крэсла каля стала. — Давай руку. Станаві на локаць. Так, добра. Давай дужацца, — пачаў прыгінаць маю руку да стала. — Эп! Гатова! Перамог, падужаў я цябе, Антось!..

Мне было прыемна бачыць, як, нібы хлапчук, радуецца дзядзька Якуб: шчокі зрабіліся ружовымі, вочы свецяцца ясна...

*Даніла Міцкевіч*

## «Аддасце, калі буду бедны я»

Эпісталярная спадчына Якуба Коласа вельмі багатая і змястоўная. Вядома, сярод мноства пісьмаў да яго былі і кур'ёзныя. Я прыгадваю, як у канцы 1940-х гадоў з Заходняй Беларусі было атрымана пісьмо ў такім тэлеграфным стылі: «Глыбокапаважаны Канстанцін Міхайлавіч! Мне трэба купіць каня. Вышліце чатыры тысячы рублёў. Вось і ўсё». Далей ішоў подпіс. Адказ быў такі: «Паважаны таварыш! Уступайце ў калгас. Будзеце забяспечаны канём. Вось і ўсё. Якуб Колас». Але вось да майго бацькі звяртаецца хворы чалавек. Просіць дапамагчы. Абяцае, што, як толькі выздаравее, адразу ж разлічыцца. Выслаўшы адпаведную суму, Колас піша: «Папраўляйцеся, станавіцеся на ногі. Аддасце, калі буду бедны я».

*Алена Лойка*

## На падэшвы

Колькі разоў Колас памагаў мне грашыма. Аднаго разу прыходзіць перавод. На ім: «Алене Міхайлаўне Міцкевіч». Было валынкі! Ледзь аддалі. Я ж па мужу — Лойка.

Дый не толькі сваякам, але і чужым людзям ішоў на выручку. Пайшоў раз на рынак. Сядзіць на возе жанчына і плача. Якуб Колас пытаецца, хто яе пакрыўдзіў. Аказваецца, мужчыны (відаць, з яе мясцовасці) пакінулі падэшвы, купленыя для ботаў ці чаравікаў, і адышліся выпіць. А яна таксама адхілілася. Тым часам нехта і «пазычыў» тыя падэшвы.

— А колькі яны каштуюць? — пацікавіўся Колас.

— Паночку, не ведаю.

Колас ацаніў іх сам і даў жанчыне грошай.

*Эдуард Валасевіч*

## Індыйская філасофія

У 1947 годзе (з 21 па 26 ліпеня) быў скліканы рэспубліканскі семінар маладых пісьменнікаў. У той час я зачытваўся творамі Рабіндраната Тагора. І хаця я пачаў пісаць байкі, значную даніну аддаваў яшчэ лірыцы. Пэўна, пад уплывам індыйскага пісьменніка мая лірыка набывала нейкую «філасофскую» схільнасць. Адзін з такіх опусаў я напярэдадні нарады паслаў Якубу Коласу. Называўся гэты опус «Сонца і праца». І вось тут, на нарадзе, пры ўсім, як кажуць, народзе ўстаў Якуб Колас і запытаў:

— А ці тут Эдуард Валасевіч?

— Тут, — прамармытаў збянтэжана я (аж горача мне стала).

— Вось верш вы мне даслалі. Тут нейкая індыйская філасофія... Я думаў, што вам гадоў семдзесят, а вы зусім яшчэ малады чалавек. Адкуль гэтая заглыбленасць? Байкі ў вас больш рэальныя, ад жыцця. Тут, пэўна, ваша прызванне.

*Пётр Лявіцкі*[1]

## Міністр грыбнога міністэрства

Якубу Коласу я паведаміў, што хутка ў нас будзе пленум абкама партыі, дзе мы абмяркуем пытанне аб нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў... І раптам Колас сказаў: «А ці можна мне прысутнічаць на гэтым пленуме?» Я тут жа выпісаў яму білет. Якуб Колас з'явіўся за паўгадзіны да пачатку пасяджэння. Уважліва слухаў даклад, спрэчкі. А калі быў перапынак, жартуючы, сказаў: «Справу абгаварылі добра, але вось як задумаеце арганізаваць міністэрства грыбное, то зрабіце мяне міністрам».

*Алена Васілевіч*

## Цукеркі

— Пайдзі, Аленка, у мой пакой і ў ніжняй шуфлядзе ў пісьмовым стале вазьмі цукерак. Вынесі дзецям.

Гэтак не раз падзываў мяне ў Каралішчавічах Канстанцін Міхайлавіч, вярнуўшыся з Мінска, куды ён адлучаўся да дактароў ці па нейкіх іншых сваіх справах. Ён ніколі не вяртаўся без цукерак і ласункаў усім дзецям, якія там адпачывалі ў гэты час са сваімі бацькамі-пісьменнікамі.

*Максім Лужанін*

## Бугай у навуцы

Канстанціну Міхайлавічу як віцэ-прэзідэнту Акадэміі прадстаўлялі аспірантаў. Быў сярод іх высокі, плячысты здаравяк. Узрадаваўшыся (Коласа зблізку ён бачыў ледзь не ўпершыню), хлапчына павітаўся з усёй шчырасцю дужага чалавека.

Канстанцін Міхайлавіч умомант выхапіў хворую руку, памахаў ёю ў паветры і міжволі вылаяўся, салёна, па-мікалаўску. Падзьмуўшы на адціснутыя пальцы, дадаў:

—І бяруць жа гэткіх бугаёў у навуку!

---

[1] Пётр Лявіцкі — партыйны і дзяржаўны дзеяч.

## Дождж

Нарэшце доўгачаканая вестка была паведамлена. Дождж сабраўся надвечар і ішоў праз усю ноч.

Канстанцін Міхайлавіч, чакаючы першых кропель, сядзеў у садзе, стаяў, пакуль не змок, на ганку і каля расчыненых балконных дзвярэй.

— Ідзі, братка, ідзі! — угаворваў ён дождж, як нейкае слухмянае, але пужлівае стварэнне. — Пабудзь з намі хоць бы з тыдзень...

А назаўтра накупляў поўныя рукі пудэлкаў з цукеркамі і паехаў надзяляць «прарочыц» — дзяўчат са службы надвор'я.

## Камяністы грунт

Прамова на XXII З'ездзе КПБ доўга пісалася і перапісвалася. Потым рабіліся ўстаўкі, дадаткі. Перад выступленнем Канстанцін Міхайлавіч хваляваўся, але прыехаў з пасяджэння ўзрадаваны: дэлегаты сустрэлі прыхільна.

— Асабліва добра заключэнне прынялі, — сказаў, дзелячыся ўражаннямі.

А ў заключэнні гаварылася:

«Дазвольце мне, таварышы, сысці з гэтай трыбуны ў добрай надзеі, што маё слова аб ачыстцы ад камення нашай зямлі не папала на бясплодны камяністы грунт».

*Станіслаў Шушкевіч*

## Удзячнасць

— Рад за цябе, рад ад душы... Якуб Колас сёння быў у нас і адваяваў для ўсіх маладых пісьменнікаў персанальныя стыпендыі. І ты ў гэтым спісе, — сказаў П. Капаевіч.

Мне не верылася. Адкуль жа Якуб Колас мог ведаць, што я дзе-нідзе друкую вершы, і ці можна за гэтыя вершы даць персанальную стыпендыю? Пазней мне расказалі, што пісьменнікі А. Вольны і І. Барашка паслалі ў прыёмную камісію характарыстыку ад літаратурнай арганізацыі «Маладняк» і газеты «Чырвоная змена» і нават гаварылі наконт мяне з Коласам.

Цяпер я ўжо ўвесь час збіраўся знайсці момант, каб падзякаваць пісьменніку за яго клопаты. Аднойчы на калідоры тэхнікума

я сустрэў Якуба Коласа і, пачырванеўшы, пачаў гаварыць словы ўдзячнасці.

— Ты старайся вучыцца і добра пісаць, гэтым аддзякуеш дзяржаве, а не мне, — перабіў мяне Колас.

*Ніна Загурская*[1]

## Пакункі

Калі мы апраналіся ў пярэдняй, Марыя Дзмітрыеўна вынесла кожнай з нас па вялізным пакунку. Мы, хоць і адмаўляліся, але памяталі просьбу сябровак і ўзялі. Якуб Колас крыху правёў нас, прахожыя азіраліся на нашу вясёлую кампанію. Вярнуліся дадому а 12-й гадзіне. Калі разгарнулі пакункі, нашы дзяўчаты, убачыўшы так багата ежы, ахнулі... Доўга мы не маглі заснуць, успамінаючы вечар, які правялі ў Коласа. Усе сышліся на адным: жонка ў Коласа прыгожая, добрая і сардэчная жанчына, яна ва ўсім падыходзіць яму.

*Таццяна Замоціна*[2]

## «Я поўнасцю забяспечаны чалавек»

Канстанцін Міхайлавіч заўсёды ведаў, каму і чым памагчы, ведаў, як гэта зрабіць. Выпадкова мне стала вядома, як ён штомесяц пасылаў грошы тым, каму лічыў неабходным аказаць дапамогу. Некалькі разоў у цяжкі для мяне час ён пасылаў грошы і мне з такой жартаўлівай прыпіскай: «Дарагая Таня! Пасылаю, колькі магу. Спяшацца вяртаць не трэба. Буду бедны, тады падтрымаеце».

У пісьме ад 19 ліпеня 1953 года Канстанцін Міхайлавіч далікатна адмаўляўся, каб я вяртала доўг.

«Дарагая Таццяна Іванаўна!

У далейшым падобных высылак не рабіце: я поўнасцю забяспечаны чалавек, і не толькі я, але і мае сыны.

Пішыце мне наогул — мне будзе вельмі прыемна прачытаць пісьмы дачкі прафесара Івана Іванавіча Замоціна, якога я вельмі люблю і паважаю».

---

[1] Ніна Загурская — настаўніца, выхаванка Якуба Коласа па Белпедтэхнікуму.

[2] Таццяна Замоціна — дачка прафесара Івана Замоціна, з якім Колас працаваў у БДУ.

*Аляксандра Ус*[1]

## Дэпутацкія клопаты

Канстанцін Міхайлавіч надаваў вельмі вялікае значэнне рабоце з пісьмамі. А іх ён, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР, заўсёды атрымліваў многа. Я часта заставала народнага выбранца за пісьмовым сталом у яго невялічкім кабінеце... На запытанне маё: «Аб чым Вам пішуць выбаршчыкі?» — Канстанцін Міхайлавіч зачытваў некаторыя з пісем. Гэта былі самыя звычайныя лісты. У адным выбаршчыкі пісалі пра старшыню калгаса, які часта заглядае ў чарку, у другім прасілі дапамагчы здабыць калгасу аўтамашыну, у трэцім скардзілася ўдава, што ёй затрымалі выплату пенсіі, у чацвёртым аўтар хацеў сустрэцца са сваім дэпутатам і тады абяцаў усё выкажыць, усю крыўду. І Канстанціну Міхайлавічу да ўсяго была справа, усё яго цікавіла і хвалявала. Сам ён наведваў выбаршчыкаў, вырашаў справы на месцы, клапаціўся, ставіў пытанні перад адпаведнымі арганізацыямі, высылаў свае грошы тым, хто вельмі меў у гэтым патрэбу.

*Давід Абрамовіч*[2]

## У бальніцы

З усім персаналам бальніцы Якуб Колас трымаў сябе вельмі проста і сціпла. Мы ніколі не заўважалі ў яго злаславасці, прыдзірлівасці або павышанай патрабавальнасці. Заўсёды спакойны і ветлівы, ён горача дзякаваў абслуговаму персаналу за самую маленькую паслугу. А калі пакідаў стацыянар, выносіў усім пісьмовую падзяку. Асабліва ўважлівы быў Канстанцін Міхайлавіч да санітарак і медсясцёр, цікавіўся іх жыццём, працай, нярэдка дапамагаючы ім парадай, цёплым словам.

---

[1] Аляксандра Ус — журналістка, рэдактар часопіса «Работніца і сялянка».

[2] Давід Абрамовіч — лечачы ўрач паэта.

*Барыс Ірынін*[1]

## Птушанё на далоні

З якой гордасцю і любоўю ён паказваў нам свае пасадкі, у ліку якіх, наколькі помніцца мне, былі сапраўды рэдкія для той паласы дрэвы. Апынуўшыся ў глухім кутку саду, мы заўважылі ці то галчанё, ці то маладога грака са зламаным крылом. Я забыў падрабязнасці гэтага выпадку, але добра памятаю, з якой беражлівасцю і пяшчотнасцю ён трымаў на руках птушанё і чымсьці карміў яго. А яно адчувала сябе на яго шырокай ласкавай далоні, як у сваім гняздзе.

*Пётр Сямынін*[2]

## Конь

Пры мне каля двух тыдняў Якуб Колас карміў каня, пакінутага на волю лёсу нейкім бесклапотным загадчыкам гаспадаркі пры Акадэміі навук. У жывёліны былі цяжка збіты плечы — яны кровaтачылі і гнаіліся. Загадчык гаспадаркі, відаць, вырашыў: раз карысці ад каня няма, значыць, і карміць яго які сэнс? Конь быў прывязаны пад дзіравай навіссю без усякага нагляду. Колас насіў яму кожны дзень кошык травы, накошанай у сваім садзе, вялікі кавалак чорнага хлеба і кавалак цукру. Так працягвалася да таго часу, пакуль, на здзіўленне загадчыка гаспадаркі, жывёліна не паправілася.

Неўзабаве на прагулцы мы пачулі вясёлае ржанне гнядога каня, які вёз на будаўніцтва цэглу. Колас памахаў яму рукой — конь пазнаў свайго кармільца.

*Сымон Белы*[3]

## Дзядзька і пляменнік

Ціха адчыніўшы жалезную браму, я прыпыніўся. Мяне апанаваў нейкі страх перад сустрэчай з Якубам Коласам. Асабліва бянтэжыла дзядзькава ўсмешка, загадкавая і хітрая, што заўсёды гуляла ў серабрыстых, акуратна падстрыжаных вусах. Дзядзька Якуб на язык быў востры, гаварыў проста і трапна, з

[1] Барыс Ірынін — рускі літаратар, перакладчык твораў Якуба Коласа.

[2] Пётр Сямынін — рускі паэт, перакладчык твораў Якуба Коласа.

[3] Сымон Белы — настаўнік, пляменнік Якуба Коласа.

прыціскам у голасе, з гарэзлівай смяшынкай у прыжмураных вачах. Цяжка было зразумець, дзе ён гаворыць сур'ёзна, а дзе жартуе, і гэта больш за ўсё збівала з панталыку. Я імкнуўся гаварыць крылатымі літаратурнымі выразамі. На гэта дзядзька аднойчы далікатна намякнуў: «Да чаго, пляменнік, не дойдзеш, то ў кніжцы знойдзеш».

*Вольга Галіна*[1]

## Псеўданім

Аднойчы я звярнулася да яго з просьбай. У тыя гады ў тэатры было прынята не называцца сваім сапраўдным прозвішчам, а выдумляць нейкія, ну, прозвішчы-псеўданімы. У нас была артыстка Пралеска, былі артысты Крыніца, Лапаць... Мне таксама здалося, што гэта будзе цікавей і рамантычней — называцца нейк іначай.

І вось я папрасіла Канстанціна Міхайлавіча, каб ён дапамог у гэтай справе. Якраз у той дзень у яго быў пісьменнік Міхайла Грамыка. І вось яны разам пачалі мне прыдумляць розныя мянушкі. Але ўсё не надта было цікава, не падыходзіла, не падабалася мне. А потым Канстанцін Міхайлавіч кажа: «А чаму б Вам не называцца Галінкай? Вы такая тоненькая, маладзенькая... Гэта вельмі да Вас падыдзе». Ну, зразумела, мне спадабалася. Але ўсе прысутныя сказалі, што імя такое ўжо занадта какетлівае, занадта нейкае легкадумнае. А можа быць, называцца больш афіцыйна — Галіна?.. Ну, так я і згадзілася з гэтым — кароткае, такое гучнае абазванне! Гэтак з лёгкай рукі Канстанціна Міхайлавіча я засталася ў тэатры з прозвішчам такім — Галіна.

*Павел Малчанаў*[2]

## На прэм'еры

Увосень 1936 года мы пачалі працаваць над п'есай Якуба Коласа «Вайна вайне». Дзесьці ў канцы года ўжо адбылася прэм'ера, на якую прыехаў сам аўтар. Віцебскі глядач, калі даведаўся, што ў зале знаходзіцца Якуб Колас, вельмі быў усхваляваны. Усе ўсталі і наладзілі яму бурную авацыю. Якуб Колас шчыра, па-сапраўднаму расчуліўся. Дзякаваў і рэжысёру Дарвішаву, і акцёрам. Хваліў і мяне за ролю ўрадніка Шышлы, якога я іграў у гэтым спектаклі.

---

[1] Вольга Галіна — народная артыстка Беларусі.

[2] Павел Малчанаў — народны артыст СССР.

*Цімох Сяргейчык*[1]

## Канакрад

У спектаклі «У пушчах Палесся» мне давялося выконваць ролю Саўкі Мільгуна, вясковага канакрада. Вобраз складаны, супярэчлівы. Я вельмі хваляваўся. Баяўся, што не знайду фарбаў для яго выяўлення. Баяўся, можа, таму, што вельмі з вялікай павагай адносіўся да Коласа, да яго творчасці. І, можа быць, гэтая адказнасць і прымушала мяне так хвалявацца.

Аднойчы я звярнуўся да Якуба Коласа з такім пытаннем: «Скажыце, ну а што мне раскрываць у ім, як падысці да яго, які матэрыял Вы мне параіце прагледзець, пачытаць, можа?» Ён паглядзеў на мяне і кажа: «Ты ж вясковы хлопец. Ты ж вясковае жыццё добра ведаеш. У кожнай жа вёсцы ёсць злодзей, мабыць, і ў тваёй. Вось ты яго бачыў, наглядаў за ім. Папробуй гэта ўсё...»

І вось пасля размовы з Коласам я ўспомніў былое. Выплыла ў памяці. І якраз мне спатрэбілася. Вобраз стаў зразумелы. Але, адчуваю, чагосьці не хапае ў ім.

Я зноў пытаюся ў дзядзькі Коласа: «От ёсць тут канакрад, але ж паўтарыць яго я не магу. Дый не цікавы ён. Нейкі просты, разумееце, і сумны...» А Якуб Колас кажа: «А ты яшчэ каго-небудзь панаглядай. Ад аднаго вазьмі, ад другога вазьмі... Усё гэта няхай у табе пераварыцца. А потым у цябе вылезе сам вобраз. І ты тады яго слухай...» Так я і зрабіў. Дапамагло...

*Рыгор Шырма*

## У Ташкенце

Вялікі паэт не толькі даваў натхненне кампазітарам. Ён разам з тым як грамадскі і дзяржаўны дзеяч апекаваўся калектывамі музычнымі. Так, пад час вайны беларуская капэла апынулася аж у Ташкенце. Не ведалі, дзе ўрад Беларусі, не зналі, да каго звяртацца. І раптам даведаліся, што ў Ташкенце Якуб Колас. Звярнуліся да яго. А Колас — да мясцовых уладаў. Калектыў падтрымалі, не далі, каб распаўся. А то былі ўжо такія думкі — разбіць на брыгады і паслаць артыстаў на працу ў калгасы.

---

[1] Цімох Сяргейчык — народны артыст БССР.

*Пятро Рунец*

## Пра Пушкіна

У 1947 годзе адзначалася 110-годдзе з дня смерці А. С. Пушкіна. Наша газета [«Піянер Беларусі»] таксама вырашыла даць невялікі артыкул. Але хто яго павінен напісаць?

— Было б лепш за ўсё, каб пра Пушкіна напісаў сам Якуб Колас, — параіла рэдактар. — Вы ж ведаеце, што значыць для дзяцей ягонае слова...

— Яно, вядома, так, але Колас занядужаў і не ходзіць на работу, — зазначыў я.

— А вы паспрабуйце пазваніць дахаты... Можа, і згодзіцца...

Рабіць гэта, шчыра кажучы, не хацелася: навошта турбаваць хворага чалавека? Але, падумаўшы, што раблю гэта дзеля агульнай справы, я зняў трубку і набраў патрэбны нумар. Праз якую хвіліну мне адказаў сам Канстанцін Міхайлавіч.

Якуб Колас не толькі артыкул напісаў, а сам прынёс яго ў рэдакцыю, на дзень раней.

*Алесь Есакоў*

## Чаму зерне драбнаватае

Некалькі гадоў запар мне давялося адпачываць і працаваць у нашым пісьменніцкім Доме творчасці ў Каралішчавічах (гэта недалёка ад Мінска, паміж Магілёўскай шашой і дарогай, якая вядзе ў Негарэлае)...

Канстанцін Міхайлавіч уставаў рана, як толькі развіднее. Браў у рукі кій і падаваўся ў лясную вандроўку. Звычайна ён ішоў у кірунку поля, якое раскінулася па правы бок на ўзлессі, у кірунку Мінска. Асабліва Колас любіў аглядаць пасевы. Я не раз быў сведкам, як ён размаўляў з калгаснікамі, брыгадзірамі і старшынёй калгаса. Вакол лесу, як кінуць вокам, раскінуліся жытнія палі. Калі дзьмуў летні вецер, жыта пералівалася хвалямі. Канстанцін Міхайлавіч падыходзіў да жывой сцяны і, узяўшы ў жмені некалькі каласоў, пачынаў уважліва іх разглядаць.

— Зерне наліваецца добра, але яно драбнаватае.

— А чаму? — спытаўся нехта з калгаснікаў.

— Гэта ў вас трэба спытаць, — сказаў Канстанцін Міхайлавіч.

— Бачыце, — пазяхнуў каржакаваты белабрысы брыгадзір, — угнаення не хапае.

— Горад жа блізка, пад бокам, варта больш турбаваць начальства, — параіў Колас. — А ваша калгаснае кіраўніцтва ўжо вельмі самазаспакоенае.

— Правільна кажаце, дзядзька Якуб, — згадзіўся старшыня калгаса.

*Яфім Садоўскі*

## «Каб сама збірала каменне...»

Ездзіў Якуб Колас пад Рудзенск глядзець, як працуюць канавакапальнікі, сканструяваныя беларускімі механізатарамі. Усё, што датычыцца зямлі, хвалюе паэта. Канавакапальнікі яму спадабаліся.

— Вось бы прыдумаць такую машыну, каб сама збірала каменне з беларускіх палёў...

*Антаніна Харкевіч*[1]

## Каб быць добрым настаўнікам...

Вялікая радасць і ўдзячнасць ахапілі мяне, калі я атрымала адказ на сваё пісьмо. Якуб Колас пісаў: «Мілая Антаніна Феліксаўна! Атрымаў Ваша пісьмо. Парады даваць — рэч даволі цяжкая і адказная, асабліва калі гэтыя парады звязваюцца з такімі вялікімі пытаннямі, як выбар жыццёвага шляху. Тут, мне здаецца, трэба дзейнічаць у адпаведнасці і са сваімі схільнасцямі, да чаго больш ляжыць сэрца. Калі ж гаварыць, у якой галіне чалавек можа быць вельмі карысным для іншых, то такой галіной я назваў бы работу і дзейнасць вясковага настаўніка. Але каб быць добрым настаўнікам, трэба шырокая агульная адукацыя і спецыяльная педагагічная, каб умець выхоўваць маленькіх людзей, якія стануць дарослымі і будуць будаваць жыццё. Трэба мець любоў да такіх людзей, любіць працу, прывіць любоў да працы і сумленныя адносіны да жыцця і людзей...»

[1] Антаніна Харкевіч — настаўніца, былы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры НАН Беларусі.

## НА ПАКЛОН ДА ПЕСНЯРА

*Замест заключэння*

Амаль у цэнтры Мінска, побач з шумнай плынню праспекта Незалежнасці, ашчадна прыхаваны ад тлуму вялікага горада будынкамі Акадэміі навук, знаходзіцца запаведны куточак беларускай сталіцы. Пад зямлёй грукоча метро, навокал спяшаюцца людзі і машыны... А тут шумяць сосны, чуюцца птушыныя галасы, цешаць людское вока непаседы вавёркі.

Стаіць мая хата між хвой кучаравых,
І купіна жыта на клумбе пры ёй.
Свая ў мяне пожня, і дрэўцы, і травы.
Пляцоўка, і двор свой, і я сабе свой.

Выходжу з хаціны, спынюся спачатку,
Ды вокам акіну скляпенне нябёс:
А можа, там вецер пагнаў сваё статка,
Дажджлівыя хмары ў маланках панёс?

Гэтак лагодна і душэўна пачынаецца верш Якуба Коласа «З майго летапісу». Любіў пясняр свой родны мінскі кут, як і той незабыўны, дзе першы раз ступіў па зямлі, адкуль пайшоў у вялікі свет...

Напачатку на гэтым месцы стаяла драўляная хата, у якую пасля вайны пасяліўся народны паэт, пазней з'явілася цагляная прыбудова. А да 70-годдзя песняра быў узведзены ўвесь двухпавярховы цагляны дом.

Кожны, каму пашчасціла хоць раз пабыць тут, сустрэцца з мудрым, чалавечным гаспадаром, застаўся навекі ўдзячны лёсу. Найчасцей завітвалі да дзядзькі Якуба яго калегі па творчасці — беларускія літаратары.

Успамінае народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін: «Упершыню я асабіста сустрэўся з Якубам Коласам у 1949 го-

дзе. Дагэтуль я бачыў яго толькі на нашых пісьменніцкіх сходах, пленумах, чуў выступленні, але непасрэдна гутарыць з ім не даводзілася. І вось аднойчы ўлетку група маладых пісьменнікаў — Антон Балевіч, Кастусь Кірэенка, Іван Мележ, Янка Брыль, Аляксей Русецкі, Анатоль Вялюгін, Іван Грамовіч, Мікола Аўрамчык і я — наведала Якуба Коласа.

Прызнаюся шчыра, што спачатку я адчуваў некаторае расчараванне ад сустрэчы. Праходзіць паўгадзіны — размова пра жыта, яблыні, спёку, засуху; мінае гадзіна — Якуб Колас расказвае пра тое, што ён бачыў у вёсцы, куды два дні назад наведаўся, як там жывуць людзі, што яны гавораць, пра што думаюць.

Пад канец сустрэчы мне не хацелася ўжо размовы на спецыяльна літаратурныя тэмы. Я зразумеў: усё, што было сказана за час сустрэчы, не было выпадковасцю. Проста, без надакучлівых павучанняў Якуб Колас вучыў нас самаму галоўнаму: як пісьменнік павінен ставіцца да жыцця, да людзей».

Цеплынёй і клопатам атуляў пясняр кожнага. Коласу пісалі, да яго ішлі. Прасілі дапамогі ці проста гутарылі, як з мудрым, сардэчным чалавекам.

Дом народнага паэта і цяпер, набыўшы годнасць музея, гасцінна сустракае людзей. Праходзячы з аднаго пакоя ў другі, яны ўважна аглядаюць матэрыялы, што раскрываюць слаўны шлях вялікага беларуса.

З заміраннем сэрца пераступаюць наведнікі парог рабочага кабінета, дзе ўсё захавана ў такім выглядзе, як і пры жыцці гаспадара. На стале — пісьмовыя прылады, гадзіннік, барометр, бюст Пушкіна... Ад першых прачытаных кніжак і да апошняга дня — Колас з геніем рускай паэзіі. Тут ён няўтомна працаваў над сваімі творамі. Адзін з іх, паэма «На шляхах волі», застаўся незакончаным...

На рабочым стале — недапісаны ліст у Маскву літаратару Яўгену Мазалькову, датаваны 13 жніўня 1956 г. — днём смерці песняра.

«Вы павінны расцэньваць мяне не як паэта, а як работніка канцылярыі ў яе розных галінах. Гэта мяне ўзносіць і зніжае. Я ж паэт на 50%. А дзе астатнія 50 працэнтаў, Вы, думаю, ведаеце...»

І нам вядома, якім справам аддаваў палавіну сваёй душы Якуб Колас. Ён быў нястомным грамадскім дзеячам. Вялікія гуманістычныя ідэалы пясняр сцвярджаў не толькі радкамі твораў, але і штодзённай арганізатарскай работай.

Каля паўсотні гадоў мінула з часу, як расчыніў свае дзверы Літаратурны музей Якуба Коласа (цяпер — Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа). Чатыры экспазіцыі за гэты перыяд перажыў ён. Тысячы людзей пабывалі тут.

«Мы мелі шчасце бываць у гэтым доме яшчэ пры жыцці яго гаспадара, — пішуць у кнізе водгукаў адны з першых наведнікаў музея Янка Брыль і Анатоль Вялюгін. — Цяпер у Доме-музеі нельга без глыбокага хвалявання думаць пра незабыўнага дзядзьку Якуба. Ён заўсёды з намі, але тут светлая памяць яго напаўняецца асаблівым зместам...»

Шчымлівыя радкі пра музей песняра напісаў народны паэт Беларусі Максім Танк:

### Наведванне Дома Якуба Коласа

Зноў асцярожна  
па маўклівых сходах  
Заходжу ў яго дом. Стары кажух —  
Як зборнік прыказак  
і прымавак дзівосных.  
Забіўшыся ў куток, стаяць валёнкі,  
Пра даўнія дарогі ўспамінаюць  
І дзівяцца, чаму пра іх забылі.  
Чарнее трубка тэлефонная, як шпак,  
На ворыве пісьмовага стала,  
Дзе недаканчанага пісьма  
Чарнеюць першыя барозны.  
Неспадзявана, пэўна, госця-смерць  
Аклікнула яго. І ён адклаў пяро,  
З якім, як з цудадзейным талісманам  
Непадуладны быў нікому.  
Адклаў пяро і на сустрэчу выйшаў.  
Нат дзеці не паспелі папярэдзіць.  
А можа, не пазналі, бо яна  
да кожнага  
З'яўляецца пад выглядам іншакшым,  
З другой,  
загадкавай усмешкай на абліччы.  
І да яго магла прыйсці  
сястрою медыцынскай,  
Суседкаю, прасіцелькаю нейкай  
Ці паэтэсай пачынаючай, якая

Пачуць хацела свой прысуд ад Зеўса.
Адклаў пяро... Нашто яго адклаў?!

«Мы ведаем і паважаем вялікага беларускага пісьменніка Якуба Коласа, — прызнаюцца мангольскія літаратары. — Ён паказаў нам выдатны прыклад барацьбы за свабоду».

«Перад такім чалавекам міжволі хочацца схіліць галаву і ад усяго сэрца падзякаваць яму за тое, што ён зрабіў для нас і для будучых пакаленняў», — так выказаў свае ўражанні пасля азнаямлення з музеем вучоны з Разані У. Антонаў.

«Мы, прадстаўнікі афганскай літаратуры, рады былі наведаць музей Якуба Коласа на цудоўнай беларускай зямлі. Нашы ўражанні аб гэтым застануцца незабыўнымі».

«Як член балгарскай культурнай дэлегацыі і як балгарскі пісьменнік я наведаў дом-музей вялікага беларускага паэта Якуба Коласа. Наш народ яго любіць, мы даўно ўжо яго перакладаем. Слава буйнейшаму пісьменніку братняй Беларусі! Ангел Тодараў».

«Вельмі спадабаўся музей, — прызнаецца Аляксандр Пухаеў. — Пастараюся перакласці вершы любімага паэта беларускага народа на сваю асецінскую мову».

Розны люд завітвае. Наведнікі розных узроставых і адукацыйных «цэнзаў», нацыянальнасцей... А думкі, хваляванні тыя ж. Па-рознаму, вядома, выказаныя. Школьнікі нашы, напрыклад, паглыбляюць веды, атрыманыя на ўроках беларускай літаратуры. «Абяцаем яшчэ больш любіць вялікага песняра», — часта заяўляюць яны. Гэтаксама і навучэнцы вучылішчаў, тэхнікумаўцы «клянуцца». Хто ж з Коласам у школе не знаўся, радуюцца незабыўнай сустрэчы з ім праз ягоны родны дом. «Нам, вучням з далёкай Чувашыі, — чытаем у адным з запісаў, — вельмі цікава было даведацца аб жыцці і творчасці народнага паэта Беларусі Якуба Коласа». Іх думкі падзяляюць студэнты Лейпцыгскага універсітэта імя К. Маркса: «Мы атрымалі карціну жыцця выдатнага беларускага паэта».

«Мы папоўнілі свае веды пра такога вялікага чалавека. Наведанне музея надоўга застаецца ў нашай памяці», — пішуць вучні 726-й сярэдняй школы Масквы. «Нам вельмі спадабалася экспазіцыя музея, — заўважаюць студэнты Севастопальскага прыборабудаўнічага інстытута. — Мы даведаліся шмат новага, цікавага аб жыцці і творчасці паэта, у нас узнікла моцнае жаданне яшчэ больш даведацца пра яго, прачытаць яго кнігі». Такі ж намер і ў вучняў 33-й сярэдняй школы Кішынёва: «Пры-

едзем — падзелімся сваімі ўражаннямі з таварышамі і пачытаем вершы».

Выдатны знаўца музейнай справы, пісьменнік і артыст Іраклій Андроннікаў:

«З вялікай цікавасцю агледзеў гэты незвычайны музей — доказ неўміручага жыцця Якуба Коласа. З любоўю, глыбокім веданнем жыцця і духу выдатнага паэта пабудавана экспазіцыя, а мемарыяльны кабінет і спальня выклікаюць такое адчуванне, што паэт увойдзе зараз сюды сам. Ад'язджаю ў Маскву, а ў вачах і ў сэрцы назаўсёды застаецца домік, дзе жыў Якуб Колас і дзе лунае яго неўміручы дух».

«У гэтай мудрай цішыні слухаў Якуба Коласа. Не знаходзіў слоў, каб што-небудзь сказаць. Аляксей Пысін».

Даўні друг Беларусі, ленінградская паэтэса, перакладчыца твораў песняра на рускую мову Марыя Камісарава:

«Сёння я зноў прачытала старонку за старонкай вялікую кнігу жыцця і творчасці Якуба Коласа. Я дакранулася сэрцам да яго бессмяротнасці, як да чысцейшай глыбокай крыніцы, якая дае сілу душэўную. У пакоях музея такая цішыня і засяроджанасць, што хочацца моўчкі і доўга пабыць тут, перажыць убачанае і вынесці з сабой уражанне перажытага».

«Пабываўшы ў доме Якуба Коласа, я быццам зноў сустрэўся з гэтым слаўным сынам і бацькам свайго народа, — піша ў кнізе водгукаў кампазітар Атар Тактакішвілі. — Магутны паэт, плоць ад плоці сваёй Радзімы, дакрануўся да нашай грузінскай культуры, напісаў выдатны верш да юбілею Руставелі. Грузінскія чытачы цэняць і любяць гэты верш, як і многія творы народнага паэта Беларусі і ўсёй нашай краіны — Якуба Коласа».

«Глыбока ўразіла жыццё і творчасць беларускага паэта і рэвалюцыянера Якуба Коласа. Манфрэд Вайнерт, пісьменнік (ГДР)».

Пасля другога касмічнага палёту пабываў у Мінску Пётр Клімук. Завітаў ён і на Коласаву сядзібу. У кнізе водгукаў пакінуў уражанні:

«З хваляваннем наведаў музей народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, вершы якога я з дзяцінства помню і люблю. Таму і ў космас узяў кніжачку яго паэзіі. Там, у прасторах сусвету, асаблівым сэнсам напаўняліся бессмяротныя словы:

> Мой родны кут, як ты мне мілы!..
> Забыць цябе не маю сілы!

«Спадарожніца» беларускага касманаўта, як дарагая рэліквія, беражліва захоўваецца ў музеі.

Удзельнікі Дзён літаратуры г. Ленінграда, што праходзілі ў Беларусі ў 1985 годзе, запісалі:

«Выдатны лёс народа, які нараджае вялікіх паэтаў і клапатліва захоўвае памяць пра іх. Якуб Колас — беларус, але мы, ленінградцы, лічым яго і сваім старэйшым братам».

Аўтары запісаў выказваюць і асабістае дачыненне да біяграфіі песняра.

«Тут маё сэрца, тут маё слова, тут мая сляза». Гэтае балючае сцвярджэнне належыць пяру аўтара унікальнай кнігі «Колас расказвае пра сябе» Максіму Лужаніну. З 1947 года ён нёс руплівую даніну вялікаму песняру як ягоны асабісты сакратар.

«Няхай будзе густа ўтаптана сцежка да гэтай Хаты! Няхай вечна гучыць у народзе жывая песня дзядзькі Якуба!» — такое пажаданне выказаў у кнізе водгукаў заслужаны дзеяч культуры Беларусі, пісьменнік Аляксей Слесарэнка. Яму блізкі быў Коласаў дом пры жыцці гаспадара, пазней не адзін год працаваў у музеі народнага паэта. Актыўна папулярызаваць яго творы чытальнік-энтузіяст стаў пасля бацькаўскага блаславення самога Канстанціна Міхайлавіча.

Пачытаем верш-споведзь Паўла Пруднікава «У музеі Якуба Коласа»:

Дзядзька Колас,
мабыць, не чакалі?..
Дык даруйце, што турбую Вас.
Пільна трэба:
хутка уцякае
Скарацечны, апантаны час.

Я прыйшоў да Вас не так —
на споведзь,
Як і сорак год таму назад.
Вашы думы,
што разлогі поля,
Вашы мары,
што вянок прысад.

Прычыняю — каб не скрыпнуць! —
дзверы,
Каб без гуку у музей ступіць.
Я прывык у Вашу шчодрасць верыць,
Бо яе за грошы не купіць.

Гэта Вы давалі блаславенне
Майму сэрцу і маёй душы.
Гэта Вы мне зычылі сумлення,
Без якога б нельга было жыць.

А ў часіну грознае навалы,
Калі вораг смерцю пагражаў,
Вы тады паўсталі грозным валам
І мяне, як бацька, ратавалі
Ад таго,
хто рэзаў без нажа.

Як жа мне забыць Вас,
не наведаць,
Не пачуць душою Вашых слоў?!
Не ішоў сюды я даўнім следам —
Пачуццё на крылах прынясло.

Я прыйшоў сказаць,
што буду Вашым
Да скончэння ўласнага жыцця
І што дружбу зберагу я нашу
Да майго тупога забыцця.

Дацэнт Белдзяржуніверсітэта, літаратуразнавец Любоў Тарасюк закончыла Пінкавіцкую школу імя Якуба Коласа Пінскага раёна. Пасля наведання ў 1958 годзе музея народнага песняра запісала:

«Якуб Колас. Для мяне і маіх сяброў — гэта не проста выдатны беларускі пісьменнік. З яго імем звязаны самыя дарагія ўспаміны. Канстанцін Міхайлавіч працаваў у нашай палескай вёсцы. За тыя некалькі гадоў ён пакінуў у памяці пінкавіцкіх сялян толькі самыя добрыя ўспаміны. Нам, цяперашнім вучням, расказваюць пра Якуба Коласа яго былыя выхаванцы. А каля старой школы, той самай, у якой ён некалі вучыў дзяцей, расце груша, пасаджаная яго рукамі. Усё нібыта гаворыць пра тое, што жыў тут калісьці вялікі настаўнік і беларускі народны пясняр. Сваё Пінкавічы мы з любоўю называем Лабановічамі.

Пабываць у музеі Якуба Коласа ў Мінску марылі мы даўно. І вось цяпер прайшлі па пакоях, дзе калісьці хадзіў сам пясняр. Тут мы пазнаёміліся з многімі цікавымі экспанатамі, праслухалі захапляючы расказ пра народнага паэта. Вельмі ўдзячныя Коласавай сястры Алене Міхайлаўне за лагодную гутарку з намі».

«Мой бацька, сельскі настаўнік, выкладчык беларускай мовы і літаратуры, з ранняга дзяцінства прывіў мне любоў да кніг, асабліва да твораў беларускіх пісьменнікаў, — піша медсястра А. Махлай. — У сузор'і любімых мною аўтараў самым яркім свяцілам з'яўляецца Якуб Колас. Я — зямлячка славутага дзеда Талаша. І гэта яшчэ больш мяне зближае з вялікім песняром. Таму з незвычайнай радасцю наведала яго музей. Сваімі прыемнымі ўражаннямі дзялюся з сябрамі — калегамі-медыкамі».

Іван Сцяпура, саветнік былога старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча, у 1971 годзе, быўшы студэнтам БДУ, выказаўся так:

«Я часта бываю ў гэтым памятным кутку Беларусі ў свайго родзіча. І кожны раз з хваляваннем пераступаю парог дому незабыўнага песняра.

Я — студэнт-географ. І хоць па вучобе з літаратурай не сутыкаюся, разумею, як неабходна вывучаць творчасць Якуба Коласа. Яна дапамагае і нашаму брату мацней любіць сваю зямлю, родны край».

А гэта — журботны ўспамін мастака Лявона Баразны, занатаваны ў кнігу водгукаў у 1967 годзе:

«Сёння я зноў, быццам і не было гэтых дзесяці-адзінаццаці гадоў, сустрэўся з дзядзькам Якубам.

Жыве ён у нашых сэрцах і незабыўны ў апошні час развітання. Цяжка мне было трымаць вяроўку, якая апошні раз дазволіла сказаць яшчэ: «Бывай, наш бацька, наш дзед, наш сын зямлі Белай Русі!»

Малюнак развітання і цяпер я бачу, быццам было гэта нядаўна. Але не жадаем мы апошніх развітанняў, а патрэбны нам ранішнія сустрэчы».

Літаратурная спадчына песняра — багацейшы скарб беларусаў. Захаваць яго, даследаваць, зрабіць здабыткам мас — гэтую пачэсную штодзённую місію ў першую чаргу выконваюць супрацоўнікі музея.

У сценах Коласавага дому людзі далучаюцца не толькі да песняровага свету. Тут, як рэдка ў якой сталічнай установе, чуецца ганаравана родная мова. Прыемна ад наведнікаў займець такое:

«Настаўнікі і вучні 90-й школы г. Ленінграда дзякуюць за цікава праведзеную экскурсію ў музеі. Асабліва прыемна было, што экскурсія вялася на беларускай мове».

«Мы, вучні з г. Крымска, дзякуем работнікам музея за поўны расказ пра Якуба Коласа. Нам усім вельмі спадабалася беларуская меладычная мова».

«Шчыра дзякуем за тое, што так свята беражаце народныя традыцыі, шануеце родную мову. З павагай турысты з Вінніцыны».

«Група турыстаў з Кіеўскай вобласці дзякуе супрацоўнікам музея за выдатную экскурсію. Асаблівую цікавасць выклікала тое, што гутарка вялася на беларускай мове, якая аказалася такой блізкай і зразумелай усім».

«Вучні з г. Кішынёва дзякуюць экскурсаводу за выдатны расказ на беларускай мове».

І такіх запісаў багата.

«Вялікі дзякуй за сакавітае беларускае слова», — кажуць дэлегаты VII З'езда настаўнікаў Беларусі.

«Было асабліва цікава слухаць расказ на беларускай мове» вучням з г. Ізмаіла.

«Домік-музей і родная беларуская мова хвалююць» супрацоўнікаў трэста «Прамбудвод».

«За цудоўную мову, пачутую ўпершыню», дзякуюць вучні з г. Ачакава.

«Пабываўшы ў музеі, больш яскрава адчуваем сувязь з роднай зямлёю, з яе працавітым народам, — заўважаюць рабочыя ВА «Інтэграл» г. Мінска. — Такой прыгожай падалася нам родная мова! Як жа трэба шанаваць, захоўваць, узбагачаць яе, каб беларускае слова гучала і па-за сценамі музея!»

Коласава сядзіба. Коласаў дом. Святымі сталі для нас гэтыя словы. Іх мы прамаўляем з пашанаю і ўзрушэннем. Каб сэрцам адчуць жыццёвую мудрасць і чалавечую прастату, ідуць сюды людзі.

Два каласы — дзве праўдзівыя песні
Поплеч, як сёстры, ідуць у свет...
Колькі вы радасці людзям прынеслі,
Колас жытнёвы і Колас — паэт!

*Р. Тармола-Мірскі*

# ЗМЕСТ

## СПОВЕДЗЬ ЛІТМУЗЕЙЦА



## ВОБРАЗЫ МІЛЫЯ

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Курбека** Іван Сцяпанавіч

**ЗАПРАШЭННЕ Ў МУЗЕЙ**

*Успаміны, вершы, публіцыстыка*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Валянціна Аскерка*
Камп'ютэрны набор і вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 14.03.2008 г.
Фармат 84x108 1/32.
Друк на рызографе. Папера афсетная.
Гарнітура Times.
Ул.-выд. 8,09 арк. Ум. друк. 11,34 арк.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 382.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў друкарні УП «Ходр» БелТІЗ.
Ліцэнзія ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.

